● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

27 чэрвеня 1996 г. чацвер, №№ 162—163 (22965—22966)



# ЗВЯЗДА

*...ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## НА «БЕЛВАРЫ» ХОДЗЯЦЬ ХМАРЫ

**Учора ў шэсць гадзін раніцы каля прахадной Беларускага вытворчага аб'яднання радыётэхнікі «БелВар» пачаўся мітынг. Асноўнае патрабаванне датычылася выплаты заработнай платы за красавік-май. Даведзеныя да адчаю працоўныя 26 чэрвеня зусім не выйшлі на работу.**

У дзевяць гадзін раніцы людскі натоўп запоўніў усю прастору перад прахадной і на другім баку вуліцы ля фотастудыі «Быліна». Міліцыі амаль не было — звычайны пост ДАІ. З размовы з працоўнымі ўдалося высветліць агульны малюнак развіцця канфлікту: уся справа ў тым, што і кіраўніцтва вытворчага аб'яднання, і непасрэдна сам генеральны дырэктар сп. Ярохаў з пачатку чэрвеня абяцалі запазычанасць па заробку ліквідаваць. 1 чэрвеня Ярохаў сустракаўся з прадстаўнікамі механічнага цэха, 18-га — рэгуліровачнага. Тады ж была ўстаноўлена апошняя мяжа выплаты заработнай платы — 24 чэрвеня. Дагавор ёсць дагавор і яго трэба выконваць, памятаеце прымаўку: «Даў слова — трымай». Але ж сп. Ярохаў слова сваё яўна не трымае — у панядзелак, 24 чэрвеня, працоўныя абяцаных грошай так і не ўбачылі. І вырашылі змагацца за свае правы праз арганізацыю стачкі. На чале гэтага руху выступілі працоўныя механічнага цэха, якія ўжо 24 чэрвеня спынілі работу, а 26-га ўвесь «БелВар» выйшаў на пляцоўку перад прахадной. «Што ж мы, робаты якія, — гаварылі людзі, — не даведкамі ж дзяцей сваіх карміць». Дарэчы, ужо трэці месяц белвараўцы трымаюць у кішэні даведкі, якія сцвярджаюць: «У сувязі з цяжкім фінансавым становішчам зарплата не выдавалася за красавік-май». Гэты дакумент — своеасаблівы «праязны», прад'яўляецца замест платы за праезд. Толькі ў метро з ім чамусьці не пускаюць...

Старая жанчына расказвала мне са слязамі на вачах аб тым, што прыходзіцца дзяліць булачку на тры часткі, а бутэльку малака расцягваць на некалькі дзён. «Мы на заводзе з дачкой працуем, налічваюць па чатырыста тысяч рублёў кожнай, вось і жыві», — скардзілася яна...

У дзевяць гадзін раніцы генеральны дырэктар разам з працоўнай дэлегацыяй у саставе пяці чалавек паехалі ў Кабінет Міністраў па дапамогу (запозненае рашэнне, праўда. — М. Л.).

На 14 гадзін дня 26 чэрвеня стачка на «БелВары» працягвалася, хаця колькасць працоўных каля прахадной пачала змяншацца. Людзі адыходзілі дамоў раззлаваныя, не ведаючы таго, што будзе заўтра: звальненне, працяг бясплатнай працы ці зноў стачка.

Праз нейкі час прыехаў генеральны дырэктар і паведаміў забастоўшчыкам, якія засталіся, пра тое, што заробак за красавік яны змогуць атрымаць 27 чэрвеня. Майскія грошы пакуль пад пытаннем. Частка рабочых пайшла дадому, а самыя ўпартыя працягвалі чакаць вяртання Ярохава, які паехаў па грошы. Звязаўшыся са старшынёй прафсаюза радыёэлектронікі Генадзем Фядынічам, мы даведаліся пра невырашанасць пытання з выплатай нават красавіцкіх грошай. Таму што кіраўніцтва Прамбудбанка згадзілася выдаць крэдыт толькі пад урадавыя гарантыі, якіх пакуль няма. «І невядома, -- як зазначыў Фядыніч, -- калі пачнецца выдача грошай».

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЯШЧЭ ДА СУСТРЭЧЫ З БЕЛАРУСКІМ ПРЭЗІДЭНТАМ ФРАНЦУЗЫ ЗМОГУЦЬ ДАВЕДАЦЦА АБ НАШАЙ КРАІНЕ

**Напярэдадні афіцыйнага візіту ў Францыю, намечанага на 11—13 ліпеня, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 26 чэрвеня ў сваёй рэзідэнцыі даў інтэрв'ю французскаму журналісту-палітолагу Патрыку Бруно. Імя гэтага майстра пяра вядома не толькі на яго радзіме, але і ва ўсім свеце. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што яму вельмі прыемна сустрэцца са славутым журналістам.**



Фота БЕЛТА.

Французскага госця цікавілі не толькі эканамічныя і палітычныя працэсы, што адбываюцца ў нас у краіне, але і асоба першага беларускага Прэзідэнта. Таму частку больш чым гадзіннай размовы заняў расказ Аляксандра Лукашэнкі аб сваёй мінулай рабоце, аб асабістых поглядах на працэсы, што адбываюцца ў свеце.

«Некаторыя заходнія наглядальнікі адзначаюць, што пры прыняцці многіх рашэнняў беларускі Прэзідэнт звяртаецца па патрымку да народа», — сказаў Патрык Бруно, перад тым, як задаць пытанне: чаму выбраны менавіта гэты метад. Адказваючы, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «У мяне няма сваёй палітычнай партыі, і калі б не падтрымка народа, то мне было б цяжка выстаяць у перыяд рэформаў. Я шчаслівы, што мяне падтрымлівае менавіта народ». Гэту пазіцыю кіраўнік дзяржавы будзе захоўваць і ў далейшым. Ён адзначыў, што мае намер правесці яшчэ мінімум два рэферэндумы і параіцца з народам па самых жыццёва важных пытаннях.

Закранаючы неадназначнасць успрымання ў краіне працэсаў збліжэння Расіі і Беларусі, Прэзідэнт падкрэсліў, што ў дэмакратычным грамадстве і не можа быць адзінай ацэнкі, заўсёды ёсць апазіцыя, якая крытыкуе любыя дзеянні ўладаў. Сцвярджэнне аб тым, што ў нашай краіне парушаюцца правы чалавека, Аляксандр Лукашэнка лічыць беспадстаўным: «Існуючая ў нас палітычная сістэма, гэтак жа, як у Францыі і ЗША, прадугледжвае моцную ўладу — інакш няма сэнсу гаварыць аб дзяржаўнасці. І калі ўлады Беларусі дзеля захавання стабільнасці ў краіне часам абыходзяцца жорстка, я заўсёды пытаюся ў сябе: а як бы зрабілі на Захадзе ў такой жа сітуацыі?»

Адказваючы на пытанне аб абараназдольнасці нашай краіны, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што Беларусь і ў будучым будзе прытрымлівацца статусу бяз'ядзернай дзяржавы. Што ж датычыць абароны цэласнасці дзяржавы, то, паводле слоў Прэзідэнта, у Беларусі армія дастаткова баяздольная, валодае сучаснай тэхнікай.

У час сустрэчы размова таксама ішла аб перспектывах развіцця нашай рэспублікі, аб магчымасці ўвядзення ў Беларусі прыватнай уласнасці на зямлю, іншых эканамічных рэформах. Былі закрануты і праблемы ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, барацьбы са злачыннасцю.

Завяршаючы інтэрв'ю, Патрык Бруно адзначыў, што самая складаная праблема любой маладой дзяржавы — распаўсюдзіць у свеце інфармацыю аб сабе. У адказ на гэта Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Я спадзяюся, цяпер у Францыі будзе чалавек, які сумленна раскажа аб нашай краіне».

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## «СМАЛЕНСКАЯ СУСТРЭЧА» — КАНКРЭТНЫ КРОК ПА НАПАЎНЕННЮ ЗМЕСТАМ ДАГАВОРА АБ УТВАРЭННІ СУПОЛЬНІЦТВА

Па прапанове старшыні Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі Генадзя Селязнёва першае пасяджэнне Парламенцкага сходу Супольніцтва Беларусі і Расіі, праведзенае 25 чэрвеня на смаленскай зямлі, вырашана было назваць «Смаленскай сустрэчай». А спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі, падводзячы вынікі сустрэчы, падкрэсліў яе асаблівую важнасць для народаў дзвюх дзяржаў. Паводле яго слоў, «зроблены канкрэтны крок па напаўненню зместам Дагавора аб утварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісанага прэзідэнтамі і ратыфікаванага парламентамі абедзвюх краін».

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## УЛАСНАСЦЬ НА ЗЯМЛЮ Ў ЦЭНТРЫ ЎВАГІ ДЭПУТАТАЎ

**25 чэрвеня працягнула работу сесія Вярхоўнага Савета Беларусі. Дэпутатамі быў адобраны закон, які рэгулюе парадак накіравання беларускіх вайскоўцаў і супрацоўнікаў міліцыі за мяжу для выканання заданняў і ўдзелу ў міратворчых аперацыях. Акрамя таго былі прыняты папраўкі ў Закон «Аб пракуратуры ў Рэспубліцы Беларусь». Большую частку вячэрняга пасяджэння парламентарыі прысвяцілі абмеркаванню праекта пастановы «Аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь на 1996 год» і прыйшлі да высновы, што прымаць пастанову ў тым выглядзе, у якім яна прадстаўлена, у сярэдзіне года не мае сэнсу.**

Як ўжо паведамлялася раней, 25 чэрвеня дваццаць пяць дэпутатаў заканадаўчага органа Беларусі прынялі ўдзел у пасяджэнні Парламенцкага сходу Супольнасці Беларусі і Расіі, які адбыўся ў Смаленску. Таму найбольш важныя пытанні парадку дня сесіі меркавалася разгледзець толькі пасля іх вяртання ў сераду. Што і было зроблена. 26 чэрвеня з раніцы на суд заканадаўцаў былі вынесены законы, з палажэннямі якіх не пагадзіўся Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, накіраваўшы іх на дапрацоўку ў Вярхоўны Савет. Аднак увесь пакет дакументаў быў паўторна перагаласаваны дэпутатамі і адобраны канстытуцыйнай большасцю. Такім чынам, уступілі ў сілу Законы «Аб ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь», «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў», «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь», «Аб ветэранах» ды іншыя. Пасля гэтага дэпутаты дапоўнілі некалькімі артыкуламі Крымінальны Кодэкс краіны. У прыватнасці, яны зацвердзілі адказнасць за прымушэнне да невыканання рашэнняў Канстытуцыйнага суда і за бяздзейнасць уладаў. Гэтыя палажэнні былі прыняты згодна з Пастановай Вярхоўнага Савета «Аб Пасланні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь ў 1995 годзе».

Асабліва цяжка даліся парламенту папраўкі ў Закон «Аб праве ўласнасці на зямлю». Дарэчы, гэты законапраект разглядаецца на бягучай сесіі не першы раз. Учора ж катэгарычна супраць яго прыняцця выступіла фракцыя партыі камуністаў. Камуністы прапаноўвалі перанесці разгляд законапраекта на асеннюю сесію, аднак астатняя частка парламента мела процілеглы пункт погляду. У выніку перамагла большасць: камуністы, хоць і моцна супраціўляліся, не змаглі блакіраваць ґаласаванне. У выніку спачатку паартыкульна, а потым і цалкам закон быў адобраны. Трэба меркаваць, што пасля ўступлення яго ў сілу сфера гандлю і арэнды зямлі будзе больш ліберальнай, што дасць падставы для прыцягнення ў рэспубліку замежных інвестараў.

На 26 чэрвеня было запланавана і пасяджэнне Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі, на якім яе члены хацелі абмеркаваць пытанне адносна рэдактара «Народнай газеты». На пасяджэнне камісіі былі запрошаны і два прэтэндэнты на гэтую пасаду: сённяшні кіраўнік выдання Міхаіл Шыманскі і былы галоўны рэдактар Мікалай Галко. Аднак адсутнасць кворуму на пасяджэнні камісіі не дазволіла ажыццявіць запланаванае. Таму пасяджэнне перанесена на раніцу 28 чэрвеня.

У другой палове дня ўчора парламент абмяркоўваў у другім чытанні Закон «Аб навуковай дзейнасці».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ**

## АДНЫМ СКАЗАМ

● **21 прадпрыемства не выплаціла** працуючым заработную плату за люты (12 мільярдаў рублёў) і **54 прадпрыемствы** — за красавік (46,9 мільярда рублёў).

● Асацыяцыя камерцыйных банкаў прапаноўвае **дапусціць рост курса долара ў адпаведнасці з інфляцыяй** пры максімальна магчымым стрымліванні апошняй.

● Каціроўкі USD на пазабіржавым міжбанкаўскім рынку вагаюцца ў межах **16.000—16.500 беларускіх рублёў за долар.**

● Сёння **да 40 працэнта**ў, а на некаторых прадпрыемствах **да 80 працэнтаў** гатовай прадукцыі не знаходзіць збыту.

● **Сусветная цана золата** зараз складае каля 385 долараў за унцыю, **серабра** — 5,2 долара.

● На закрытым судовым пасяджэнні па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці **«Магнатбанка» аб'яўлена чарговая адтэрміноўка** па выкананню ім даўгавых абавязацельстваў на тры месяцы.

● На другую змену аздараўленчага сезона школьнікаў **патрабуецца 156 мільярдаў рублёў.**

● **Узровень інфляцыі**, паводле ўрадавых даных, **з 39 працэнтаў** у студзені 1995 года знізіўся **да 0,6 працэнта** ў маі бягучага.

● **У 37 вёсках Магілёўшчыны,** дзе былі ўзяты пробы малака ад мясцовых кароў, яны **аказаліся з перавышэннем дапушчальных узроўняў па ўтрыманню цэзію-137.**

● **З ліпеня жыхары сталічных мікраранаў «Малінаўка» і «Паўднёвы Захад» змогуць прымаць 16 праграм тэлебачання**, а ў недалёкім будучым сістэма эфірна-кабельнага тэлебачання ахопіць усю тэрыторыю горада.

● На ўборачную кампанію гэтага года Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання запрасіла ад ўрада **1,7 трыльёна рублёў.**



## Да ўвагі чытачоў

**У СЁННЯШНІМ НУМАРЫ «ЗВЯЗДА» ПА ШМАТЛІКІХ ПРОСЬБАХ ЧЫТАЧОЎ ДРУКУЕ НОВЫЯ ПРАВІЛЫ ДАРОЖНАГА РУХУ, ЯКІЯ ПАЧНУЦЬ ДЗЕЙНІЧАЦЬ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ З 1 ВЕРАСНЯ 1996 ГОДА.**

**Тэкст Правілаў зроблены ў выглядзе газеты-брашуры. Каб ператварыць яе ў кніжачку, спачатку разрэжце аркушы злева, потым выраўнуйце. Складзіце ўпоперак (назва «Правілы дарожнага руху» перад вамі), разрэжце другі раз. Застаецца акуратна перагнуць па вертыкалі — і кніжачка гатова! Яе трэба толькі сшыць або сашчапіць, як гэта робіцца са сшыткам.**

# «СМАЛЕНСКАЯ СУСТРЭЧА» — КАНКРЭТНЫ КРОК ПА НАПАЎНЕННЮ ЗМЕСТАМ ДАГАВОРА АБ УТВАРЭННІ СУПОЛЬНІЦТВА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

— Наша Супольніцтва мае вялікую будучыню. Яно дапаможа эфектыўнаму руху наперад дзяржаў па шляху рэформаў, уздыму эканомікі, умацаванню дружбы паміж народамі. Несумненна, развіццё і ўмацаванне Супольніцтва поўнасцю адпавядае нацыянальным інтарэсам дзвюх краін, садзейнічае ўзнікненню прадпасылак для пераадолення крызісу, — сказаў С. Шарэцкі.

«Беларуска-расійскі Дагавор прадугледжвае вырашэнне многіх пытанняў, што закранаюць узаемныя інтарэсы грамадзян Беларусі і Расіі, — лічыць старшыня Дзярждумы Генадзь Селязнёў. — З гэтага года беларускія і расійскія абітурыенты змогуць паступаць у любую ВНУ дзвюх краін. Зняты мытныя пасты, спрашчаецца працэдура прыёму на работу. І цяпер вельмі важна на ўзроўні нацыянальных парламентаў прывесці ў адпаведнасць усе законы».

Што датычыць самога пасяджэння, то найбольшая колькасць выступленняў дэпутатаў датычала распрацоўкі і ўнясення на разгляд Парламенцкага сходу мадэльнага заканадаўчага акта, што вызначае роўны статус грамадзян абедзвюх дзяржаў у рамках Супольніцтва. У прынятай у сувязі з гэтым пастанове, як адзначыў на брыфінгу старшыня расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў, адзначаецца, што расійскія і беларускія парламентарыі лічаць прыярытэтным напрамкам у дзейнасці сходу уніфікацыю нацыянальнага заканадаўства абедзвюх дзяржаў у галіне правоў і свабод грамадзян. Акрамя таго, камісіі сходу павінны ўнесці прапановы па замацаванню ў заканадаўствах Беларусі і Расіі гарантый свабоды перамяшчэння па тэрыторыі абедзвюх дзяржаў, роўных правоў грамадзян Расіі і Беларусі пры атрыманні адукацыі, у галіне аховы здароўя, працаўладкавання, аплаты працы, сацыяльнай абароны, набыцця маёмасці, уключаючы жылыя памяшканні і іншую нерухомую маёмасць.

Старшынёй Парламенцкага сходу выбраны Сямён Шарэцкі, а яго першым намеснікам — Генадзь Селязнёў. Беларускі спікер будзе старшынстваваць на працягу двух гадоў, на наступныя два гады на гэту пасаду будзе выбраны расіянін. Роўная колькасць прадстаўнікоў ад парламентаў дзвюх дзяржаў будзе выбірацца на пасаду старшынь камісій. Цяпер Камісіяй па пытаннях знешняй палітыкі будзе кіраваць старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па міжнародных справах Пётр Краўчанка, Камісіяй па пытаннях экалогіі і прыродакарыстання — старшыня аналагічнай камісіі ў нашым парламенце Марыя Худая і Камісіяй па бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю — член такой жа камісіі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі Віктар Бурак. Камісіямі Парламенцкага сходу па законапраектных прапановах і рэгламенту, па пытаннях эканамічнай палітыкі, па сацыяльнай палітыцы, культурных і гуманітарных пытаннях будуць кіраваць расійскія парламентарыі.

Нягледзячы на тое, што ўсе рашэнні, што прымаюцца на сесіях Парламенцкага сходу, будуць насіць рэкамендацыйны характар, на думку спікераў абедзвюх дзяржаў, сама спроба уніфікацыі заканадаўчых актаў Беларусі і Расіі заслугоўвае ўвагі. «Ствараючы свайго роду прававы калідор для далейшых дзеянняў выканаўчай улады, парламентарыі тым самым садзейнічаюць больш хуткаму ажыццяўленню спадзяванняў і імкненняў народаў дзвюх краін», — лічыць беларускі спікер.

І ўсё ж засталіся нявырашанымі два немалаважныя пытанні — хто будзе фінансаваць дзейнасць Парламенцкага сходу і дзе адбудзецца наступная сесія? Паколькі абодва пытанні ўзаемазвязаны, адпаведныя рашэнні па іх прыме Вышэйшы савет Супольніцтва. У любым выпадку, наступная сесія, згодна з узаемнай дагаворанасцю, пройдзе, хутчэй за ўсё, у кастрычніку на тэрыторыі нашай рэспублікі. Увогуле мяркуецца праводзіць штогод не менш як чатыры сесіі. Неабходнасць іх больш частага правядзення, паводле слоў С. Шарэцкага, будзе залежаць ад таго, як многа ўзнікне пытанняў унутры Супольніцтва.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

*«ПРАМАЯ ЛІНІЯ»*

*Генадзь ГРУШАВЫ:*

## «Звязда» і БДФ «Дзецям Чарнобыля» разам здольныя ажыццявіць многія і многія праекты...»

**Якраз гэтую акалічнасць сумеснага супрацоўніцтва «Звязды» і фонду «Дзецям Чарнобыля» падкрэсліў Генадзь Грушавы, падагульняючы вынікі праведзенай учора па акцыі «Выратаванне» «прамой лініі». Усяго прэзідэнт праўлення БДФ адказаў на 45 званкоў нашых чытачоў. Дарэчы, пачынаючы з 1 жніўня ўсім, хто адгукнуўся на акцыю «Выратаванне», будзе афармлена бясплатная падпіска на «Звязду» (за кошт БДФ «Дзецям Чарнобыля»).**

Адгукнуліся фонд, Генадзь Грушавы і на наступнае. Ва ўчарашнім нумары «Звязды» быў надрукаваны пад рубрыкай «Крык душы» ліст Івана Евянка з в. Ніўнае Стаўбцоўскага раёна «Прашу не для сябе — для хворага сына». Дзіця гэтага чалавека знаходзіцца на лячэнні ў Маскве. «А вось каб прывезці яго дамоў 16 ліпеня, на білеты грошай няма...» — піша спадар Евянок. Генадзь Грушавы аператыўна прыняў рашэнне аказаць гэтай сям'і дапамогу ў памеры 2 мільёнаў беларускіх рублёў.

Мы паказалі Генадзю Уладзіміравічу і наступны зварот у рэдакцыю. Параска Саскевіч з вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна напісала ў «Звязду»: «...піша вам інвалід з дзяцінства II групы. Да таго ж я — круглая сірата. Жыву з сястрой — маці і бацька памерлі. Хачу, каб які дабрачынны фонд дапамог мне матэрыяльна і я змагла штонебудзь купіць, апрануцца і абуцца. Прыйдзе зіма, а я, як кажуць, і босая, і голая...»

Паважаная Параска Саскевіч, БДФ «Дзецям Чарнобыля» выдзяляе вам дапамогу ў памеры 2 мільёнаў рублёў.

І яшчэ пра адзін праект БДФ і газеты «Звязда». Фонд бачыць найперш сярод сваіх патэнцыяльных памочнікаў настаўніцкую грамадскасць. Паколькі выданнем, якое інфармуе пра ініцыятывы фонду ў самым шырокім плане, з'яўляецца «Звязда», то Генадзь Грушавы паабяцаў, што ў кожны раён Беларусі на 50 адрасоў (хатніх!) настаўнікаў будзе выпісана (бясплатна для саміх настаўнікаў!) наша газета. «Звязда» чакае дакладныя спісы нашых будучых (пачынаючы з IV квартала, з 1 кастрычніка) падпісчыкаў з кожнага раёна, дзе будуць указаны паштовыя адрасы падпісчыкаў, месца іх працы, пасада, прозвішча, імя і імя па бацьку. Спадзяёмся, што ініцыятыву падтрымаюць раённыя аддзелы адукацыі. Грошы на падпіску выдзяляе БДФ «Дзецям Чарнобыля», арганізацыяй падпіскі займаецца непасрэдна «Звязда».

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**P.S. Падрабязная справаздача аб «прамой лініі» з Генадзем Грушавым — у бліжэйшых нумарах «Звязды».**

## ПРАЦОЎНЫЯ МАЗА ВЯРТАЮЦЦА Ў ЦЭХІ. ЦІ НАДОЎГА?

**З 1 ліпеня МАЗ адновіць сваю работу.**

Як паведаміў генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання БелаўтаМАЗ Валянцін Гурыновіч, 22 тысячы работнікаў прыйдуць на свае працоўныя месцы. Аднак як доўга яны будуць забяспечаны работай, сказаць цяжка. Валянцін Аркадзьевіч прагназіруе пакуль толькі адзін працоўны месяц. Верагоднасць чарговага вымушанага адпачынку ў жніўні на сённяшні дзень рэальная.

Па словах кіраўніка прадпрыемства, штодня праводзіцца работа з партнёрамі з далёкага і блізкага замежжа. Перамовы з прадстаўнікамі з «Роскантракта», што адбыліся днямі ў Маскве, станоўчых вынікаў не далі. Пастаянна вядуцца перамовы з нямецкімі кампаніямі «Вольва», «Дэтройт-Дызель» і іншымі. Аднак аптымістычных прагнозаў спецыялісты прадпрыемства і тут не даюць. Разам з тым неабходнасць у прадукцыі завода ёсць і ў Расіі, дзе рэалізуецца да 90 працэнтаў аб'ёму прадукцыі, і ў Беларусі. Тым не менш, Валянцін Аркадзьевіч не выключае, што ўвесь ліпень МАЗ будзе працаваць «на склад». Беларускія ж сельгаспрадпрыемствы, у прыватнасці, не могуць набыць аўтамабілі нават на льготных умовах, выплаціўшы спачатку 30 працэнтаў кошту, а астатняе — на працягу года.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## У ГАСПАДАРКАХ З ТЭХНІКАЙ ПРАБЛЕМЫ

**Сельскія гаспадаркі рэспублікі, адчуваючы вострую патрэбу ў тэхніцы, не маюць магчымасці не толькі яе набыць, але і адрамантаваць.**

У адпаведнасці з данымі Міністэрства статыстыкі і аналізу, калгасы, саўгасы і міжгасы рэспублікі па стану на 1 мая бягучага года мелі ў наяўнасці 106 тысяч 700 трактароў, 62 тысячы 600 грузавых аўтамабіляў, 7 тысяч 500 бульбасаджалак, 17 тысяч 900 касілак і г. д. Апрача таго, што зменшылася колькасць тэхнікі ў параўнанні з мінулым годам (у прыватнасці, трактароў на 2 тысячы 300, грузавых аўтамабіляў — на 3 тысячы 900), у рабочым стане знаходзіцца далёка не ўся. Тых жа трактароў на 1 мая спраўных было 92,5 тысячы, грузавікоў — 50 тысяч 900.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ЗА АДПАЧЫНКАМ — АДПАЧЫНАК?

**На наступным тыдні пачне працаваць Мінскі завод колавых цягачоў.**

Аднак, як паведамілі ў адміністрацыі завода, працягнецца гэта нядоўга — з 1 па... 5 ліпеня. Праз тыдзень работы на заводзе зноў будуць спынены.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ЖЫЦЦЁ І ЦЭНЫ*

## ШТО АТРЫМАЕМ, ТОЕ І МАЕМ

**Аклады па штатнаму раскладу Чэрвеньскага раённага вузла электрасувязі за чэрвень бягучага года.**

1. Вадзіцель — 490 тысяч рублёў.
2. Электрамеханік электрасувязі — 577 тысяч.
3. Слесар 5-га разраду — 510 тысяч.
4. Інжынер-электрык — 650 тысяч.
5. Кабельшчык-пайшчык 5-га разраду — 530 тысяч.
6. Электраманцёр станцыённага абсталявання 4-га разраду — 540 тысяч.
7. Тэлефаніст даведачнай службы 2-га класа — 396 тысяч.
8. Электраманцёр лінейных збудаванняў тэлефоннай сувязі і радыёфікацыі 6-га разраду — 510 тысяч.
9. Бухгалтар — 680 тысяч.
10. Эканаміст — 650 тысяч.

Аклады нязменныя са студзеня бягучага года, штомесяц работнікам ад іх выплачваецца прэмія ў памеры 40 працэнтаў. Затрымак з выдачай грошай няма.

**Узровень рознічных цэн на некаторыя прамысловыя і харчовыя тавары па Мінскай вобласці ў дзяржгандлі па стану на 25.06.96 г.**

1. Хлеб масавых гатункаў — 2600 рублёў.
2. Макаронныя вырабы (кг) — 11.800.
3. Мука вышэйшага гатунку (кг) — 7000.
4. Свініна (кг) — 29.700.
5. Каўбаса вараная 1-га гатунку (кг) — 29.700.
6. Мяса птушкі (кг) — 27.000.
7. Малако 2,5-працэнтнае (без посуду, 0,5 л) — 2000.
8. Смятана 25-працэнтная (кг) — 22.900.
9. Яйкі (дзесятак) — 10.300.
10. Рыба марожаная (кг) — 16.000.
11. Тканіна льняная (м) — 37.700.
12. Куртка мужчынская цёплая — 376.200.
13. Кашуля мужчынская баваўняная — 85.400.
14. Боты жаночыя па сезону — 286.000.
15. Туфлі мужчынскія — 273.000.
16. Боты дзіцячыя зімовыя — 149.500.
17. Набор мэблі для спальні (камплект) — 7.356.000.
18. Дыван 2x3 — 1.356.000.
19. Халадзільнік аднакамерны — 3.208.500.
20. Тэлевізар каляровы (61 см) — 3.694.400 рублёў.

**Падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПАЧЫМ ВАЛЮТА?

**Нагадаем, што на сённяшні дзень усе камерцыйныя банкі рэспублікі працуюць з увядзеннем дылінгавай прэміі і дылінгавага збору, згодна з распараджэннем Нацбанка ад 20 чэрвеня.**

Учора «Пріорбанк», напрыклад, скупляў долары ЗША па 14.700 рублёў за долар, курс продажу «завіс» на лічбе 16.000. Нямецкая марка скуплялася гэтым банкам па 9500, расійскі рубель — па 2,70, прадавалася DM па 9500, расійскі рубель — 2,95. «Белбізнесбанк» скупляў USD па 14.800, DM — па 9600, расійскі рубель — па 2,80; прадаваў адпаведна па 15.000, 9800, 2,95. «Белзнешэканомбанк» аддаваў за долар 14.780 рублёў, за марку — 9605, за рубель — 2,8476; курс продажу адпаведна склаў 15.065, 9890, 2,9555. Курс Нацыянальнага банка Беларусі для безнаяўных разлікаў па долару склаў 13.100, па нямецкай марцы — 8535,59, па рублю Расіі — 2,57.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## «ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў БЕЛАРУСІ: АСНОЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ І СУПЯРЭЧНАСЦІ»

**Пад такой назвай сёння ў Мінску пачынае сваю работу міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, ініцыятарам правядзення якой выступіў Інстытут незалежных даследаванняў Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» (г. Мінск).**

Эксперты інстытута лічаць, што пераход ад таталітарызму да дэмакратыі, які адбываецца на ўсёй постсацыялістычнай прасторы, мае ў Беларусі свае асаблівасці. І галоўная з іх заключаецца ў тым, што структурныя рэформы тут практычна не пачаліся.

У ходзе двухдзённых дыскусій з удзелам экспертаў, вучоных і парламентарыяў Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, а таксама шэрага аўтарытэтных міжнародных арганізацый, у тым ліку Савета Еўропы, будзе абмеркаваны шырокі спектр пытанняў, якія датычаць вызначэння прычын своеасаблівасці рэформаў у Беларусі, выяўлення крыніц узнаўлення сацыял-папулізму, аналізу дамінуючых тэндэнцый у палітычных працэсах Беларусі...

**У. ДЗЕШКАВЕЦ.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### У ВЫНІКУ ВЫБУХУ БОМБЫ ЗАГІНУЛІ 23 ВАЙСКОЎЦЫ ЗША

Лідэры Злучаных Штатаў і Саудаўскай Аравіі асудзілі тэрарыстычны акт на вайскова-паветранай базе ў Дахрані, дзе выбухнула бомба. Паводле звестак дзяржаўнага дэпартамента ЗША там загінулі не менш як 23 вайскоўцы ВПС Злучаных Штатаў. Каля 150 чалавек розных нацыянальнасцей атрымалі цяжкія раненні. Дзяржаўны сакратар ЗША Уорэн Крыстафер запэўніў журналістаў, што арганізатары трагедыі будуць знойдзены і пакараны.

Ён заявіў, што нікому не ўдасца парушыць мір у рэгіёне. База ў Дахрані існуе з часоў вайны ў Персідскім заліве. Там размешчаны аб'яднаны вайсковы персанал. Бомба была падкладзена ў паліўны запраўшчык. У выніку выбуху поўнасцю разбураны адзін будынак і яшчэ адзін значна пашкоджаны. Глыбіня варонкі на месцы выбуху 11 метраў. За чатыры хвіліны да выбуху сведкі бачылі, як два чалавекі бегам пакідалі грузавік-запраўшчык. Прэзідэнт Клінтан прызначыў спецыяльную камісію ФБР для дапамогі паліцыі Саудаўскай Аравіі ў расследаванні гэтага тэрарыстычнага акта.

### КАРАДЖЫЧА ЗНОЎ «ПРАНЕСЛА»

Да позняй ночы члены баснійска-сербскай асамблеі абмяркоўвалі будучыню свайго лідэра Радавана Караджыча.

Гэта звязана з патрабаваннямі міжнароднага супольніцтва і Югаслаўскай федэрацыі зняць яго з цяперашняй пасады. Аднак рашэнне не было прынята. Чакаецца, што асамблея працягне пасяджэнне. Карэспандэнт Бі-бі-сі ў Бялградзе паведамляе, што пра адстаўку Караджыча гаварылася ўжо вельмі даўно, але ўвесь час узнікаюць сітуацыі, якія адцягваюць гэту адстаўку.

### У БУНДЭСТАГУ ВЫСВЯТЛЯЮЦЬ АДНОСІНЫ ГЕРМАНІІ ДА КІТАЯ

Сёння ў бундэстагу Федэратыўнай Рэспублікі Германіі пачынаюцца дэбаты па пагаршэнню ўзаемадзеяння паміж Германіяй і Кітаем. Дэбаты распачаліся па ініцыятыве апазіцыйнай сацыял-дэмакратычнай партыі. Раней урад у Пекіне выказаў спачуванне з нагоды пагаршэння кітайска-нямецкіх адносінаў.

Для іх паляпшэння, паводле слоў кіраўніцтва Кітая, нямецкі бундэстаг не павінен больш прымаць рэзалюцый пра парушэнне правоў чалавека ў Тыбеце.

### НАРКАМАНАЎ НА УКРАІНЕ СТАЛА БОЛЬШ

За апошнія пяць гадоў колькасць наркаманаў на Украіне вырасла ўдвая і ў 1995 годзе дасягнула 45 тысяч чалавек. Паводле звестак Міністэрства аховы здароўя Украіны, штогод у гэтай дзяржаве 6-7 тысяч чалавек становяцца наркаманамі.

### ІЗРАІЛЬ ГАТОВЫ ПАЙСЦІ НА ПЕРАМОВЫ

Прэм'ер-міністр Ізраіля Нетаніягу ў інтэрв'ю адной з газет заявіў, што яго краіна гатова пачаць перамовы з Сірыяй і палесцінцамі, але толькі пасля таго, як яны перастануць падтрымліваць тэрарызм. Па словах Нетаніягу, Сірыя і палесцінцы павінны вырашыць, чаго яны хочуць, таму што мірны працэс і тэрарызм несумяшчальныя. Ізраільскі прэм'ер пацвердзіў, што перамовы з Сірыяй могуць адбыцца, толькі без папярэдніх умоў. Дзяржсакратар ЗША Крыстафер падтрымаў ізраільскага прэм'ера.

### ЗША ЧАКАЕ «КАМП'ЮТЭРНАЙ» ВАЙНЫ

Дырэктар ЦРУ Джон Дойч папярэдзіў, што нацыянальная бяспека ЗША знаходзіцца пад пагрозай у сувязі з тым, што замежныя краіны і тэрарысты імкнуцца пранікнуць у амерыканскія камп'ютэрныя праграмы з мэтай атрымаць сакрэтную інфармацыю. У аўторак на слуханнях у сенаце дырэктар ЦРУ паведаміў, што шэраг краін распрацоўваюць дактрыны, стратэгію і тэхнічныя прыёмы, каб распачаць, як ён выказаўся, «інфармацыйны ўзлом». На думку Дойча, у тэрарыстычных груповак таксама ёсць магчымасць пранікнуць у інфармацыйныя інфраструктуры Злучаных Штатаў. Па яго словах, масіраванае камп'ютэрнае піратства можа нанесці вялікую шкоду амерыканскай абароне, энергетыцы, сістэме сувязі і банкаўскай сістэме.

### БЮДЖЭТ ДЗЯРЖАВЫ БУДЗЕ ПАВЯЛІЧАНЫ ЗА КОШТ БЮДЖЭТУ СЯМ'І

На 800 долараў у год павялічацца расходы сярэднестатыстычнай японскай сям'і ў выніку павелічэння спажывецкага падатку з 3 да 5 працэнтаў. Гэты падатак бярэцца практычна пры ўсіх аперацыях куплі-продажу. Рашэнне японскага ўрада, якое ўступіць у сілу ў будучым годзе, прынята ўчора з мэтай памяншэння дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## У МІНСКУ ПАЧАЛО РАБОТУ ПАСОЛЬСТВА ЮГАСЛАВІІ

**У рамках дагаворанасцей Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і Прэзідэнта Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зорана Ліліча ў Мінску пачало сваю дзейнасць пасольства СРЮ.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага Міністэрства замежных спраў, да прыбыцця Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла СРЮ ў Беларусі Ніколы Пеяковіча Часовым Паверaным у справах Югаславіі ў нашай рэспубліцы назначаны Жэлька Краінавіч.

ках дарог, дзе перастраенне дазволена толькі з адной паласы; абазначае месцы, прызначаныя для развароту, уезду і выезду са стаянчных пляцовак і да т. п., дзе рух дазволены толькі ў адзін бок;

1.12 (стоп-лінія) -- указвае месца, дзе вадзіцель павінен спыніцца пры наяўнасці знака 2.5 ці пры забараняльным сігнале святлафора (рэгуліроўшчыка);

1.13 -- указвае месца, дзе вадзіцель павінен пры неабходнасці спыніцца, саступаючы дарогу транспартным сродкам, што рухаюцца па перасякаемай дарозе;

1.14.1, 1.14.2 («зебра») -- абазначае нерэгулюемы пешаходны пераход, стрэлы разметкі 1.14.2 указваюць напрамак руху пешаходаў;

1.14.3 -- абазначае пешаходны пераход, дзе рух рэгулюецца святлафорам;

1.15 -- абазначае месца, дзе веласіпедная дарожка перасякае праезную частку;

1.16.1--1.16.3 -- абазначае накіравальныя астраўкі ў месцах раздзялення ці зліцця транспартных патокаў;

1.17 -- абазначае прыпынкі маршрутных транспартных сродкаў і стаянкі таксі;

1.18 -- указвае дазволеныя на скрыжаванні напрамкі руху па палосах. Прымяняецца самастойна ці ў спалучэнні са знакамі 5.8.1, 5.8.2; разметка з адлюстраваннем тупіка наносіцца для ўказання таго, што паварот на бліжэйшую праезную частку забаронены; разметка, якая дазваляе паварот налева з крайняй левай паласы, дазваляе і разварот;

1.19 -- папярэджвае аб набліжэнні да звужэння праезнай часткі (участка, дзе змяншаецца колькасць палос руху ў гэтым напрамку) ці да ліній разметкі 1.1 або 1.11, што раздзяляюць транспартныя патокі процілеглых напрамкаў. У першым выпадку разметка 1.19 можа прымяняцца ў спалучэнні са знакамі 1.18.1--1.18.3;

1.20 -- папярэджвае аб набліжэнні да разметкі 1.13;

1.21 -- (надпіс «Стоп») -- папярэджвае аб набліжэнні да разметкі 1.12, калі яна прымяняецца ў спалучэнні са знакам 2.5;

1.22 -- указвае нумар дарогі (маршрута);

1.23 -- абазначае спецыяльную паласу для маршрутных транспартных сродкаў.

Лініі 1.1--1.3 перасякаць забараняецца. Дапускаецца перасячэнне ліній 1.1 і 1.2, якія абазначаюць край праезнай часткі і размяшчаюцца справа ад вадзіцеля, для спынення транспартнага сродку на абочыне.

Лініі 1.5--1.8 перасякаць дазваляецца з любога боку.

Лінію 1.9 пры адсутнасці рэверсіўных святлафораў ці калі яны адключаны дазваляецца перасякаць, калі яна размешчана справа ад вадзіцеля; пры ўключаных рэверсіўных святлафорах -- з любога боку, калі яна раздзяляе палосы, па якіх рух дазволены ў адным напрамку. Пры адключэнні рэверсіўных святлафораў вадзіцель павінен неадкладна перастроіцца направа за лінію разметкі 1.9.

Лінію 1.9, якая раздзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў, пры выключаных рэверсіўных святлафорах перасякаць забараняецца.

Лінію 1.11 дазваляецца перасякаць з боку перарывістай, а таксама з боку суцэльнай, але толькі пры завяршэнні абгону ці аб'езду. У выпадках, калі значэнне часовых дарожных знакаў, што размяшчаюцца на пераноснай стойцы, і лініі разметкі супярэчаць адна адной, вадзіцелі павінны кіравацца знакамі.

**Вертыкальная разметка**

Вертыкальная разметка ў выглядзе спалучэння чорных і белых палос на дарожных збудаваннях і элементах абсталявання дарог паказвае іх габарыты і служыць сродкам зрокавага арыентавання. Вертыкальная разметка:

2.1 -- абазначае элементы дарожных збудаванняў (апор мастоў, пуцеправодаў, тарцовых частак парапетаў і г. д.), калі гэтыя элементы ўяўляюць небяспеку для транспартных сродкаў, якія рухаюцца;

2.2 -- абазначае ніжні край пралётнай пабудовы тунэляў, мастоў і пуцеправодаў;

2.3 -- абазначае круглыя тумбы, устаноўленыя на раздзяляльных палосах ці астраўках бяспекі;

2.4 -- абазначае накіравальныя слупкі, надаўбняў, апоры агароджаў і г. д.;

2.5 -- абазначае бакавыя паверхні агароджаў дарог на закругленнях малога радыуса, крутых спусках, іншых небяспечных участках;

2.6 -- абазначае бакавыя паверхні агароджаў дарог на іншых участках;

2.7 -- абазначае бардзюры на небяспечных участках і астраўкі бяспекі, што ўзвышаюцца.

# Правілы дарожнага руху



## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ ПРАВІЛАЎ ДАРОЖНАГА РУХУ

**Пастанова Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 сакавіка 1996 г., № 203, г. Мінск**

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць Правілы дарожнага руху.

Указаныя Правілы ўводзяцца ў дзеянне з 1 верасня 1996 г. з папярэднім іх апублікаваннем.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**

### 1. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1.1. Гэтыя Правілы дарожнага руху (далей -- Правілы) з'яўляюцца адзіным нарматыўным актам, які ўстанаўлівае парадак дарожнага руху на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Іншыя нарматыўныя акты, якія датычаць асаблівасцей дарожнага руху (перавозка спецыяльных грузаў, эксплуатацыя транспартных сродкаў асобных відаў, рух на закрытай тэрыторыі і да т. п.), павінны грунтавацца на патрабаваннях Правілаў і не супярэчыць ім. У выпадках, не прадугледжаных Правіламі, парадак руху павінен быць узгоднены з органамі Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь (далей -- Дзяржаўтаінспекцыя).

1.2. Неабходныя змяненні і абмежаванні ў дарожным руху ўводзяцца ва ўстаноўленым парадку ў рамках Правілаў пры дапамозе дарожных знакаў, дарожнай разметкі, святлафораў і іншых сродкаў дарожнага руху, якія размяшчаюцца па распараджэнню органаў Дзяржаўтаінспекцыі, а таксама асоб, упаўнаважаных рэгуляваць рух (рэгуліроўшчыкаў).

1.3. Удзельнікі дарожнага руху абавязаны ведаць і захоўваць патрабаванні Правілаў. Кожны ўдзельнік дарожнага руху, які захоўвае Правілы, мае права разлічваць на тое, што і іншыя ўдзельнікі руху будуць выконваць патрабаванні гэтых Правілаў.

1.4. У Рэспубліцы Беларусь устаноўлены правабаковы рух транспартных сродкаў.

1.5. Удзельнікі дарожнага руху і іншыя асобы, якія могуць паўплываць на ўстаноўлены парадак руху, павінны дзейнічаць такім чынам, каб не ствараць небяспекі ці перашкод для руху.

1.6. Забараняецца самавольна ўстанаўліваць ці здымаць, загароджваць ці пашкоджваць дарожныя знакі і іншыя тэхнічныя сродкі арганізацыі дарожнага руху, загароджваць ці пашкоджваць дарогі і дарожныя збудаванні, забруджваць дарогі, пакідаць на іх любыя прадметы, якія ствараюць перашкоды для руху. Асоба, якая стварае перашкоды, абавязкова неадкладна абазначыць яе ў адпаведнасці з патрабаваннямі Правілаў ці іншым чынам, каб забяспечыць бяспеку руху, і неадкладна прыняць меры па ліквідацыі гэтай перашкоды.

1.7. Удзельніку дарожнага руху, які выявіў на дарозе перашкоду, што стварае пагрозу бяспецы дарожнага руху, трэба прыняць меры да яе ліквідацыі, а калі гэта выканаць немагчыма, абазначыць яе і паведаміць аб гэтым у органы міліцыі, выканаўчай улады, дарожнай гаспадаркі і да т. п.

1.8. Асобы, якія парушаюць Правілы, нясуць адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

### 2. АСНОЎНЫЯ ПАНЯЦЦІ І ТЭРМІНЫ, ЯКІЯ ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЦА Ў ПРАВІЛАХ

«Аўтамагістраль» -- дарога, абазначаная знакам 5.1.

«Веласіпед» -- транспартны сродак, акрамя інвалідных калясак, які прыводзіцца ў рух мускульнай сілай людзей, што знаходзяцца на (у) ім.

«Вадзіцель» -- асоба, якая кіруе якім-небудзь транспартным сродкам. Да вадзіцеля



ным сродку павінны быць уключаны габарытныя агні.

20.4. Калі габарытныя агні няспраўныя, транспартны сродак павінен быць адведзены за межы дарогі, а калі гэта немагчыма, дык яго неабходна абазначыць згодна з патрабаваннямі пунктаў 8.1 ці 8.2 Правілаў.

20.5 Процітуманныя фары могуць выкарыстоўвацца:

ва ўмовах недастатковай бачнасці як асобна, так і з блізкім святлом фар;

у цёмны час сутак на неасветленых участках дарог разам з блізкім святлом фар;

замест блізкага святла фар ва ўмовах, прадугледжаных пунктам 20.6 Правілаў.

20.6. Пры руху ў светлы час сутак для абазначэння транспартнага сродку, які рухаецца, блізкае святло фар павінна быць уключана;

на матацыклах і мапедах;

пры руху ў арганізаванай транспартнай калоне;

на маршрутных транспартных сродках, якія рухаюцца па спецыяльна выдзеленай паласе насустрач асноўнаму патоку руху;

пры арганізаванай перавозцы груп дзяцей;

пры перавозцы небяспечных грузаў, руху цяжкавагавых і буйнагабарытных транспартных сродкаў;

пры буксіроўцы механічных транспартных сродкаў (на транспартным сродку, які буксіруе).

20.7. Фарай-пражэктарам і фарай-шукальнікам дазваляецца карыстацца толькі па-за населенымі пунктамі пры адсутнасці сустрэчных транспартных сродкаў. У населеных пунктах карыстацца такімі фарамі могуць толькі вадзіцелі транспартных сродкаў аператыўных і спецыяльных службаў пры выкананні службовага задання.

20.8. Заднія процітуманныя ліхтары могуць прымяняцца толькі ва ўмовах недастатковай бачнасці.

Забараняецца падключаць заднія процітуманныя ліхтары да стоп-сігналаў.

Дазваляецца ўстаноўка святловяртальных стужак (палос) чырвонага колеру на задняй частцы транспартнага сродку.

20.9. Апазнавальны знак «Аўтапоезд» павінен быць уключаны пры руху аўтапоезда; а ў цёмны час сутак на неасветленых участках дарог і ва ўмовах недастатковай бачнасці, акрамя таго, і на час яго спынення ці стаянкі.

20.10. Прабліскавы маячок аранжавага колеру павінен быць уключаны на транспартных сродках, якія выконваюць будаўнічыя, рамонтныя ці ўборачныя работы на дарозе, а таксама на транспартных сродках пры перавозцы небяспечных грузаў, пры руху цяжкавагавых і буйнагабарытных транспартных сродкаў у выпадках, прадугледжаных адпаведнымі правіламі.

20.11. Гукавыя сігналы могуць прымяняцца толькі:

для папярэджвання іншых вадзіцеляў аб намеры зрабіць абгон па-за населенымі пунктамі;

у выпадках, калі гэта неабходна для прадухілення дарожна-транспартнага здарэння.

20.12. Для папярэджвання аб абгоне замест гукавога сігналу (ці разам з ім) можа падавацца светлавы сігнал, які ўяўляе сабой у светлы час сутак перыядычнае кароткачасовае ўключэнне і выключэнне святла фар, а ў цёмны час сутак -- пераключэнне фар з блізкага святла на далёкае.

20.13. У цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці асобы, якія прыраўноўваюцца да пешаходаў (рухаюцца ў інвалідных калясках без рухавіка, вядуць веласіпед, мапед, матацыкл, вязуць санкі, цялежку, дзіцячую ці інвалідную каляску), могуць ажыццяўляць рух па праезнай частцы, калі прыводзімыя імі ў рух транспартныя сродкі абазначаны габарытнымі агнямі, сігнальнымі ліхтарамі ці святловяртальнікамі.

### 21. БУКСІРОЎКА МЕХАНІЧНЫХ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ

21.1. Буксіроўка на цвёрдай ці гібкай счэпцы павінна ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці вадзіцеля за рулём буксіруемага транспартнага сродку, акрамя выпадкаў, калі канструкцыя цвёрдай счэпкі забяспечвае пры руху перасоўванне буксіруемага транспартнага сродку па траекторыі буксіруючага.

21.2. Пры буксіроўцы на цвёрдай ці гібкай счэпцы забараняецца перавозка людзей у буксіруемым аўтобусе, тралейбусе, грузавым аўтамабілі, а пры буксіроўцы шляхам частковай пагрузкі -- знаходжанне людзей у кабіне ці кузаве буксіруемага транспартнага сродку, а таксама ў кузаве буксіруючага.

21.3. Пры буксіроўцы на гібкай счэпцы павінна быць забяспечана адлегласць паміж буксіруючым і буксіруемым транспартнымі сродкамі ў межах 4--6 м, а пры буксіроўцы на цвёрдай счэпцы -- не больш як 4 м.

21.4. Пры буксіроўцы на гібкай счэпцы ў буксіруемага транспартнага сродку павінны быць спраўнымі рабочая тармазная сістэма і рулявое кіраванне, а пры буксіроўцы на цвёрдай счэпцы -- рулявое кіраванне.

21.5. Буксіроўка забараняецца:

транспартных сродкаў, у якіх не дзейнічае рулявое кіраванне (дапускаецца буксіроўка метадам частковай пагрузкі);

двух і больш механічных транспартных сродкаў (за выключэннем сядзельнага цягача з паўпрычэпам);



транспартных сродкаў з нядзейнічаючай тармазной сістэмай*, калі іх фактычная маса складае больш за палову фактычнай масы буксуючага транспартнага сродку. Пры меншай фактычнай масе такіх транспартных сродкаў буксіроўка іх дапускаецца толькі на цвёрдым счэпе ці метадам частковай пагрузкі;

матацыкламі без бакавога прычэпу, а таксама такіх матацыклаў;

у галалёд на гібкім счэпе;

на аўтамагістралях;**

механічнымі транспартнымі сродкамі з прычэпамі (паўпрычэпамі).

### 22. ВУЧЭБНАЯ ЯЗДА

22.1. Першапачатковае абучэнне ваджэнню транспартных сродкаў павінна праводзіцца на закрытых пляцоўках ці аўтадромах.

22.2. Вучэбная язда на дарогах дапускаецца толькі з тым, хто абучае, і пры наяўнасці першапачатковых навыкаў кіравання ў таго, хто абучаецца. Той, хто абучаецца, абавязаны ведаць і выконваць патрабаванні Правілаў.

22.3. Той, хто абучае, павінен мець пры сабе дакумент на права абучэння ваджэнню транспартных сродкаў дадзенай катэгорыі ці вадзіцельскі стаж больш за 3 гады (пры абучэнні ў індывідуальным парадку), а таксама пасведчанне на права кіравання транспартным сродкам адпаведнай катэгорыі.

22.4. Таму, хто абучаецца ваджэнню аўтамабілем, павінна быць не менш 16 гадоў, а на матацыкле -- не менш 14 гадоў.

22.5. Забараняецца вучэбная язда на дарогах, пералік якіх аб'яўляецца ва ўстаноўленым парадку.

### 23. ПЕРАВОЗКА ЛЮДЗЕЙ

23.1. Перавозка людзей у кузаве грузавога аўтамабіля павінна здзяйсняцца вадзіцелямі, якія маюць стаж кіравання транспартнымі сродкамі дадзенай катэгорыі больш за 3 гады і пасведчанні на права кіравання транспартнымі сродкамі катэгорыі «С», а пры перавозцы больш за 8 чалавек (уключаючы пасажыраў у кабіне) -- катэгорый «С» і «D» (для ваенных вадзіцеляў пры наяўнасці спецыяльнага пасведчання, выдадзенага ВАІ).

23.2. Перавозка людзей у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай ці з кузавам-фургонам дазваляецца, калі гэты аўтамабіль абсталяваны ў адпаведнасці з пунктам 27.10 Правілаў. Хуткасць руху пры гэтым не павінна перавышаць 60 км/гадз. Перавозка дзяцей у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай і ў кузаве-фургоне не дазваляецца.

23.3. Колькасць перавозімых людзей у кузаве грузавога аўтамабіля, а таксама ў кузаве-фургоне не павінна перавышаць колькасці абсталяваных для сядзення месцаў.

23.4. Перад паездкай вадзіцель грузавога аўтамабіля абавязаны праінструктаваць пасажыраў аб парадку пасадкі (размяшчэння і высадкі) у кузаў.

Пачынаць рух можна толькі тады, калі вадзіцель упэўніўся, што ўмовы бяспечнай перавозкі пасажыраў забяспечаны.

23.5. Праезд у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай, не абсталяванай для перавозкі людзей, дазваляецца толькі асобам, якія суправаджаюць груз ці следуюць за яго атрыманнем, пры ўмове, што яны забяспечаны месцам для сядзення, якое знаходзіцца ніжэй узроўню бартоў.

23.6. Пры перавозцы груп дзяцей у аўтобусе ў ім павінен знаходзіцца дарослы, які іх суправаджае. У гэтых выпадках на гэтых транспартных сродках спераду і ззаду ўстанаўліваюцца апазнавальныя знакі «Перавозка дзяцей».

23.7. Вадзіцель абавязаны здзяйсняць пасадку і высадку пасажыраў толькі пасля поўнага спынення транспартнага сродку, а пачынаць рух толькі з зачыненымі дзвярамі і не адчыняць іх да поўнага спынення.

23.8. Забараняецца перавозіць людзей:

па-за кабінай аўтамабіля (акрамя выпадкаў перавозкі людзей у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай ці ў кузаве-фургоне), трактара, іншых самаходных машын, на грузавым прычэпе (паўпрычэпе, у прычэпе-дачы), у кузаве грузавога матацыкла і па-за прадугледжаных канструкцыяй матацыкла месцаў для сядзення;

звыш колькасці, прадугледжанай тэхнічнай характарыстыкай транспартнага сродку, не лічачы дзяцей да 12-гадовага ўзросту. Пры гэтым фактычная маса транспартнага сродку не павінна перавышаць велічыні дазволенай максімальнай масы, устаноўленай прадпрыемствам-вытворцам.

Забараняецца перавозка дзяцей да 12 гадоў на заднім сядзенні матацыкла, а таксама на пярэднім сядзенні легкавога аўтамабіля пры адсутнасці спецыяльнага дзіцячага ўтрымліваючага сродку.

---

* Нядзеючай тармазной сістэмай лічыцца сістэма, якая не дазваляе вадзіцелю спыніць транспартны сродак ці зрабіць манеўр пры руху нават з мінімальнай скорасцю.

** Пры буксіроўцы транспартнага сродку, які спыніўся на аўтамагістралі, неабходна пакінуць аўтамагістраль на бліжэйшым з'ездзе з яе.





прыраўніваюцца: той, хто навучае ваджэнню транспартнага сродку і пры гэтым знаходзіцца ў ім, коннік, паганяты, той, хто вядзе па дарозе ўючных, верхавых жывёл ці статак.

«Вымушаны прыпынак» -- спыненне руху транспартнага сродку з-за яго тэхнічнай няспраўнасці ці небяспекі, якая ствараецца ўдзельнікамі дарожнага руху, перавозімым грузам, станам вадзіцеля (пасажыра) ці паяўленнем перашкоды на дарозе.

«Бачнасць ў напрамку руху» -- максімальная адлегласць, на якой з месца вадзіцеля можна распазнаць дарогу перад транспартным сродкам і правільна арыентавацца пры кіраванні, забяспечыць бяспеку дарожнага руху, у прыватнасці, выбраць больш бяспечную скорасць руху.

«Галоўная дарога» -- дарога, абазначаная знакамі 2.1, 2.3.1. -- 2.3.3. ці 5.1, у адносінах да перасякаемай (прымыкаючай), ці дарога з пакрыццём у адносінах да грунтовай, альбо любая дарога ў адносінах да выездаў з сумежных тэрыторый. Наяўнасць на другараднай дарозе непасрэдна перад скрыжаваннем участка з пакрыццём не робіць яе роўнай па значэнню з перасякаемай.

«Дарога» -- абуладкаваная ці прыстасаваная, выкарыстоўваемая для руху паласа зямлі ці паверхня штучнага збудавання.

Дарога ўключае ў сябе адну ці некалькі праязных частак, а таксама трамвайныя пуці, тратуары, абочыны і раздзяляльныя палосы пры іх наяўнасці.

«Дарожна-транспартнае здарэнне» -- гэта здарэнне, учыненае з удзелам хоць бы аднаго механічнага транспартнага сродку, які знаходзіцца ў руху, у выніку чаго загінулі ці ранены людзі, або пашкоджаны транспартныя сродкі, груз, збудаванні.

«Чыгуначны пераезд» -- любое перасячэнне дарогі з чыгуначнымі пуцямі на адным узроўні.

«Жылая зона» -- тэрыторыя, уезды на якую і выезды з якой абазначаны знакамі 5.38 «Жылая зона» і 5.39 «Канец жылой зоны».

«Манеўраванне» -- перастраенне транспартнага сродку ў рух з адной паласы ў другую, паварот, разварот, з'езд з дарогі, а таксама рух транспартнага сродку заднім ходам.

«Маршрутны транспартны сродак» -- транспартны сродак (аўтобус, тралейбус, трамвай, таксі), якія рухаюцца па ўстаноўленым маршруце з абазначанымі прыпыначнымі пунктамі (прыпынкамі).

«Механічны транспартны сродак» -- транспартны сродак, які прыводзіцца ў рух рухавіком.

«Мапед» -- механічны транспартны сродак, які абсталяваны рухавіком з рабочым аб'ёмам да 50 куб. см і мае максімальную канструктыўную скорасць не больш як 50 км/гадз. Да мапедаў прыраўноўваюцца веласіпеды з падвясным рухавіком, мокікі і іншыя транспартныя сродкі з аналагічнымі характарыстыкамі.

«Матацыкл» -- двухколавы механічны транспартны сродак з бакавым прычэпам ці без яго і рухавіком з рабочым аб'ёмам больш як 50 куб. см. Да матацыклаў прыраўноўваюцца трохколавыя механічныя транспартныя сродкі, якія маюць масу ў запраўленым стане не больш як 400 кг.

«Населены пункт» -- забудаваная тэрыторыя, уезды на якую і выезды з якой абазначаны знакамі 5.22--5.25 (5.22, 5.24 «Пачатак населенага пункта» і 5.23, 5.25 «Канец населенага пункта»).

«Недастатковая бачнасць» -- бачнасць дарогі ў напрамку руху менш як 300 м пры любых пагодных і метэаралагічных умовах.

«Абгон» -- апярэджванне аднаго ці некалькіх рухомых транспартных сродкаў, звязанае з выездам на паласу (бок праезнай часткі) сустрэчнага руху.

«Абмежаваная агляднасць» -- бачнасць дарогі ў напрамку руху, абмежаваная геаметрычнымі параметрамі дарогі, прыдарожнымі інжынернымі збудаваннямі, насаджэннямі і аб'ектамі, а таксама транспартнымі сродкамі.

«Небяспека для руху» -- змяненне дарожнай абстаноўкі ці тэхнічнага стану транспартнага сродку, якое пагражае бяспецы дарожнага руху і вымушае вадзіцеля зменшыць скорасць ці спыніцца.

«Апярэджванне» -- рух транспартнага сродку са скорасцю, якая перавышае скорасць спадарожнага транспартнага сродку (транспартных сродкаў), што рухаецца па суседняй паласе.

«Арганізаваная пешаходная калона» -- група людзей, што перамяшчаецца па пэўнаму маршруту і мае кіраўніка, спераду і ззаду якой ёсць суправаджальнікі з флажкамі чырвонага колеру ў светлы час сутак і з ліхтарамі белага колеру наперадзе і чырвонага ззаду — у цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці.

«Арганізаваная транспартная калона» -- група з двух і больш механічных транспартных сродкаў, якія ідуць непасрэдна адзін за адным па адной і той жа паласе руху з пастаянна ўключаным блізкім святлом фар у су-







канава.

7.11. «Абмежаванне дазволенай максімальнай масы». Указвае, што дзеянне знака распаўсюджваецца толькі на транспартныя сродкі дазволенай максімальнай масай, большай за ўказаную на таблічцы.

7.12. «Небяспечная абочына». Папярэджвае, што з'езд на абочыну небяспечны ў сувязі з правядзеннем на ёй рамонтных работ. Прымяняецца са знакам 1.23.

7.13. «Напрамак галоўнай дарогі». Указвае напрамак галоўнай дарогі на скрыжаванні.

7.14. «Паласа руху». Указвае паласу руху, на якую распаўсюджваецца дзеянне знака ці святлафора.

7.15. «Сляпыя пешаходы». Указвае, што пешаходным пераходам карыстаюцца сляпыя. Прымяняецца са знакам 1.20, 5.16.1, 5.16.2 і святлафорамі.

7.16. «Вільготнае пакрыццё». Указвае, што дзеянне знака распаўсюджваецца на перыяд часу, калі пакрыццё праезнай часткі вільготнае.

7.17. «Інваліды». Указвае, што дзеянне знака 5.15 распаўсюджваецца толькі на мотакаляскі і аўтамабілі, на якіх устаноўлены апазнавальныя знакі «Інвалід».

7.18. «Акрамя інвалідаў». Указвае, што дзеянне знакаў не распаўсюджваецца на мотакаляскі і аўтамабілі, на якіх устаноўлены апазнавальныя знакі «Інвалід».

7.19. «Клас небяспечнага грузу». Указвае нумар класа (класаў) небяспечнага грузу па ДАСТ 19433-88.

Таблічкі размяшчаюцца непасрэдна пад знакам, з якім яны ўжыты. Таблічкі 7.2.2--7.2.4, 7.13 пры размяшчэнні знакаў над праезнай часткай, абочынай ці тратуарам размяшчаюцца збоку ад знака.

У выпадках, калі значэнні часовых дарожных знакаў (на пераноснай стойцы) і стацыянарных знакаў супярэчаць адзін аднаму, вадзіцелі павінны кіравацца часовымі знакамі.

**ДАДАТАК 3**
**да Правілаў дарожнага руху, зацверджаных Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 сакавіка 1996 г., № 203**

## ДАРОЖНАЯ РАЗМЕТКА І ЯЕ ХАРАКТАРЫСТЫКІ

### Гарызантальная разметка

Гарызантальная разметка (лініі, стрэлы, надпісы і іншыя абазначэнні на праезнай частцы) устанаўлівае вызначаныя рэжымы і парадак руху.

Гарызантальная разметка мае белы колер, акрамя ліній 1.4, 1.10 і 1.17 жоўтага колеру. Гарызантальная разметка:

1.1 -- раздзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў і абазначае граніцы палос руху ў небяспечных месцах на дарогах; абазначае граніцы праезнай часткі, на якія ўезд забаронены; абазначае граніцы стаяначных месцаў транспартных сродкаў і край праезнай часткі дарог, не аднесеных да аўтамагістраляў;

1.2 (шырокая суцэльная лінія) -- абазначае край праезнай часткі на аўтамагістралі;

1.3 -- раздзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў на дарогах, якія маюць чатыры паласы руху і больш;

1.4 -- абазначае месцы, дзе забаронены прыпынак. Прымяняецца самастойна ці ў спалучэнні са знакам 3.27 і наносіцца каля краю праезнай часткі ці па верху бардзюра;

1.5 -- раздзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў на дарогах, якія маюць дзве ці тры паласы; абазначае граніцы палос руху пры наяўнасці дзвюх і больш палос, прызначаных для руху ў адным напрамку;

1.6 (лінія набліжэння -- перарывістая лінія, у якой даўжыня штрыхоў у 3 разы перавышае прамежкі паміж імі) -- папярэджвае аб набліжэнні да разметкі 1.1 ці 1.11, што раздзяляе транспартныя патокі процілеглых ці спадарожных напрамкаў;

1.7 (перарывістая лінія з кароткімі штрыхамі і роўнымі ім прамежкамі) -- абазначае палосы руху ў межах скрыжавання;

1.8 (шырокая перарывістая лінія) -- абазначае граніцу паміж паласой разгону ці тармажэння і асноўнай паласой праезнай часткі (на скрыжаваннях, перасячэннях дарог на розных узроўнях, у зоне аўтобусных прыпынкаў і г. д.);

1.9 -- абазначае граніцы палос руху, на якіх ажыццяўляецца рэверсіўнае рэгуляванне; раздзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў (пры выключаных рэверсіўных святлафорах) на дарогах, дзе ажыццяўляецца рэверсіўнае рэгуляванне;

1.10 -- абазначае месцы, дзе забаронена стаянка. Прымяняецца самастойна ці ў спалучэнні са знакам 3.28 і наносіцца ля краю праезнай часткі ці па верху бардзюра;

1.11 -- раздзяляе транспартныя патокі процілеглых ці спадарожных напрамкаў на ўчаст-







## 24. ПЕРАВОЗКА ГРУЗАЎ

24.1. Маса перавозімага грузу і размеркаванне нагрузкі па восях не павінны перавышаць велічынь, устаноўленых прадпрыемствам-вытворцам для данага транспартнага сродку.

24.2. Перад пачаткам і ў час руху вадзіцель абавязаны кантраляваць размяшчэнне, мацаванне і стан грузу, каб пазбегнуць яго падзення, стварэння перашкод для руху.

24.3. Перавозка грузу дапускаецца пры ўмове, калі ён:

не стварае пагрозы бяспекі дарожнага руху;

не абмяжоўвае вадзіцелю агляд;

не абцяжарвае кіравання і не парушае ўстойлівасці транспартнага сродку;

не закрывае знешніх светлавых прыбораў і святловяртальнікаў, рэгістрацыйных і апазнавальных знакаў, а таксама не перашкаджае ўспрыняццю сігналаў, падаваемых рукой;

не стварае шуму, не пыліць і не забруджвае дарогі і акаляючага асяроддзя.

Калі стан і размяшчэнне грузу не адпавядае ўстаноўленым патрабаванням, вадзіцель абавязаны прыняць меры да ўстаранення парушэнняў пералічаных правілаў перавозкі ці спыніць далейшы рух.

24.4. Груз, які выступае за габарыты транспартнага сродку спераду ці ззаду больш чым на 1 м ці збоку больш чым на 0,4 м ад знешняга краю габарытнага агню, павінен быць пазначаны ў адпаведнасці са спецыяльнымі правіламі.

24.5. У адпаведнасці са спецыяльнымі правіламі адбываецца таксама рух цяжкавагавага транспартнага сродку і транспартнага сродку, габарытныя памеры якога з грузам ці без грузу перавышаюць хаця б адзін з наступных паказчыкаў: па вышыні -- 4 м ад паверхні дарогі; па шырыні -- 2,5 м (2,6 м -- для спецыяльнага рэфрыжэратарнага транспартнага сродку, аўтамабіляў-лесавозаў МАЗ-509А і МАЗ-54341-2, 2,63 м -- для аўтамабіля КрАЗ); па даўжыні -- 20 м для аўтапоезда з прычэпам (паўпрычэпам), а таксама калі груз выступае за заднюю кропку габарыту транспартнага сродку больш чым на 2 м.

24.6. Перавозка небяспечных грузаў і выкарыстанай для іх перавозкі неачышчанай тары адбываецца ў адпаведнасці са спецыяльнымі правіламі.

## 25. РУХ ВЕЛАСІПЕДЫСТАЎ

25.1. Кіраваць веласіпедам дазваляецца асобам не маладзей за 14 гадоў, а мапедам -- не маладзей за 16 гадоў.

25.2. Вадзіцель веласіпеда, мапеда абавязаны мець пры сабе дакумент, які пацвярджае веданне Правілаў. Пры гэтым на транспартным сродку павінен быць нумарны знак.

25.3. Пры руху па дарогах у цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці на веласіпедзе павінны быць уключаны: спераду -- фара белага колеру, ззаду -- ліхтар чырвонага колеру.

25.4. Рух на веласіпедах па праезнай частцы дарог дазваляецца толькі ў адзін рад на адлегласці не больш за 1 м ад яе правага боку. Выезд на большую адлегласць дазваляецца толькі для аб'езду перашкод і у дазволеных выпадках, для паварота налева ці разварота. Дазваляецца рух па абочыне, калі гэта не стварае перашкод пешаходам.

Калоны веласіпедыстаў пры руху па праезнай частцы павінны быць падзелены на групы па 10 веласіпедыстаў. Адлегласць паміж групамі павінна складаць 80--100 м.

25.5. Вадзіцелям веласіпеда і мапеда забараняецца:

ездзіць па тратуарах і пешаходных дарожках;

ездзіць, не трымаючыся за руль і не трымаючы ногі на педалях (падножках);

перавозіць пасажыраў, акрамя дзяцей ва ўзросце да 7 гадоў, на дадатковым сядзенні, абсталяваным надзейнымі падножкамі;

перавозіць груз, які выступае больш чым на 0,5 м па даўжыні ці шырыні за габарыты транспартнага сродку, а таксама груз, які перашкаджае кіраванню;

рухацца па дарозе пры наяўнасці побач веласіпеднай дарожкі;

паварочваць налева ці разварочвацца на дарогах з трамвайным рухам і на дарогах, што маюць больш за адну паласу для руху ў дадзеным накірунку;

здзяйсняць буксіроўку другіх веласіпедаў і мапедаў, акрамя буксіроўкі прычэпа да веласіпеда прамысловай вытворчасці, а таксама буксіраваць свае веласіпеды і мапеды іншымі транспартнымі сродкамі.

25.6. Па-за перакрыжаваннямі на нерэгулюемым перасячэнні веласіпеднай дарожкі з дарогай веласіпедысты і вадзіцелі мапедаў абавязаны ўступаць дарогу транспартным сродкам, што рухаюцца па гэтай дарозе.

## 26. ПАТРАБАВАННІ ДА РУХУ ГУЖАВЫХ ПАВОЗАК І ПРАГОНУ ЖЫВЁЛЫ

26.1. Пры руху па дарогах у цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці на гужавой павозцы (санях) спераду павінен быць уключаны ліхтар белага колеру, ззаду -- ліхтар чырвонага колеру.







садзіць людзей і прыняць меры да вызвалення пераезда.

Адначасова вадзіцель павінен пры наяўнай магчымасці паслаць двух чалавек уздоўж пуцей у абодва бакі ад пераезда на 1000 м (калі аднаго, дык у бок горшай бачнасці пуці), растлумачыўшы ім правілы падачы сігнала спынення машыністу поезда, які набліжаецца, а самому заставацца каля транспартнага сродку і падаваць сігналы агульнай трывогі. Пры з'яўленні поезда бегчы яму насустрач, падаючы сігнал спынення*.

## 17. РУХ ПА АЎТАМАГІСТРАЛІ

17.1. На аўтамагістралях забараняецца:

рух пешаходаў, хатніх жывёл, веласіпедаў, мапедаў, трактароў і самаходных машын, іншых транспартных сродкаў, скорасць якіх па тэхнічнай характарыстыцы ці іх стану менш за 40 км/гадз.;

рух грузавых аўтамабіляў з дазволенай максімальнай масай больш як 3,5 т далей другой паласы;

спыненне па-за спецыяльнымі пляцоўкамі для стаянкі, абазначанымі знакамі 5.15 ці 6.11; разварот і ўезд у разрывы раздзяляльнай паласы;

рух заднім ходам;

вучэбная язда.

17.2. Пры вымушаным спыненні на праезнай частцы вадзіцель павінен абазначыць транспартны сродак у адпаведнасці з патрабаваннямі раздзела 8 Правілаў і прыняць меры для таго, каб вывесці гэты сродак на прызначаную для гэтага паласу (правей лініі, што абазначае край праезнай часткі).

17.3. Патрабаванні гэтага раздзела распаўсюджваюцца таксама на дарогі, абазначаныя знакам 5.3.

## 18. РУХ У ЖЫЛЫХ ЗОНАХ

18.1. У жылой зоне рух пешаходаў дазваляецца як па тратуарах, так і па праезнай частцы (па ўсёй шырыне дарогі), прычым пешаходы, маючы перавагу перад транспартнымі сродкамі, не павінны ствараць неабгрунтаваныя перашкоды аўтамабільнаму руху.

18.2. У жылой зоне забараняюцца рух са скорасцю больш за 20 км/гадз., скразны рух, вучэбная язда, стаянка з працуючым рухавіком, а таксама стаянка грузавых аўтамабіляў з дазволенай максімальнай масай больш як 3,5 т па-за спецыяльна выдзеленымі месцамі.

18.3. Пры выездзе з жылой зоны вадзіцелі павінны саступіць дарогу іншым удзельнікам руху.

18.4. Патрабаванні гэтага раздзела распаўсюджваюцца таксама на дваровыя тэрыторыі.

## 19. ПРЫЯРЫТЭТ МАРШРУТНЫХ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ

19.1. Па-за скрыжаваннямі, дзе трамвайныя пуці перасякаюць праезную частку, трамвай мае перавагу перад бязрэйкавымі транспартнымі сродкамі, акрамя выпадкаў выезду з дэпо.

19.2. На дарогах з паласой для маршрутных транспартных сродкаў, абазначаных знакамі 5.9, 5.10.1--5.10.3., забараняюцца рух і спыненне іншых транспартных сродкаў на гэтай паласе.

Калі ўказаная паласа аддзелена ад астатняй праезнай часткі перарывістай лініяй разметкі, дык пры паваротах транспартныя сродкі павінны перастройвацца на яе. Дазваляецца таксама ў такіх месцах заязджаць на гэтую паласу для высадкі пасажыраў каля правага краю праезнай часткі, калі гэта не стварае перашкоды маршрутнаму транспартнаму сродку.

19.3. У населеных пунктах вадзіцелі павінны саступаць дарогу тралейбусам і аўтобусам, якія пачынаюць рух ад абазначанага прыпынку. Вадзіцелі тралейбусаў і аўтобусаў могуць пачынаць рух толькі пасля таго, як пераканаюцца, што ім саступаюць дарогу.

## 20. КАРЫСТАННЕ ЗНЕШНІМІ СВЕТЛАВЫМІ ПРЫБОРАМІ І ГУКАВЫМІ СІГНАЛАМІ

20.1. Пры руху ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці, незалежна ад асветленасці дарогі, а таксама ў тунелях на транспартным сродку, які рухаецца, павінны быць уключаны наступныя прыборы:

на ўсіх механічных транспартных сродках і мапедах -- фары далёкага ці блізкага святла, на веласіпедах -- фары і ліхтары;

на прычэпах -- габарытныя агні.

20.2. Дальняе святло павінна быць пераключана на блізкае:

у населеных пунктах, калі дарога асветлена;

пры сустрэчным раз'ездзе на адлегласці не менш як 150 м да транспартнага сродку, а таксама на большай, калі вадзіцель сустрэчнага транспартнага сродку перыядычным пераключэннем святла фар пакажа неабходнасць гэтага;

у любых іншых выпадках для выключэння магчымасці асляплення вадзіцеляў як сустрэчных, так і спадарожных транспартных сродкаў.

Пры асляпленні вадзіцель павінен уключыць аварыйную светлавую сігналізацыю і, не мяняючы паласы руху, знізіць скорасць і спыніцца.

20.3. Пры спыненні і стаянцы ў цёмны час сутак на неасветленых участках дарог і ва ўмовах недастатковай бачнасці на транспарт-

* Сігналам спынення служыць кругавы рух рукі (днём з кавалкам яркай матэрыі ці якім-небудзь добра бачным прадметам, уначы -- з факелам ці ліхтаром). Сігналам агульнай трывогі служаць серыі з аднаго доўгага і трох кароткіх гукавых сігналаў.




чае, што рух да ўказанага населенага пункта ці аб'екта пасля выезду з гэтага населенага пункта будзе ажыццяўляцца адпаведна па аўтамагістралі ці іншай дарозе, белы фон азначае, што ўказаны аб'ект знаходзіцца ў дадзеным населеным пункце.

### ЗНАКІ СЕРВІСУ

Знакі сэрвісу інфармуюць аб размяшчэнні адпаведных аб'ектаў.

6.1. «Пункт першай медыцынскай дапамогі».

6.2. «Бальніца».

6.3. «Аўтазаправачная станцыя».

6.4. «Тэхнічнае абслугоўванне аўтамабіляў».

6.5. «Мойка аўтамабіляў».

6.6. «Тэлефон».

6.7. «Пункт харчавання».

6.8. «Пітная вада».

6.9. «Гасцініца ці матэль».

6.10. «Кемпінг».

6.11. «Месца адпачынку».

6.12. «Пост ДАІ».

### ЗНАКІ ДАДАТКОВАЙ ІНФАРМАЦЫІ (ТАБЛІЧКІ)

Знакі дадатковай інфармацыі (таблічкі) удакладняюць ці абмяжоўваюць дзеянне знакаў, з якімі яны прыменены.

7.1.1. «Адлегласць да аб'екта». Указваецца адлегласць ад знака да пачатку небяспечнага ўчастка, месца ўвядзення адпаведнага абмежавання ці пэўнага аб'екта (месца), што знаходзіцца наперадзе па ходу руху.

7.1.2. «Адлегласць да аб'екта». Указвае адлегласць ад знака 2.4 да скрыжавання ў выпадку, калі непасрэдна перад скрыжаваннем устаноўлены знак 2.5.

7.1.3, 7.1.4. «Адлегласць да аб'екта». Указвае адлегласць да аб'екта, што знаходзіцца ў баку ад дарогі.

7.2.1. «Зона дзеяння». Указвае працягласць небяспечнага ўчастка дарогі, абазначанага папераджальнымі знакамі, ці зону дзеяння забараняльных і інфармацыйна-паказальных знакаў.

7.2.2--7.2.6. «Зона дзеяння».

7.2.2. Указвае зону дзеяння забаранялыных знакаў 3.27--3.30;

7.2.3. Указвае канец зоны дзеяння знакаў 3.27--3.30;

7.2.4. Інфармуе вадзіцеляў аб знаходжанні іх у зоне дзеяння знакаў 3.27--3.30;

7.2.5, 7.2.6. Указваюць напрамак і зону дзеяння знакаў 3.27--3.30 пры забароне спынення ці стаянкі ўздоўж аднаго боку плошчы, фасада будынка і г. д.

7.3.1--7.3.3. «Напрамак дзеяння». Указваюць напрамкі дзеяння знакаў, устаноўленых перад скрыжаваннем, ці напрамкі руху да абазначаных аб'ектаў, што знаходзяцца непасрэдна каля дарогі.

7.4.1--7.4.8. «Від транспартнага сродку». Указваюць від транспартнага сродку, на які распаўсюджваецца дзеянне знака.

Таблічка 7.4.1 распаўсюджвае дзеянне знака на грузавыя аўтамабілі, у тым ліку і з прычэпам дазволенай максімальнай масай больш за 3,5 т, а таблічка 7.4.3 -- на легкавыя аўтамабілі і грузавыя аўтамабілі дазволенай максімальнай масай да 3,5 т, а таблічка 7.4.8 -- на транспартныя сродкі, абсталяваныя апазнавальнымі знакамі.

7.5.1. «Суботнія, нядзельныя і святочныя дні».

7.5.2. «Рабочыя дні».

7.5.3. «Дні тыдня». Указваюць дні тыдня, на працягу якіх дзейнічае знак.

7.5.4. «Час дзеяння». Указвае час сутак, на працягу якога дзейнічае знак.

7.5.5--7.5.7. «Час дзеяння». Указваюць дні тыдня і час сутак, на працягу якіх дзейнічае знак.

7.6.1--7.6.9. «Спосаб пастаноўкі транспартнага сродку на стаянку».

7.6.1 указвае, што ўсе транспартныя сродкі павінны быць пастаўлены на стаянку на праезнай частцы ўздоўж тратуара.

7.6.2--7.6.9 указваюць спосаб пастаноўкі легкавых аўтамабіляў і матацыклаў на калятратуарнай стаянцы.

7.7 «Стаянка з непрацуючым рухавіком». Указвае, што на стаянцы, абазначанай знакам 5.15, дазваляецца стаянка транспартных сродкаў толькі з непрацуючым рухавіком. Улічваючы, што Правіламі стаянка з працуючым рухавіком забаронена, гэты знак у Рэспубліцы Беларусь не ўжываецца.

7.8. «Платныя паслугі». Указвае, што паслугі прадастаўляюцца толькі на наяўны разлік.

7.9. «Абмежаванне працягласці стаянкі». Указвае максімальную працягласць знаходжання транспартнага сродку на стаянцы, абазначанай знакам 5.15.

7.10. «Месца для агляду аўтамабіляў». Указвае, што на пляцоўцы, абазначанай знакам 5.15 ці 6.11, ёсць эстакада ці аглядная





праваджэнні галаўнога транспартнага сродку з уключаным праблісквым маячком сіняга колеру ці маячкамі сіняга і чырвонага колераў і ўключаным спецыяльным гукавым сігналам.

«Прыпынак» -- наўмыснае спыненне руху транспартнага сродку на час да 5 хвілін, а таксама на больш, калі гэта неабходна для пасадкі ці высадкі пасажыраў або загрузкі ці разгрузкі транспартнага сродку.

«Перакрыжаванне» -- месца перасячэння, прымыкання ці разгалінавання дарог на адным узроўні, абмежаванае ўяўнымі лініямі, якія звязваюць адпаведна процілеглыя, найбольш аддаленыя ад цэнтра перакрыжавання пачатак закругленняў праезных частак. Не лічацца перакрыжаваннямі выезды з мяжуючых тэрыторый.

«Пешаход» -- асоба, якая знаходзіцца на дарозе па-за транспартным сродкам і не праводзіць на ёй работу. Да пешаходаў прыраўноўваюцца асобы, якія перамяшчаюцца ў інвалідных калясках без рухавіка, вядуць веласіпед, мапед, матацыкл, вязуць санкі, цялежку, дзіцячую ці інвалідную каляску.

«Пешаходны пераход» -- участак праезнай часткі, абазначаны знакамі 5.16.1, 5.16.2 і (або) разметкай 1.14.1--1.14.3 і прызначаны для руху пешаходаў праз дарогу. Пры адсутнасці разметкі шырыня пешаходнага пераходу вызначаецца адлегласцю паміж знакамі 5.16.1 і 5.16.2.

«Пасажыр» -- асоба, якая карыстаецца транспартным сродкам і знаходзіцца ў ім, але не мае дачынення да кіравання ім.

«Паласа руху» -- любая паласа з падоўжаных палос праезнай часткі, абазначаная ці не абазначаная разметкай і мае шырыню, дастатковую для руху аўтамабіляў у адзін рад.

«Перавага (прыярытэт)» -- права на першачарговы рух у намечаным напрамку ў адносінах да іншых удзельнікаў руху.

«Перашкода для руху» -- аб'ект, які знаходзіцца на шляху удзельнікаў дарожнага руху і вымушае іх змяняць скорасць або манеўраваць.

«Прылеглая тэрыторыя» -- тэрыторыя, якая непасрэдна прылягае да дарогі (двары, жылыя масівы, аўтазаправачныя станцыі, прадпрыемствы, будаўнічыя пляцоўкі, аўтастанцыі і да т. п.).

«Прычэп» -- транспартны сродак, прызначаны для руху ў саставе з механічным транспартным сродкам. Тэрмін распаўсюджваецца таксама на паўпрычэпы і прычэпы-роспускі.

«Праезная частка» -- частка дарогі, прызначаная для руху бязрэйкавых транспартных сродкаў. Трамвайны пуць з'яўляецца граніцай праезнай часткі, прызначанай для руху бязрэйкавых транспартных сродкаў.

«Раздзяляльная паласа» -- канструктыўна выдзелены элемент дарогі, які падзяляе сумежныя праезныя часткі і не прызначаны для руху ці прыпынку бязрэйкавых транспартных сродкаў і пешаходаў.

«Дазволеная максімальная маса» -- маса нагружанага транспартнага сродку з грузам, вадзіцелем і пасажырамі, устаноўленая прадпрыемствам-вытворцам у якасці максімальна дапушчальнай. За дазволеную максімальную масу саставу транспартных сродкаў, г. зн. счэпленых і рухаюцца як адно цэлае, прымаецца сума дазволеных максімальных мас транспартных сродкаў, якія ўваходзяць у састаў.

«Рэгуліроўшчык» -- супрацоўнік міліцыі, ваеннай аўтаінспекцыі, работнік дарожна-эксплуатацыйнай службы, дзяжурны на чыгуначным пераездзе ці паромнай пераправе, дружыннік, які мае адпаведнае пасведчанне і экіпіроўку (форменнае адзенне ці адметны знак -- нарукаўную павязку, жазло, дыск з чырвоным сігналам альбо святловярчальнікам, чырвоны ліхтар ці флажок) і ажыццяўляе рэгуляванне руху.

«Стаянка» -- наўмыснае спыненне транспартнага сродку на час больш як 5 хвілін па прычынах, не звязаных з пасадкай ці высадкай пасажыраў або загрузкай ці разгрузкай транспартнага сродку.

«Цёмны час сутак» -- прамежак часу, які пачынаецца праз 30 хвілін пасля заходу і заканчваецца за 30 хвілін да ўсходу сонца.

«Транспартны сродак» -- прыстасаванне, прызначанае для перавозкі па дарозе людзей, грузаў ці абсталявання, устаноўленага на ім.

«Тратуар» -- частка дарогі, якая прызначана для руху пешаходаў і прымыкае да праезнай часткі ці аддзелена ад яе газонам.

«Уступіць дарогу» (не ствараць перашкод) -- патрабаванне, якое абазначае, што ўдзельнік дарожнага руху не павінен пачынаць, аднаўляць ці працягваць рух, ажыццяўляць якінебудзь манеўр, калі гэта можа прымусіць іншых удзельнікаў руху, якія маюць у адносінах да яго перавагу, змяніць напрамак руху ці скорасць.

«Удзельнік дарожнага руху» -- асоба, якая знаходзіцца ў межах дарогі непасрэдна ці на выкарыстоўваемым транспартным сродку.

### 3. АГУЛЬНЫЯ АБАВЯЗКІ ВАДЗІЦЕЛЯЎ

3.1. Вадзіцель механічнага транспартнага сродку абавязаны мець пры сабе:





партных сродкаў, што рухаюцца па галоўнай дарозе, павінны кіравацца паміж сабой правіламі праезду скрыжаванняў раўназначных дарог. Гэтымі ж правіламі кіруюцца вадзіцелі транспартных сродкаў, што рухаюцца па другарадных дарогах.

14.11. На скрыжаванні раўназначных дарог вадзіцель бязрэйкавага транспартнага сродку абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, што набліжаюцца справа. Гэтым жа правілам павінны кіравацца паміж сабой вадзіцелі трамваяў. На такіх скрыжаваннях трамвай мае перавагу перад бязрэйкавымі транспартнымі сродкамі, незалежна ад напрамку яго руху.

14.12. Пры павароце налева ці развароце вадзіцель бязрэйкавага транспартнага сродку абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, што рухаюцца па раўназначнай дарозе з сустрэчнага напрамку прама ці направа. Гэтым жа правілам павінны кіравацца паміж сабой вадзіцелі трамваяў.

14.13. Калі вадзіцель не можа вызначыць наяўнасць пакрыцця на дарозе (цёмны час сутак, гразь, снег і г. д.), а знакаў прыярытэту няма, ён павінен лічыць, што знаходзіцца на другараднай дарозе.

### 15. ПЕШАХОДНЫЯ ПЕРАХОДЫ І ПРЫПЫНКІ МАРШРУТНЫХ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ

15.1. Вадзіцель транспартнага сродку абавязаны саступіць дарогу пешаходам, што пераходзяць праезную частку па нерэгулюемым пешаходным пераходзе.

15.2. Калі перад пешаходным пераходам спыніўся ці запаволіў рух транспартны сродак, дык вадзіцелі іншых транспартных сродкаў, што рухаюцца па суседніх палосах у спадарожным напрамку, могуць працягваць рух толькі пераканаўшыся, што перад гэтым транспартным сродкам няма пешаходаў.

15.3. На рэгулюемых пешаходных пераходах пры ўключэнні дазваляльнага сігнала святлафора вадзіцель павінен даць магчымасць пешаходам (пешаходу) закончыць пераход праезнай часткі гэтага напрамку.

15.4. Забараняецца ўязджаць на пешаходны пераход, калі за ім утварыўся затор, які прымусіць вадзіцеля спыніцца на пешаходным пераходзе.

15.5. Ва ўсіх выпадках, у тым ліку і па-за пешаходнымі пераходамі, вадзіцель абавязаны прапусціць сляпых пешаходаў (пешахода), што падаюць сігнал белай палкай. Вадзіцель транспартнага сродку павінен быць у гатоўнасці знізіць скорасць ці спыніцца, каб выключыць верагоднасць наезду на такіх удзельнікаў руху, як дзеці, інваліды з парушэннямі апорна-рухальнага апарата.

15.6. Вадзіцель павінен саступіць дарогу пешаходам (пешаходу), які ідзе да маршрутнага транспартнага сродку, што стаіць на прыпынку ці ад яго (з боку дзвярэй), калі пасадка і высадка робяцца з праезнай часткі ці з пасадачнай пляцоўкі, размешчанай на ёй.

15.7 Набліжаючыся да транспартнага сродку, які спыніўся і мае апазнавальны знак «Перавозка дзяцей», вадзіцель павінен знізіць скорасць, пры неабходнасці спыніцца і прапусціць дзяцей (дзіця).

### 16. ЧЫГУНАЧНЫЯ ПЕРАЕЗДЫ

16.1. Вадзіцелі транспартных сродкаў могуць перасякаць чыгуначныя пуці толькі па чыгуначных пераездах, саступаючы дарогу поезду (лакаматыву, дрызіне).

16.2. Пры пад'ездзе да чыгуначнага пераезду вадзіцель абавязаны пераканацца ў адсутнасці поезда (лакаматыва, дрызіны), што набліжаецца, і кіравацца патрабаваннямі дарожных знакаў, святлафораў, разметкі, становішчам шлагбаума і ўказаннямі дзяжурнага па пераезду.

16.3. Забараняецца выязджаць на пераезд:

пры закрытым ці пачынаючым закрывацца шлагбауме (незалежна ад сігнала святлафора);

пры забаранялыным сігнале святлафора (незалежна ад становішча і наяўнасці шлагбаума); пры забаранялыным сігнале дзяжурнага па пераезду (дзяжурны звернуты да вадзіцеля грудзямі ці спінай з узнятым над галавой жазлом, чырвоным ліхтаром ці сцяжком, або з выцягнутымі ў бок рукамі);

калі за пераездам утварыўся затор, які прымусіць вадзіцеля спыніцца на пераездзе;

калі да пераезда ў граніцах бачнасці набліжаецца поезд (лакаматыў, дрызіна).

Акрамя таго, забараняецца:

аб'язджаць з выездам на паласу сустрэчнага руху транспартныя сродкі, якія стаяць перад пераездам;

самавольна адкрываць шлагбаум;

правозіць праз пераезд у нетранспартабельным стане сельскагаспадарчыя, дарожныя, будаўнічыя і іншыя машыны і механізмы;

без дазволу начальніка дыстанцыі пуці чыгункі рух праз пераезд ціхаходных машын, скорасць якіх менш за 8 км/гадз., а таксама саней-валакуш.

16.4. У выпадках, калі рух праз пераезд забаронены, вадзіцель павінен спыніцца каля стоп-лініі, знака 2.5 ці святлафора, а калі іх няма -- не бліжэй чым за 5 м ад шлагбаума, а пры адсутнасці апошняга -- не бліжэй чым за 10 м да бліжэйшых рэек.

16.5. Пры вымушаным прыпынку на пераездзе вадзіцель абавязаны неадкладна вы-





26.2. Рух па праезнай частцы на гужавых павозках (санях), верхавых жывёлах дазваляецца толькі ў адзін рад на адлегласці не больш за 1 м ад яе правага краю. Выезд на большую адлегласць дапускаецца толькі для аб'езду перашкод і ў дазволеных выпадках для павароту налева ці развароту. Дапускаецца таксама рух па абочыне, калі гэта не стварае перашкод пешаходам. Калоны гужавых павозак (саней) пры руху па праезнай частцы павінны быць падзелены на групы па 5 павозак (саней). Адлегласць паміж групамі павінна складаць 80--100 м.

26.3. Вадзіцель гужавай павозкі (саней) пры выездзе з другараднай дарогі на галоўную ў цёмны час сутак і ў месцах з абмежаваным аглядам абавязаны весці жывёлу за аброць.

26.4. Вадзіцелю гужавай павозкі (саней), паганятым верхавых і ўючных жывёл забараняецца пакідаць на дарозе жывёл без нагляду, а таксама весці іх па дарогах з удасканаленым пакрыццём.

26.5. Паганятым жывёлы забараняецца:

пакідаць жывёлу на дарозе без нагляду;

пераганяць жывёлу праз чыгуначныя пуці па-за спецыяльна адведзенымі месцамі;

пасвіць жывёлу на аўтамабільных дарогах агульнага карыстання, а таксама пераганяць яе праз дарогу ў непазначаных і неабсталяваных месцах, і ў цёмны час сутак.

### 27. АСНОЎНЫЯ ПАЛАЖЭННІ ПА ДОПУСКУ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ ДА ЭКСПЛУАТАЦЫІ, ІХ ТЭХНІЧНЫ СТАН І АБСТАЛЯВАННЕ

27.1. Тэхнічны стан, абсталяванне і прызначэнне транспартных сродкаў, якія ўдзельнічаюць ў дарожным руху, у частцы, якая датычыцца бяспекі дарожнага руху і аховы акаляючага асяроддзя, павінны адпавядаць патрабаванням адпаведных стандартаў, правілаў тэхнічнай эксплуатацыі, інструкцый прадпрыемстваў-вытворцаў, рэгістрацыйных дакументаў і іншай нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі.

27.2. Забараняецца эксплуатацыя механічных транспартных сродкаў, якія не прайшлі дзяржаўнага перыядычнага тэхнічнага агляду ва ўстаноўленым парадку.

27.3. Забараняецца эксплуатацыя тралейбусаў і трамваяў пры наяўнасці ў іх хоць бы адной няспраўнасці, указанай у правілах тэхнічнай эксплуатацыі гэтых транспартных сродкаў.

27.4. Забараняецца эксплуатацыя аўтамабіляў, аўтобусаў, аўтапаяздоў, прычэпаў, матацыклаў, мапедаў, трактароў і іншых самаходных машын пры наяўнасці ў іх няспраўнасцей і невыкананні ўмоў, указаных у Дадатку 1 да Правілаў.

27.5. Пры ўзнікненні ў транспартнага сродку ў дарозе няспраўнасцей, указаных у Дадатку 1 да Правілаў, вадзіцель павінен прыняць меры да іх устаранення, а, калі гэта немагчыма, -- ехаць да месца стаянкі ці рамонту з захаваннем неабходных мераў перасцярогі.

27.6. Забараняецца далейшы рух транспартных сродкаў з сапсаванай тармазной сістэмай, пашкоджаным рулявым кіраваннем, няспраўным счэпным абсталяваннем (у складзе поезда), а ў цёмны час сутак на дарогах без штучнага асвятлення ці ва ўмовах недастатковай бачнасці -- з цёмнымі фарамі і заднімі габарытнымі агнямі, у час дажджу ці снегападу -- з няспраўнымі шклоачышчальнікамі.

27.7. Забараняецца эксплуатацыя транспартных сродкаў:

з антырадарнымі прыборамі;

пераабсталяваных ці абсталяваных праблісквαючымі маячкамі, спецыяльнымі гукавымі сігналамі без узгаднення з Дзяржаўтаінспекцыяй, а таксама без замацаваных ва ўстаноўленых месцах рэгістрацыйных знакаў;

якія маюць схаваныя, падробленыя, змененыя нумары вузлоў і агрэгатаў ці рэгістрацыйныя знакі.

Забараняецца эксплуатацыя аўтамабіляў, якія разлічаны на левабаковы рух і якія маюць руль з правага боку, акрамя тых, што былі зарэгістраваны ў Рэспубліцы Беларусь да ўвядзення Правілаў, ці належаць часова прыехаўшым у Беларусь грамадзянам іншых дзяржаў.

27.8. Механічныя транспартныя сродкі і прычэпы павінны быць зарэгістраваны ў Дзяржаўтаінспекцыі. Не рэгіструюцца ў Дзяржаўтаінспекцыі механічныя транспартныя сродкі і прычэпы, якія належаць Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь, войскам Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і Галоўнаму ўпраўленню пагранічных войскаў Рэспублікі Беларусь, трактары, прычэпы і паўпрычэпы да іх, самаходныя сельскагаспадарчыя, меліярацыйныя, дарожна-будаўнічыя машыны, гоначныя аўтамабілі і матацыклы, тэхналагічныя транспартныя сродкі, якія эксплуатуюцца на закрытых тэрыторыях, пазадарожныя аўтамабілі.

27.9. На механічных транспартных сродках (акрамя трамваяў і тралейбусаў), прычэпах і паўпрычэпах у прадугледжаных для гэтага месцах павінны быць устаноўлены рэгістрацыйныя знакі, што адпавядаюць стандартам.

дакументы, якія пацвярджаюць права кіравання транспартнымі сродкамі адпаведнай катэгорыі;*

рэгістрацыйныя дакументы на транспартны сродак;**

дакумент, які пацвярджае праходжанне дзяржаўнага тэхнічнага агляду; дарожны ліст (акрамя ўладальнікаў асабістага транспарту);

ліцэнзію -- для транспартных сродкаў прадпрыемстваў, арганізацый і прадпрымальнікаў, перавозная дзейнасць якіх падлягае ліцэнзаванню;

дазвол органа сувязі на выкарыстанне сродкаў радыё- і тэлефоннай сувязі пры іх наяўнасці на транспартным сродку (акрамя спецыяльных);

завераную ва ўстаноўленым парадку даверанасць на права распараджэння ці карыстання транспартным сродкам ці пасведчанне аб праве агульнай уласнасці на транспартны сродак у выпадках, калі вадзіцель кіруе транспартным сродкам у адсутнасць уладальніка.***

3.2. Вадзіцель механічнага транспартнага сродку, які ўдзельнічае ў міжнародным дарожным руху, абавязаны:

мець пры сабе рэгістрацыйныя дакументы на транспартны сродак і вадзіцельскае пасведчанне, якое адпавядае Канвенцыі аб дарожным руху, дарожных знаках і сігналах;

мець на транспартным сродку рэгістрацыйны і адметны знакі дзяржавы, у якой ён зарэгістраваны.

3.3. Вадзіцель транспартнага сродку абавязаны:

3.3.1. Перад выездам праверыць і забяспечыць спраўны тэхнічны стан транспартнага сродку ў час руху ў адпаведнасці з патрабаваннямі раздзела 27 Правілаў;

---

* Дакументамі, якія пацвярджаюць права кіравання транспартнымі сродкамі, з'яўляюцца:

вадзіцельскае пасведчанне на права кіравання транспартным сродкам адпаведнай катэгорыі і талон да яго;

часовы дазвол на права кіравання транспартным сродкам.

** Рэгістрацыйнымі дакументамі з'яўляюцца:

пасведчанне аб рэгістрацыі (тэхнічны пашпарт); рэгістрацыйныя (нумарныя) і знакі адрознення.

***Уладальнік транспартнага сродку, а таксама асоба, маючая даверанасць на права карыстання ці распараджэння ім, можа перадаваць кіраванне транспартным сродкам у сваёй прысутнасці іншай асобе, маючай пры сабе вадзіцельскае пасведчанне на права кіравання транспартным сродкам гэтай катэгорыі.

3.3.2. Пры руху на транспартным сродку, абсталяваным рамянямі бяспекі, быць прышпіленым і не перавозіць пасажыраў, не прышпіленых рамянямі (дапускаецца не прышпільвацца рамянямі таму, хто абучае ваджэнню, калі транспартным сродкам кіруе той, каго абучаюць, а ў населеных пунктах, акрамя таго, вадзіцелям аўтамабіляў аператыўных і спецыяльных службаў і таксі). Пры кіраванні матацыклам быць у зашпіленым моташлеме і не перавозіць пасажыраў без зашпіленага моташлема;

3.3.3. Па патрабаванню работнікаў міліцыі спыняцца і перадаваць ім, а таксама дружыннікам і пазаштатным супрацоўнікам міліцыі для праверкі дакументы, указаныя ў пунктах 3.1. і 3.2. Правілаў, а работнікам кантрольна-рэвізійнай службы -- дарожны ліст, ліцэнзію і дакумент на перавозімы груз;

3.3.4. Па патрабаванню работніка міліцыі прайсці ва ўстаноўленым парадку агляд на прадмет устанаўлення, ці знаходзіцца вадзіцель у стане ап'янення, уздзеяння наркатычных сродкаў і псіхатропных або таксічных рэчываў;

3.3.5. Прадастаўляць транспартны сродак:

работнікам міліцыі і аховы здароўя для адпраўкі ў бліжэйшую лячэбную ўстанову асоб, якія маюць патрэбу ў медыцынскай дапамозе;

работнікам міліцыі для праезду да месца стыхійнага бедства, праследавання асоб, якія ўчынілі злачынства, дастаўкі іх у міліцыю, праезду да месца здарэння, а таксама для транспартавання пашкоджаных пры аварыях транспартных сродкаў.

Патрабаванні аб прадастаўленні транспартных сродкаў не распаўсюджваюцца на транспартныя сродкі дыпламатычных, консульскіх і іншых прадстаўніцтваў замежных дзяржаў, а таксама транспартныя сродкі спецыяльнага прызначэння.

Асобы, якія выкарысталі прадастаўлены ім транспартны сродак, павінны па патрабаванню вадзіцеля выдаць яму адпаведную даведку ці зрабіць запіс у дарожным лісце з указаннем працягласці паездкі, пройдзенай адлегласці, свайго прозвішча, пасады, нумара службовага пасведчання, назвы сваёй арганізацыі.

Асобыя, якія маюць права правяраць у вадзіцеля транспартнага сродку дакументы ці выкарыстоўваць транспартны сродак, абавязаны прад'явіць па патрабаванню вадзіцеля службовае пасведчанне.

3.4. Вадзіцелю забараняецца:

3.4.1. Кіраваць транспартным сродкам у выпадку знаходжання ў стане алкагольнага



справа ад дарогі на блізкай граніцы пераходу, а знак 5.16.1 -- злева на далёкай граніцы пераходу.

5.17.1 і 5.17.2. «Падземны пешаходны пераход».

5.17.3, 5.17.4. «Надземны пешаходны пераход».

5.18. «Рэкамендуемая скорасць». Скорасць, з якой рэкамендуецца рух на дадзеным участку дарогі. Зона дзеяння знака распаўсюджваецца да бліжэйшага скрыжавання, а пры прымяненні знака 5.18 разам з папераджальным знакам вызначаецца працягласць небяспечнага ўчастка.

5.19.1--5.19.3. «Тупік». Дарога, якая не мае скразнога праезду.

5.20.1, 5.20.2. «Папярэдні паказальнік напрамкаў».

Напрамак руху да абазначаных на знаку населеных пунктаў і іншых аб'ектаў.

На знаках могуць быць нанесены малюнкі знака 5.29.1, сімвалы аўтамагістралі, аэрапорта, спартыўныя і іншыя піктаграмы. На знаку 5.20.1 могуць быць нанесены малюнкі іншых знакаў, якія інфармуюць аб асаблівасцях руху. У ніжняй частцы знака 5.20.1 указваецца адлегласць ад месца ўстаноўкі знака да скрыжавання ці пачатку паласы тармажэння. Знак 5.20.1 прымяняецца таксама для ўказання аб'езду ўчасткаў дарог, на якіх устаноўлены адзін з забараняльных знакаў 3.11--3.15.

5.20.3. «Схема руху». Маршрут руху пры забароне на скрыжаванні асобных манеўраў ці дазволеныя напрамкі руху на складаным скрыжаванні.

5.21.1. «Паказальнік напрамку», 5.21.2. «Паказальнік напрамкаў».

Напрамак руху да пунктаў маршруту. На знаках можа быць указана адлегласць да абазначаных на ім аб'ектаў (км), нанесены сімвалы аўтамагістралі, аэрапорта, спартыўныя і іншыя піктаграмы.

5.22. «Пачатак населенага пукта». Назва і пачатак населенага пункта, у якім дзейнічаюць патрабаванні Правілаў, што ўстанаўліваюць парадак руху ў населеных пунктах.

5.23. «Канец населенага пункта». Месца, з якога на дадзенай дарозе страчваюць сілу патрабаванні Правілаў, што ўстанаўліваюць парадак руху ў населеных пунктах.

5.24. «Пачатак населенага пункта». Назва і пачатак населенага пункта, у якім на дадзенай дарозе не дзейнічаюць патрабаванні Правілаў, што ўстанаўліваюць парадак руху ў населеных пунктах.

5.25. «Канец населенага пункта». Канец населенага пункта, абазначанага знакам 5.24.

5.26. «Назва аб'екта». Назва аб'екта іншага, чым населены пункт (рака, возера, перавал, славутасць і да т. п.).

5.27. «Паказальнік адлегласцей». Адлегласці да населеных пунктаў (км), размешчаных на маршруце.

5.28. «Кіламетровы знак». Адлегласць да пачатку ці канца дарогі (км).

5.29.1, 5.29.2. «Нумар маршрута».

5.29.1 -- нумар, прысвоены дарозе (маршруту); 5.29.2 -- нумар і напрамак дарогі (маршрута).

5.30.1--5.30.3. «Напрамак руху для грузавых аўтамабіляў».

Рэкамендуемы напрамак руху для грузавых аўтамабіляў, трактароў і самаходных машын, калі на скрыжаванні іх рух у адным напрамку забаронены.

5.31. «Схема аб'езду». Маршрут аб'езду ўчастка дарогі, часова закрытага для руху.

5.32.1 -- 5.32.3. «Напрамак аб'езду». Напрамак аб'езду ўчастка дарогі, часова закрытага для руху.

5.33. «Стоп-лінія». Месца спынення транспартных сродкаў пры забараняльным сігнале святлафора (рэгуліроўшчыка).

5.34.1, 5.34.2. «Папярэдні паказальнік перастраення на іншую праезную частку». Напрамак аб'езду закрытага для руху ўчастка праезнай часткі на дарозе з раздзяляльнай паласой ці напрамак руху для вяртання на правую праезную частку.

5.35. «Рэверсіўны рух». Пачатак участка дарогі, на якім на адной ці некалькіх палосах напрамак руху можа змяняцца на процілеглы.

5.36. «Канец рэверсіўнага руху».

5.37. «Выезд на дарогу з рэверсіўным рухам».

5.38. «Жылая зона». Тэрыторыя, на якой дзейнічаюць патрабаванні Правілаў, якія ўстанаўліваюць парадак руху ў жылой зоне.

5.39. «Канец жылой зоны».

На знаках 5.20.1, 5.20.2, 5.21.1 і 5.21.2, устаноўленых па-за населеным пунктам, зялёны ці сіні фон азначае, што рух да ўказанага населенага пункта ці аб'екта будзе ажыццяўляцца адпаведна па аўтамагістралі ці іншай дарозе. На знаках 5.20.1, 5.20.2, 5.21.1 і 5.21.2, устаноўленых у населеным пункце, зялёны ці сіні фон азна-



Лічбы і літары рэгістрацыйных знакаў павінны быць паўтораны на задняй сценцы кузава грузавога аўтамабіля, прычэпа (акрамя прычэпа да легкавога аўтамабіля і матацыкла), а таксама аўтобуса. Пры гэтым вышыня лічбаў павінна складаць не менш чым 300 мм, шырыня -- не менш чым 120 мм, таўшчыня штрыха -- 30 мм, памер літар -- 2/3 ад памеру лічбаў.

На трамвай і тралейбус наносяцца рэгістрацыйныя нумары, якія прысвойваюцца ім адпаведнымі міністэрствамі ці іншымі цэнтральнымі органамі кіравання.

27.10. Грузавы аўтамабіль з бартавой платформай і кузавам-фургонам, які выкарыстоўваецца для перавозкі людзей, павінен быць абсталяваны сядзеннямі, замацаванымі на вышыні 0,3--0,5 м ад падлогі і не менш чым 0,3 м ад верхняга краю борта. Сядзенні, якія знаходзяцца ўздоўж задняга і бакавога борта, павінны мець моцныя спінкі.

27.11. Механічны транспартны сродак, які выкарыстоўваецца для абучэння ваджэнню і належыць вучэбнай арганізацыі, павінен быць абсталяваны дадатковымі педалямі прывода счаплення і тормаза, люстэркам задняга поля зроку для таго, хто абучаецца, а таксама пазначана двухбаковым апазнавальным знакам «Вучэбны транспартны сродак», які свеціцца, на даху аўтамабіля.

27.12. Веласіпед павінен мець спраўныя тармазы, руль і гукавы сігнал, быць абсталяваны спераду святлаовяртальнікам і фарай белага колеру, ззаду -- святловяртальнікам і ліхтаром чырвонага колеру, а з кожнага боку -- святловяртальнікам аранжавага колеру.

27.13. Гужавая павозка павінна мець прадугледжаныя канструкцыяй спраўнае стаяначнае тармазное ўстройства і супрацьадкатныя падпоркі, ліхтары белага і чырвонага колеру і павінна быць абсталявана святловяртальнікамі спераду — белага і ззаду чырвонага колераў.

27.14. На транспартных сродках павінны быць устаноўлены наступныя апазнавальныя знакі:

«Аўтапоезд» -- у выглядзе трох ліхтароў аранжавага колеру, размешчаных гарызантальна на даху кабіны з прамежкам паміж імі ад 150 да 300 мм -- на грузавых аўтамабілях і колавых трактарах (класаў цягі 1,4 т і вышэй) з прычэпамі, а таксама на сучляненых аўтобусах і тралейбусах;

«Шыпы» -- у выглядзе роўнабаковага трохкутніка белага колеру вяршыняй уверх з каймой чырвонага колеру, у які ўпісана літара «Ш» чорнага колеру (бок трохкутніка не менш за 200 мм, шырыня каймы -- 1/10 боку) -- ззаду механічных транспартных сродкаў, якія маюць шыны з шыпамі;

«Перавозка дзяцей» -- у выглядзе квадрата жоўтага колеру з каймой чырвонага колеру (бок не менш чым 250 мм, шырыня каймы -- 1/10 боку), з чорнай выявай сімвала дарожнага знака 1.21 -- спераду і ззаду аўтобусаў пры перавозцы груп дзяцей;

«Глухі вадзіцель» -- у выглядзе жоўтага круга дыяметрам 160 мм з нанесенымі ўнутры трыма чорнымі кружкамі дыяметрам 40 мм, размешчанымі па кутах уяўляемага роўнабаковага трохкутніка, вяршыня якога павернута ўніз, -- спераду і ззаду механічных транспартных сродкаў, якімі кіруюць глуханямыя ці глухія вадзіцелі;

«Вучэбны транспартны сродак» -- у выглядзе роўнабаковага трохкутніка белага колеру вяршыняй уверх з каймой чырвонага колеру, у які ўпісана літара «У» чорнага колеру (бок не менш чым 200 мм, шырыня каймы -- 1/10 боку), -- спераду і ззаду механічных транспартных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для абучэння ваджэнню (дапускаецца ўстаноўка двухбаковага знака на даху легкавога аўтамабіля);

«Абмежаванне скорасці» -- у выглядзе паменшанай каляровай выявы дарожнага знака 3.24 з указаннем дазволенай скорасці (дыяметр знака не менш чым 160 мм, шырыня каймы -- 1/10 дыяметра) -- на заднім баку кузава злева ў механічных транспартных сродкаў, якімі кіруюць вадзіцелі з вадзіцельскім стажам менш чым 2 гады, што перавозяць цяжкавагавыя і буйнагабарытныя грузы, а таксама ў выпадках, калі максімальная скорасць транспартнага сродку па тэхнічнай характарыстыцы ніжэй за скорасць, вызначаную пунктам 11.3.

Па жаданню вадзіцеля могуць быць устаноўлены апазнавальныя знакі:

«Урач» -- у выглядзе квадрата сіняга колеру (бок -- 140 мм) з упісаным у яго белым кругам (дыяметр -- 125 мм), на які нанесены чырвоны крыж (вышыня -- 90 мм, шырыня штрыха -- 25 мм), -- спераду і ззаду аўтамабіляў, якімі кіруюць вадзіцелі-ўрачы;

«Інвалід» -- у выглядзе квадрата жоўтага колеру з бокам 150 мм і з выявай сімвала дарожнага знака 7.17 чорнага колеру -- спераду і ззаду механічных транспартных сродкаў, якімі кіруюць інваліды I і II груп ці якія перавозяць такіх інвалідаў.

27.15. Транспартны сродак, які перавозіць небяспечныя грузы, павінен пазначацца ў адпаведнасці з патрабаваннямі Міжнароднага пагаднення аб дарожнай перавозцы небяс-



чае край праезнай часткі) і спыненым транспартным сродкам складае менш як 3 м;

на пешаходных пераходах і бліжэй як 5 м ад іх;

на праезнай частцы паблізу ад небяспечных паваротаў і ў іншых месцах, дзе бачнасць дарогі менш як 100 м хоць бы ў адным напрамку;

на перасячэнні праезных частак і бліжэй як 15 м ад краю перасякаемай праезнай часткі, за выключэннем боку насупраць бакавога праезду трохбаковых скрыжаванняў, якія маюць суцэльную лінію разметкі ці раздзяляльную паласу;

бліжэй як 15 м ад прыпыначных пляцовак, а пры іх адсутнасці — ад зоны, абазначанай паказальнікам прыпынку маршрутных транспартных сродкаў ці таксі і дарожнымі знакамі 5.12--5.14;

насупраць транспартнага сродку, што стаіць на процілеглым баку дарогі, а таксама ў іншых месцах, калі гэта створыць перашкоду для транспарту і пешаходаў;

у месцах, дзе транспартны сродак закрые ад іншых вадзіцеляў сігналы святлафораў, дарожныя знакі ці зробіць немагчымым рух (уезд ці выезд) іншых транспартных сродкаў ці створыць перашкоду для руху пешаходаў;

на газонах і іншых участках з зялёнымі насаджэннямі.

13.5. Спыненне на час больш за 5 хвілін, звязаны з пасадкай ці высадкай пасажыраў ці загрузкай і разгрузкай транспартнага сродку, павінна ажыццяўляцца з непрацуючым рухавіком транспартнага сродку.

13.6. Забараняецца стаянка з працуючым рухавіком, у тым ліку і ў месцах, спецыяльна абсталяваных для начлегу і адпачынку.

13.7. Пры вымушаным спыненні ў месцах, дзе прыпынак забаронены, вадзіцель павінен прыняць усе магчымыя меры для адводу транспартнага сродку з гэтых месцаў.

13.8. Забараняецца адчыняць дзверы транспартнага сродку, калі гэта створыць перашкоду іншым удзельнікам дарожнага руху.

13.9. Вадзіцель можа пакідаць сваё месца ці пакідаць транспартны сродак, калі ім прыняты меры, што выключаюць самаадвольны рух транспартнага сродку ці выкарыстанне яго ў адсутнасць вадзіцеля.

### 14. ПРАЕЗД СКРЫЖАВАННЯЎ

14.1. Пры павароце направа ці налева вадзіцель абавязаны саступіць дарогу пешаходам, што пераходзяць праезную частку дарогі, на якую ён паварочвае, а таксама веласіпедыстам, што перасякаюць яе па веласіпеднай дарожцы.

14.2. Забараняецца выязджаць на скрыжаванне праезных частак, калі ўтвораны затор, які прымусіць вадзіцеля спыніцца, ствараўшы перашкоду для руху транспартных сродкаў і пешаходаў.

14.3. Скрыжаванне, дзе чарговасць руху вызначаецца сігналамі святлафора ці рэгуліроўшчыка, лічыцца рэгулюемым.

Пры жоўтым мігатлівым сігнале, непрацуючых святлафорах ці адсутнасці рэгуліроўшчыка скрыжаванне лічыцца нерэгулюемым і вадзіцелі абавязаны кіравацца правіламі праезду нерэгулюемых скрыжаванняў і знакамі прыярытэту.

#### Рэгулюемыя скрыжаванні

14.4. Пры павароце налева ці развароце па зялёнаму сігналу святлафора вадзіцель бязрэйкавага транспартнага сродку абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, што рухаюцца з сустрэчнага напрамку прама і налева. Такім жа правілам павінны кіравацца паміж сабой вадзіцелі трамваяў.

14.5. Пры руху ў напрамку стрэлкі, уключанай у дадатковай секцыі адначасова з жоўтым ці чырвоным сігналам святлафора, вадзіцель абавязаны саступіць дарогу транспартным сродкам, якія рухаюцца з іншых напрамкаў.

14.6. Калі сігналы святлафора ці рэгуліроўшчыка дазваляюць рух адначасова трамваю і бязрэйкавым транспартным сродкам, дык трамвай мае перавагу, незалежна ад напрамку яго руху. Аднак пры руху ў напрамку стрэлкі, уключанай у дадатковай секцыі адначасова з чырвоным ці жоўтым сігналам святлафора, трамвай павінен саступіць дарогу транспартным сродкам, што рухаюцца з іншых напрамкаў.

14.7. Вадзіцель, які ўехаў на скрыжаванне пры дазваляльным сігнале святлафора, павінен выехаць у намечаным напрамку незалежна ад сігнала святлафора на выхадзе са скрыжавання. Аднак, калі на скрыжаванні перад святлафорамі, размешчанымі на шляху вадзіцеля, маюцца стоп-лініі (знак 5.33), вадзіцель абавязаны кіравацца сігналамі кожнага святлафора.

14.8. Пры ўключэнні дазваляльнага сігнала святлафора вадзіцель павінен саступіць дарогу транспартным сродкам, што завяршаюць рух праз скрыжаванне, і пешаходам, якія не закончылі пераход праезнай часткі гэтага напрамку.

#### Нерэгулюемыя скрыжаванні

14.9. На скрыжаванні нераўназначных дарог вадзіцель транспартнага сродку, што рухаецца па другараднай дарозе, павінен саступіць дарогу транспартным сродкам, што набліжаюцца да яго па галоўнай дарозе, незалежна ад напрамку іх далейшага руху.

14.10. У выпадку, калі галоўная дарога на скрыжаванні мяняе напрамак, вадзіцелі транс-

4.5. «Веласіпедная дарожка». Дазваляецца рух толькі на веласіпедах і мапедах. Па веласіпеднай дарожцы могуць рухацца таксама пешаходы (пры адсутнасці тратуара ці пешаходнай дарожкі).

4.6. «Пешаходная дарожка». Дазваляецца рух толькі пешаходам.

4.7. «Абмежаванне мінімальнай скорасці». Дазваляецца рух толькі з указанай ці большай скорасцю (км/гадз.).

4.8. «Канец зоны абмежавання мінімальнай скорасці».

4.9. Накірунак руху транспартных сродкаў з небяспечнымі грузамі.

Рух транспартных сродкаў, абсталяваных апазнавальнымі знакамі «Небяспечны груз», дазваляецца толькі ў накірунку, указаным на знаках 4.9.1 -- налева, 4.9.2 -- прама, 4.9.3 -- направа.

**ІНФАРМАЦЫЙНА-ПАКАЗАЛЬНЫЯ ЗНАКІ**

Інфармацыйна-паказальныя знакі ўводзяць ці адмяняюць пэўныя рэжымы руху, а таксама інфармуюць аб размяшчэнні населеных пунктаў і іншых аб'ектаў.

5.1. «Аўтамагістраль». Дарога, на якой дзейнічаюць патрабаванні Правілаў, што ўстанаўліваюць парадак руху па аўтамагістралях.

5.2. «Канец аўтамагістралі».

5.3. «Дарога для аўтамабіляў». Дарога, прызначаная для руху толькі аўтамабіляў, аўтобусаў і матацыклаў.

5.4. «Канец дарогі для аўтамабіляў».

5.5. «Дарога з аднабаковым рухам». Дарога ці праезная частка, па якой рух транспартных сродкаў па ўсёй шырыні ажыццяўляецца ў адным накірунку.

5.6. «Канец дарогі з аднабаковым рухам».

5.7.1, 5.7.2. «Выезд на дарогу з аднабаковым рухам». Выезд на дарогу ці праезную частку з аднабаковым рухам.

5.8.1. «Накірункі руху па палосах». Колькасць палос і дазволеныя накірункі руху на кожнай з іх.

5.8.2. «Накірункі руху па паласе». Дазвол накірунку руху па паласе.

Знакі 5.8.1 і 5.8.2, якія дазваляюць паварот налева з крайняй левай паласы, дазваляюць і разварот з гэтай паласы.

Дзеянне знакаў 5.8.1 і 5.8.2, устаноўленых перад перакрыжаваннем, распаўсюджваецца на ўсё перакрыжаванне, калі іншыя знакі 5.8.1 і 5.8.2, устаноўленыя на ім, не даюць іншых указанняў.

5.8.3. «Пачатак паласы». Пачатак дадатковай паласы на пад'ёме ці паласы тармажэння.

Калі на знаку, устаноўленым перад дадатковай паласой, намаляваны знак 4.7 «Абмежаванне мінімальнай скорасці», то вадзіцель транспартнага сродку, які не можа працягваць рух па асноўнай паласе з пазначанай і большай скорасцю, павінен перастроіцца на дадатковую паласу.

5.8.4. «Пачатак паласы». Пачатак участка сярэдняй паласы трохпалоснай дарогі, прызначанага для руху ў дадзеным накірунку.

5.8.5. «Канец паласы». Канец дадатковай паласы на пад'ёме ці паласы разгону.

5.8.6. «Канец паласы». Канец участка сярэдняй паласы на трохпалоснай дарозе, прызначанага для руху ў дадзеным накірунку.

5.8.7, 5.8.8. «Накірунак руху па палосах».

Калі на знаку 5.8.7 намаляваны знак, які забараняе рух якім-небудзь транспартным сродкам, то рух гэтых транспартных сродкаў па адпаведнай паласе забараняецца.

Знакі 5.8.7 і 5.8.8 з адпаведнай колькасцю стрэлак могуць ужывацца на дарогах з чатырма палосамі і больш.

З дапамогай знакаў 5.8.7 і 5.8.8 са зменнай выявай можа быць арганізаваны рэверсіўны рух.

5.9. «Паласа для маршрутных транспартных сродкаў». Паласа, прызначаная для руху толькі маршрутных транспартных сродкаў, якія рухаюцца адначасова з агульным патокам транспартных сродкаў.

Дзеянне знака распаўсюджваецца на паласу, над якой ён размешчаны. Дзеянне знака, устаноўленага справа ад дарогі, распаўсюджваецца на правую паласу.

5.10.1. «Дарога з паласой для маршрутных транспартных сродкаў». Дарога, па якой рух маршрутных транспартных сродкаў ажыццяўляецца па спецыяльна выдзеленай паласе насустрач агульнаму патоку транспартных сродкаў.

5.10.2, 5.10.3. «Выезд на дарогу з паласой для маршрутных транспартных сродкаў».

5.10.4. «Канец дарогі з паласой для маршрутных транспартных сродкаў».

5.11.1. «Месца для развароту». Паварот налева забараняецца.

5.11.2. «Зона для развароту». Працягласць зоны для развароту. Паварот налева забараняецца.

5.12. «Месца спынення аўтобуса і (ці) тралейбуса».

5.13. «Месца спынення трамвая».

5.14. «Месца стаянкі легкавых таксі».

5.15. «Месца стаянкі».

5.16.1, 5.16.2. «Пешаходны пераход».

Пры адсутнасці на пераходзе разметкі 1.14.1--1.14.3 знак 5.16.2 устанаўліваецца



ап'янення або пад уздзеяннем наркатычных сродкаў і псіхатропных або таксічных рэчываў, а таксама выкарыстоўваць іх пасля дарожна-транспартнага здарэння да праверкі ва ўстаноўленым парадку;

3.4.2. Кіраваць транспартным сродкам у хворым ці стомленым стане, а таксама ў стане пад уздзеяннем лекавых прэпаратаў, якія зніжаюць хуткасць рэакцыі і ўвагу;

3.4.3. Перадаваць кіраванне транспартным сродкам асобам, якія знаходзяцца ў хворым ці стомленым стане, пад уздзеяннем алкагольнага ап'янення, наркатычных сродкаў і псіхатропных ці таксічных рэчываў, лекавых прэпаратаў, якія зніжаюць хуткасць рэакцыі і ўвагу;

3.4.4. Перадаваць кіраванне транспартным сродкам асобам, якія не маюць пасведчання на права кіравання транспартным сродкам дадзенай катэгорыі (акрамя выпадкаў навучання ваджэнню);

3.4.5. Карыстацца сродкамі радыё- і тэлефоннай сувяззю ў час руху транспартнага сродку (за выключэннем вадзіцеляў спецыяльных аўтамабіляў);

3.4.6. Ажыццяўляць рух на транспартным сродку пры няспраўнай рабочай тармазной сістэме, рулявым кіраванні, счапным устройствам (у саставе аўтапоезда), не ўключаных (адсутных) фарах, стоп-сігналах і задніх габарытных агнях на дарогах без штучнага асвятлення ў цёмны час сутак ці ва ўмовах недастатковай бачнасці, пры непрацуючых з боку вадзіцеля шклоачышчальніках у час дажджу ці снегападу.

Пералік няспраўнасцей і ўмоў, пры якіх забараняецца эксплуатацыя транспартных сродкаў, і метады праверкі рэгламентаваны ДАСТ 25478-91 «Аўтатранспартныя сродкі. Патрабаванні да тэхнічнага стану па ўмовах бяспекі руху. Метады праверкі» і прыведзены ў Дадатку 1 да Правілаў;

3.4.7. Рухацца на машынах на гусенічным ходу ці з металічнымі шыпамі па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання з удасканаленым пакрыццём;

3.4.8. Выязджаць на дарогу і з'язджаць з яе, пераязджаць раздзяляльную паласу ў неўстаноўленых месцах (месцы, не абазначаныя адпаведнымі дарожнымі знакамі, разметкай, загараджальнымі ці накіравальнымі ўстройствамі).

**4. АБАВЯЗКІ ВАДЗІЦЕЛЯЎ У АСАБЛІВЫХ ВЫПАДКАХ**

4.1. Праезд спецыяльных транспартных сродкаў.

4.1.1. Вадзіцелі транспартных сродкаў апаратыўных службаў, якія маюць спецыяльную афарбоўку, з уключаным праблісковым маячком сіняга колеру і спецыяльным гукавым сігналам, выконваючы неадкладнае службовае заданне, могуць адступаць ад патрабаванняў раздзелаў 7 (акрамя сігналаў рэгуліроўшчыка), 9--19 Правілаў, а таксама Дадаткаў 2 і 3 да Правілаў пры ўмове забеспячэння бяспекі дарожнага руху.

Гэтым жа правам карыстаюцца вадзіцелі транспартных сродкаў, якія суправаджаюцца транспартнымі сродкамі з уключаным праблісковым маячком сіняга колеру і спецыяльным гукавым сігналам.

4.1.2. Пры набліжэнні транспартных сродкаў з уключаным праблісковым маячком сіняга колеру і спецыяльным гукавым сігналам вадзіцелі ўсіх транспартных сродкаў, незалежна ад напрамку іх руху, павінны ўступіць дарогу і забяспечыць бесперашкодны праезд гэтых і суправаджаемых імі іншых транспартных сродкаў.

4.1.3. Калі на транспартным сродку, які набліжаецца, дадаткова да праблісковага маячка сіняга колеру ўключаны праблісковы маячок чырвонага колеру, вадзіцелі спадарожных, а пры адсутнасці раздзяляльнай паласы і сустрэчных транспартных сродкаў павінны спыніцца ля тратуара ці на абочыне. Аднаўляць рух дазваляецца толькі пасля праезду замыкаючага калону транспартнага сродку з уключанымі праблісковымі маячкамі сіняга і зялёнага колераў.

4.1.4. Забараняецца выконваць абгон і апярэджванне транспартнага сродку з уключанымі праблісковымі маячкамі сіняга, чырвонага і зялёнага колераў і ўключанымі спецыяльнымі гукавымі сігналамі і суправаджаемых імі транспартных сродкаў (калон), а таксама рухацца па суседніх палосах са скорасцю калоны або займаць месца ў калоне.

4.1.5. Набліжаючыся да нерухомага транспартнага сродку з уключаным праблісковым маячком сіняга ці чырвонага колеру, вадзіцель павінен спыніцца. Працягваць рух можна пасля дазволу рэгуліроўшчыка.

4.1.6. Вадзіцелі транспартных сродкаў і машын дарожна-эксплуатацыйных службаў з уключаным праблісковым маячком аранжавага колеру ў працэсе выканання работы на дарозе могуць адступаць ад патрабаванняў дарожных знакаў і разметкі, а таксама пунктаў 10.4, 10.5, 10.7 і 17.1. Правілаў пры ўмове забеспячэння бяспекі руху. Іншыя вадзіцелі не павінны перашкаджаць іх рабоце.

Праблісковы маячок аранжавага колеру не



ўсіх дарогах -- не больш як 70 км/гадз.;

грузавым аўтамабілям, якія перавозяць людзей у кузаве, не больш як 60 км/гадз.;

транспартным сродкам, якія буксіруюць механічныя транспартныя сродкі, -- не больш як 50 км/гадз.;

транспартным сродкам, якія перавозяць небяспечныя грузы, цяжкавагавым і буйнагабарытным транспартным сродкам -- са скорасцю, якая не перавышае скорасць, устаноўленую пры ўзгадненні ўмоў перавозкі.

11.4. На ўчастках дарог, дзе ўмовы забяспечваюць бяспеку руху з больш высокімі скарасцямі, чым указана ў пунктах 11.2 і 11.3 Правілаў, дазволеная скорасць можа быць павышана. На такіх участках устанаўліваюцца адпаведныя дарожныя знакі.

11.5. Вадзіцелю забараняецца:

перавышаць максімальную скорасць, вызначаную тэхнічнай характарыстыкай транспартнага сродку;

перавышаць скорасць, указаную на апазнавальным знаку «Абмежаванне скорасці»,* устаноўленым на транспартным сродку;

ствараць перашкоды іншым транспартным сродкам, рухаючыся без неабходнасці з вельмі малой скорасцю;

рэзка тармазіць, калі гэта не патрабуецца для прадухілення дарожна-транспартнага здарэння.

**12. АБГОН, СУСТРЭЧНЫ РАЗ'ЕЗД**

12.1. Перш чым пачаць абгон, вадзіцель павінен пераканацца ў тым, што паласа руху, на якую ён мае намер выехаць, свабодная і што ён гэтым манеўрам не створыць перашкод іншым удзельнікам руху, не прымусіць іх рэзка зварочваць або тармазіць.

12.2. Вадзіцелю забараняецца пачынаць і рабіць абгон, калі:

вадзіцель транспартнага сродку, які рухаецца наперадзе па той жа паласе, падаў сігнал левага павароту;

вадзіцелі, якія едуць за ім, пачалі абгон.

12.3. Абгон забаронены:

на перакрыжаваннях, за выключэннем тых выпадкаў, калі абгон робіцца на дарозе, якая з'яўляецца галоўнай у адносінах да перасякаемай;

на пешаходных пераходах;

на чыгуначных пераездах і бліжэй чым за 100 метраў перад імі;

транспартнага сродку, які робіць абгон ці аб'езд;

у канцы пад'ёму і на іншых участках дарог з недастатковай бачнасцю.

12.4. Па-за населенымі пунктамі вадзіцель ціхаходнага ці буйнагабарытнага транспартнага сродку павінен у тых выпадках, калі абгон гэтага транспартнага сродку складаны, прыняць як мага правей, а пры неабходнасці і спыніцца, каб прапусціць транспартныя сродкі, якія скапіліся за ім.

12.5. Аб'езд транспартнага сродку, вадзіцель якога падаў сігнал павароту налева і пачаў выкананне манеўру, робіцца з правага боку.

12.6. Вадзіцелю абганяемага транспартнага сродку забараняецца перашкаджаць абгону павышэннем скорасці руху ці іншымі дзеяннямі.

12.7. Калі сустрэчны раз'езд складаны, то вадзіцель, на баку якога ёсць перашкода, павінен уступіць дарогу.

На пакатах, абазначаных знакамі 1.13 і 1.14, пры наяўнасці перашкоды ўступіць дарогу абавязаны вадзіцель транспартнага сродку, які рухаецца на спуск.

**13. ПРЫПЫНАК І СТАЯНКА**

13.1. Прыпынак і стаянка транспартных сродкаў дазваляюцца на абочыне па правым баку дарогі, а пры адсутнасці абочыны ці немагчымасці спыніцца на ёй -- ля краю праезнай часткі.

На левым баку дарогі прыпынак і стаянка дазваляюцца ў населеных пунктах з адной паласой руху для кожнага напрамку без трамвайных пуцей пасярэдзіне, а таксама на дарогах з аднабаковым рухам.

13.2. Транспартны сродак дазваляецца ставіць у адзін рад паралельна краю праезнай часткі, за выключэннем тых месцаў, дзе з дапамогай дарожных знакаў і разметкі дапускаецца іншае размяшчэнне транспартных сродкаў. Двухколавыя транспартныя сродкі без бакавога прычэпа можна ставіць у два рады.

13.3. Стаянка транспартных сродкаў з дазволенай максімальнай масай звыш 3,5 т у мэтах працяглага адпачынку, начлегу і да т.п. дазваляецца ў адведзеных для гэтага месцах, а па-за населенымі пунктамі, акрамя таго, -- і за межамі дарогі.

13.4. Прыпынак і стаянка забараняюцца:

на трамвайных пуцях, а таксама ў непасрэднай блізкасці ад іх, калі гэта стварае перашкоду для руху трамваяў;

на чыгуначных пераездах і бліжэй чым 50 м ад іх, у тунэлях, а таксама на эстакадах, мастах, пуцеправодах і пад імі;

у месцах, дзе адлегласць паміж суцэльнай лініяй разметкі (акрамя той, якая абазна-

*Тут і далей апазнавальныя знакі ўказаны ў адпаведнасці з раздзелам 27 Правілаў



печных грузаў (ДАПНГ).

27.16. Цяжкавагавыя і буйнагабарытныя транспартныя сродкі пазначаюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі інструкцыі па іх пропуску па аўтамабільных дарогах і вуліцах.

27.17. Папераджальныя прыстасаванні для пазначэння гібкіх звязваючых звёнаў пры буксіроўцы механічных транспартных сродкаў павінны выконвацца ў выглядзе сцяжкоў ці шчыткоў памерам 200х200 мм з нанесенымі на іх па дыяганалі чырвонымі і белымі палосамі, якія мяняюцца па чарзе, шырынёй 50 мм са святловяртальнай паверхняй. На гібкім звязваючым звяне павінны быць устаноўлены не менш чым два папераджальных прыстасаванні.

27.18. Канструкцыя жорсткага буксіруючага прыстасавання павінна адпавядаць патрабаванням ДАСТ 25907-89.

27.19. Распазнавальны знак транспартнага сродку Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой эліпс белага колеру з чорнай каймой і нанесенымі на яго сярэдзіне лацінскімі літарамі BY, які размяшчаецца на задняй частцы транспартнага сродку справа па ходу руху.

Памеры распазнавальнага знака прыведзены ў РСТ Беларусі 914-92.

**28. АБАВЯЗКІ СЛУЖБОВЫХ АСОБ АЎТАТРАНСПАРТНЫХ І ІНШЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ПА ЗАБЕСПЯЧЭННЮ БЯСПЕКІ ДАРОЖНАГА РУХУ**

28.1. Службовым і іншым асобам, адказным за тэхнічны стан і эксплуатацыю транспартных сродкаў, забараняецца:

дапускаць да эксплуатацыі транспартныя сродкі, што маюць няспраўнасці, з якімі забараняецца іх эксплуатацыя, ці пераабсталяваныя без адпаведнага дазволу, ці не зарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку, ці не прайшлі дзяржаўны перыядычны тэхнічны агляд;

дапускаць да кіравання транспартнымі сродкамі вадзіцеляў, якія знаходзяцца ў стане ап'янення (алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага), пад уздзеяннем лекавых сродкаў, што пагаршаюць рэакцыю і ўвагу, у хворым ці стомленым стане, які ставіць пад пагрозу бяспеку руху, ці асоб, якія не маюць права кіраваць транспартным сродкам дадзенай катэгорыі;

накіроўваць для руху па дарогах з асфальта- і цэментабетонным пакрыццём трактары і іншыя самаходныя машыны на гусенічным ходу.

28.2. Службовыя і іншыя асобы, адказныя за эксплуатацыю дарог, чыгуначных пераездаў і іншых дарожных збудаванняў, абавязаны:

захоўваць дарогі, чыгуначныя пераезды і іншыя дарожныя збудаванні ў бяспечным для руху стане;

прымаць меры да своечасовай забароны ці абмежавання руху на асобных участках дарог, калі карыстанне імі пагражае бяспецы руху.

28.3. Службовыя асобы дарожных, будаўнічых і іншых арганізацый абавязаны прымаць меры да пазначэння на дарогах месцаў правядзення работ дарожнымі знакамі, загараджальнымі і накіравальнымі ўстройствамі, а ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці -- дадаткова чырвонымі ці жоўтымі сігнальнымі агнямі.

28.4. Пакінутыя на дарозе дарожныя машыны, будаўнічыя матэрыялы, канструкцыі і да т. п. павінны быць пазначаны адпаведнымі дарожнымі знакамі, накіравальнымі і загараджальнымі ўстройствамі, а ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці -- чырвонымі ці жоўтымі сігнальнымі агнямі.

28.5. Пасля заканчэння работ асоба, адказная за іх правядзенне, павінна неадкладна ўстараніць створаныя гэтымі работамі перашкоды і прывесці дарогу ў стан, які б забяспечваў бесперашкодны і бяспечны рух транспартных сродкаў і пешаходаў.

28.6. У выпадку забруджвання праезнай часткі дарогі пры правядзенні якіх-небудзь работ адпаведныя службовыя асобы павінны неадкладна прыняць неабходныя меры па ачыстцы дарогі і своечасоваму папярэджанню ўдзельнікаў руху аб узнікшай небяспецы.

28.7. Ва ўстаноўленым парадку ўзгадняюцца:

праекты арганізацыі дарожнага руху, абсталявання дарог тэхнічнымі сродкамі арганізацыі руху;

праекты будаўніцтва, рэканструкцыі і рамонту дарог, дарожных збудаванняў;

устаноўка ў непасрэднай блізкасці ад дарог кіёскаў, транспарантаў, плакатаў, рэкламных шчытоў і да т. п., якія пагаршаюць бачнасць ці ўскладняюць рух пешаходаў;

маршруты руху і размяшчэння пунктаў прыпынку маршрутных транспартных сродкаў;

правядзенне на дарогах масавых, спартыўных і іншых мерапрыемстваў;

канструкцыя і пераабсталяванне транспартных сродкаў, устаноўка на іх спецыяльных светлавых і гукавых сігналаў;

праезд цяжкавагавых, буйнагабарытных транспартных сродкаў, а таксама транспартных сродкаў, якія перавозяць небяспечныя грузы;




дае перавагі ў руху і служыць для прыцягнення ўвагі і папярэджання іншых вадзіцеляў аб небяспецы.

4.2. Дзеянні вадзіцеляў і іншых удзельнікаў дарожнага руху пры дарожна-транспартных здарэннях

4.2.1. Пры дарожна-транспартным здарэнні вадзіцелі, якія маюць дачыненне да яго, павінны:

неадкладна спыніцца і заставацца на месцы здарэння, уключыць аварыйную светлавую сігналізацыю ці выставіць знак аварыйнага спынення (мігаючы чырвоны ліхтар) у адпаведнасці з патрабаваннямі пункта 8.2 Правілаў, не перамяшчаць транспартны сродак і прадметы, якія маюць адносіны да здарэння;

прыняць магчымыя меры для аказання даўрачэбнай медыцынскай дапамогі пацярпеўшым, выклікаць «хуткую медыцынскую дапамогу», а калі гэта немагчыма, накіраваць пацярпеўшых на спадарожным ці адвезці на сваім транспартным сродку ў бліжэйшую лячэбную ўстанову, паведаміць там сваё прозвішча, нумарны знак транспартнага сродку (з прад'яўленнем вадзіцельскага пасведчання ці іншага дакумента, які сведчыць асобу, і рэгістрацыйнага дакумента на транспартны сродак) і вярнуцца да месца здарэння;

паведаміць аб здарэнні ў міліцыю, запісаць прозвішча і адрасы відавочцаў і чакаць прыбыцця работнікаў міліцыі;

прыняць усе магчымыя меры да захавання слядоў здарэння, агароджвання іх і арганізацыі аб'езду месца здарэння;

калі рух іншых транспартных сродкаў немагчымы, вызваліць праезную частку.

Пры неабходнасці вызвалення праезнай часткі ці дастаўкі пацярпеўшых на сваім транспартным сродку ў лячэбную ўстанову папярэдне зафіксаваць у прысутнасці сведак становішча транспартнага сродку, сляды і прадметы, якія маюць дачыненне да здарэння.

4.2.2. Калі ў выніку дарожна-транспартнага здарэння няма пацярпеўшых, а матэрыяльны ўрон з'яўляецца неістотным, вадзіцелі пры ўзаемнай згодзе ў ацэнцы акалічнасцей здарэння і адсутнасці няспраўнасцей, якія выключаюць магчымасць далейшага руху транспартных сродкаў, могуць прыбыць на бліжэйшы пост ДАІ ці ў орган міліцыі для афармлення здарэння ва ўстаноўленым парадку, папярэдне склаўшы і падпісаўшы схему здарэння.

4.2.3. Іншыя ўдзельнікі дарожнага здарэння, якія сталі відавочцамі ці сведкамі дарожнага транспартнага здарэння, абавязаны аказаць магчымую дапамогу пацярпеўшым, запісаць прозвішчы і адрасы відавочцаў, паведаміць у міліцыю аб здарэнні, неабходныя даныя аб сабе і па магчымасці знаходзіцца на месцы да прыбыцця работнікаў міліцыі.

### 5. АБАВЯЗКІ ПЕШАХОДАЎ

5.1. Пешаходы павінны рухацца па тратуарах ці пешаходных дарожках, а пры іх адсутнасці — па абочынах.

Пры адсутнасці тратуараў, пешаходных дарожак ці абочын, а таксама ў выпадку немагчымасці руху па іх, пешаходы могуць рухацца па веласіпеднай дарожцы ці ісці ў адзін рад па краі праезнай часткі (на дарогах з раздзяляльнай паласой -- па знешнім краі праезнай часткі).

Пры руху па праезнай частцы пешаходы павінны ісці насустрач руху транспартных сродкаў. Асобы, якія перамяшчаюцца на інвалідных калясках, у гэтых выпадках павінны рухацца па ходу руху транспартных сродкаў.

5.2. Рух арганізаваных пешаходных калон па праезнай частцы дазваляецца толькі па напрамку руху транспартных сродкаў па правым баку не больш чым па чатыры чалавекі ў рад.

Групы дзяцей дазваляецца вадзіць толькі па тратуарах і пешаходных дарожках, а пры іх адсутнасці -- і па абочынах, але толькі ў светлы час сутак і толькі ў суправаджэнні дарослых.

5.3. Пешаходы павінны перасякаць праезную частку па пешаходных пераходах, а пры іх адсутнасці -- на перакрыжаваннях па лініі тратуараў ці абочын.

Пры адсутнасці ў зоне бачнасці пераходу ці перакрыжавання дазваляецца пераходзіць дарогу пад прамым вуглом да краю праезнай часткі на ўчастках без раздзяляльнай паласы і агароджаў там, дзе яна добра праглядваецца ў абодва бакі.

5.4. На нерэгулюемых пешаходных пераходах пешаходы могуць выходзіць на праезную частку пасля таго, як ацэняць адлегласць да транспартных сродкаў, якія набліжаюцца, іх скорасць і пераканаюцца, што пераход будзе для іх бяспечным. Пры перасячэнні праезнай часткі па-за пешаходным пераходам пешаходы, акрамя таго, не павінны ствараць перашкоды для руху транспартных сродкаў, выходзіць з-за транспартнага сродку, што стаіць, ці іншай перашкоды, якая абмяжоўвае аглядн асць, не пераканаўшыся ў адсутнасці транспартных сродкаў, якія набліжаюцца.

5.5. Выйшаўшы на праезную частку, пешаходы не павінны затрымлівацца ці спыняц-





ваных апазнавальнымі знакамі «Небяспечны груз».

3.33. «Рух транспартных сродкаў з выбуховымі і лёгкімі на загаранне грузамі забаронены». Забараняецца рух транспартных сродкаў, абсталяваных знакамі «Небяспечны груз» і прызначаных для перавозкі небяспечных грузаў класаў 1.2.2--2.4, 3.1, 3.2, 5.2 па ДАСТ 19433-88.

Знакі 3.2--3.9, 3.22 і 3.33 забараняюць рух адпаведных відаў транспартных сродкаў у абодвух накірунках.

Дзеянне знакаў не распаўсюджваецца:

3.1--3.3, 3.18.1, 3.18.2, 3.19, 3.27 -- на маршрутныя транспартныя сродкі;

3.2--3.8 -- на транспартныя сродкі, якія абслугоўваюць прадпрыемствы, размешчаныя ў пазначанай зоне, а таксама абслугоўваюць грамадзян, якія пражываюць ці працуюць у пазначанай зоне, або належаць гэтым грамадзянам. У гэтых выпадках транспартныя сродкі павінны ўязджаць у пазначаную зону і выязджаць з яе на бліжэйшым да месца прызначэння перакрыжаванні;

3.28--3.30 -- на таксі з уключаным таксометрам;

3.2, 3.3, 3.28--3.30 -- на транспартныя сродкі, якімі кіруюць інваліды I і II груп ці якія перавозяць такіх інвалідаў.

Дзеянне знакаў 3.18.1, 3.18.2 распаўсюджваецца на перасячэнне праезных частак, перад якімі ўстаноўлены знак.

Зона дзеяння знакаў 3.16, 3.20, 3.22, 3.24, 3.26--3.30 распаўсюджваецца ад месца ўстаноўкі знака да бліжэйшага перакрыжавання за ім, а ў населеных пунктах -- пры адсутнасці перакрыжавання да канца населенага пункта. Дзеянне знакаў не перарываецца ў месцах выезду з прылеглых да дарогі тэрыторый і месцах перасячэння (прымыкання) з палявымі, ляснымі і іншымі другаснымі дарогамі, перад якімі не ўстаноўлены адпаведныя знакі.

Дзеянне знака 3.24, устаноўленага перад населеным пунктам, пазначаным знакам 5.22, распаўсюджваецца да гэтага знака.

Зона дзеяння знакаў можа быць зменшана:

для знакаў 3.16 і 3.26 ужываннем таблічкі 7.2.1;

для знакаў 3.20, 3.22, 3.24 устаноўкай у канцы зоны іх дзеяння адпаведна знакаў 3.21, 3.23, 3.25 ці ўжываннем таблічкі 7.2.1.

Зона дзеяння знака 3.24 можа быць зменшана ўстаноўкай знака 3.24 з іншым значэннем максімальнай скорасці руху;

для знакаў 3.27--3.30 устаноўкай у канцы зоны іх дзеяння паўторных знакаў 3.27--3.30 з таблічкай 7.2.3 ці ўжываннем таблічкі 7.2.2.

Знак 3.27 можа быць ужыты разам з разметкай 1.4, а знак 3.28 -- з разметкай 1.10, пры гэтым зона дзеяння знакаў вызначаецца працягласцю лініі разметкі.

Дзеянне знакаў 3.10, 3.27--3.30 распаўсюджваецца толькі на той бок дарогі, на якім яны ўстаноўлены.

### ПРАДПІСАЛЬНЫЯ ЗНАКІ

4.1.1. «Рух прама».
4.1.2. «Рух направа».
4.1.3. «Рух налева».
4.1.4. «Рух прама ці направа».
4.1.5. «Рух прама ці налева».
4.1.6. «Рух направа ці налева».

Дазваляецца рух толькі ў накірунках, указаных на знаках стрэлкамі. Знакі, якія дазваляюць паварот налева, дазваляюць і разварот (могуць быць ужыты знакі 4.1.1--4.1.6 з канфігурацыяй стрэлак, адпаведнай патрабуемым накірункам руху на канкрэтным перасячэнні).

Дзеянне знакаў 4.1.1--4.1.6 не распаўсюджваецца на маршрутныя транспартныя сродкі.

Дзеянне знакаў 4.1.1--4.1.6 распаўсюджваецца на перасячэнне праезных частак, перад якімі ўстаноўлены знак.

Дзеянне знака 4.1.1, устаноўленага ў пачатку ўчастка дарогі, распаўсюджваецца да бліжэйшага перакрыжавання. Знак не забараняе паварот направа ў двары і на іншыя прылеглыя да дарогі тэрыторыі.

4.2.1. «Аб'езд перашкоды справа», 4.2.2. «Аб'езд перашкоды злева». Аб'езд дазваляецца толькі з боку, указанага стрэлкай.

4.2.3. «Аб'езд перашкоды справа ці злева». Аб'езд дазваляецца з любога боку.

4.3. «Кругавы рух». Дазваляецца рух у пазначаным стрэлкамі накірунку.

4.4. «Рух легкавых аўтамабіляў». Дазваляецца рух легкавых аўтамабіляў, аўтобусаў, матацыклаў, маршрутных транспартных сродкаў і грузавых аўтамабіляў, дазволеная максімальная маса якіх не перавышае 3,5 т.

Дзеянне знака не распаўсюджваецца на транспартныя сродкі, якія*абслугоўваюць прадпрыемствы, размешчаныя ў пазначанай зоне, а таксама абслугоўваюць грамадзян, якія пражываюць ці працуюць у пазначанай зоне, або належаць гэтым грамадзянам. У гэтых выпадках транспартныя сродкі павінны ўязджаць у пазначаную зону і выязджаць з яе на бліжэйшым да месца прызначэння перакрыжаванні.




рух аўтапаяздоў агульнай даўжынёй больш за 20 м ці аўтапаяздоў з двума і больш прычэпамі;

праграмы падрыхтоўкі спецыялістаў па бяспецы дарожнага руху, інструктараў па ваджэнню і вадзіцеляў;

пералік дарог, на якіх дазваляецца вучэбная язда;

правядзенне розных работ на дарозе, якія ствараюць перашкоды руху транспартных сродкаў ці пешаходаў.

***Дадатак 1 да Правілаў дарожнага руху, зацверджаных Пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 21 сакавіка 1996 г., № 203***

### ПЕРАЛІК НЯСПРАЎНАСЦЕЙ І ЎМОЎ, ПРЫ ЯКІХ ЗАБАРАНЯЕЦЦА ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ТРАНСПАРТНЫХ СРОДКАЎ

Гэты пералік няспраўнасцей аўтамабіляў, аўтобусаў, аўтапаяздоў, прычэпаў, паўпрычэпаў, матацыклаў, мапедаў, трактароў, іншых самаходных машын і ўмовы, пры якіх забараняецца іх эксплуатацыя, а таксама метады праверкі прыведзеных параметраў устаноўлены ў адпаведнасці з ДАСТ 25478-91 «Аўтатранспартныя сродкі. Патрабаванні да тэхнічнага стану па ўмовах бяспекі руху. Метады праверкі».

### 1. ТАРМАЗНЫЯ СІСТЭМЫ

1.1. Пры дарожных выпрабаваннях не выконваюцца наступныя нормы эфектыўнасці тармажэння рабочай тармазной сістэмай:

| Назва транспартных сродкаў | Тармазны шлях (м, не больш) | Запавольванне (м/сек, не менш) |
|---|---|---|
| Легкавыя аўтамабілі і іх мадыфікацыі | | |
| для перавозкі грузаў | 12,2 (14,5) | 6,8 (6,1) |
| Аўтобусы з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 5 т уключна | 13,6 (18,7) | 6,8 (5,5) |
| звыш 5 т | 16,8 (19,9) | 5,7 (5,0) |
| Грузавыя аўтамабілі з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 3,5 т уключна | 15,1 (19,0) | 5,7 (5,4) |
| ад 3,5 т да 12 т уключна | 17,4 (18,4) | 5,7 (5,7) |
| звыш 12 т | 16,0 (17,7) | 6,2 (6,1) |
| Двухколавыя матацыклы і мапеды | 7,5 (7,5) | 5,5 (5,5) |
| Матацыклы з прычэпам | 8,2 (8,2) | 5,0 (5,0) |
| Аўтапаязды, цягачамі якіх з'яўляюцца: | | |
| легкавыя аўтамабілі і іх мадыфікацыі | | |
| для перавозкі грузаў | 13,6 (14,5) | 5,9 (6,1) |
| аўтобусы з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 5 т уключна | 15,2 (18,7) | 5,7 (5,5) |
| звыш 5 т | 18,4 (19,9) | 5,5 (5,0) |
| грузавыя аўтамабілі з дазволенай максімальнай масай: | | |
| да 3,5 т уключна | 17,7 (22,7) | 4,6 (4,7) |
| ад 3,5 т да 12 т уключна | 18,8 (22,1) | 5,5 (4,9) |
| звыш 12 т | 18,4 (21,9) | 5,5 (5,0) |

Заўвагі:

1. Велічыні тармазнога шляху і ўстойлівага запавольвання, прыведзеныя ў дужках, распаўсюджваюцца на транспартныя сродкі, вытворчасць якіх была пачата да 1 студзеня 1981 г.

2. Выпрабаванні праводзяцца на гарызантальным участку дарогі з роўным, сухім, чыстым цэмента- ці асфальтабетонным пакрыццём пры пачатковай скорасці тармажэння 40 км/гадз -- для аўтамабіляў, аўтобусаў і аўтапаяздоў і 30 км/гадз -- для матацыклаў і мапедаў. Транспартныя сродкі правяраюць у падрыхтаваным стане з вадзіцелем шляхам неаднаразовага ўздзеяння на орган кіравання рабочай тармазной сістэмы.

3. Эфектыўнасць рабочай тармазной сістэмы аўтатранспартных сродкаў можа быць ацэнена і па іншых паказчыках у адпаведнасці з ДАСТ 25478-91.

1.2. Парушана герметычнасць гідраўлічнага тармазнога прывода.

1.3. Парушэнне герметычнасці пнеўматычнага і пнеўмагідраўлічнага тармазнога прывода выклікае падзенне ціску паветра пры непрацуючым рухавіку больш чым на 0,05 Мпа (0,5 кг/см) за 15 хвіл. пасля поўнага прывядзення ў дзеянне.

1.4. Не дзейнічае манометр пнеўматычнага ці пнеўмагідраўлічнага тармазнога прыводаў.

1.5. Стаяначная тармазная сістэма не забяспечвае нерухомага стану:

транспартных сродкаў з поўнай нагрузкай -- на пакаце да 16% уключна;





мальнай масай больш як 3,5 т -- толькі для павароту налева і развароту.

10.5. Транспартныя сродкі, скорасць руху якіх не павінна перавышаць 40 км/гадз. ці якія па тэхнічных прычынах не могуць развіваць больш высокую скорасць у параўнанні з указанай, павінны рухацца па крайняй правай паласе, акрамя выпадкаў аб'езду, абгону ці перастраення перад паваротам налева або разваротам.

10.6. Рух па трамвайных пуцях спадарожнага напрамку, размешчаным злева на адным узроўні з праезнай часткай, дазваляецца толькі для апярэджвання, аб'езду пры ўмове, што ўсе палосы для руху ў дадзеным напрамку заняты, а таксама для павароту налева ці развароту ў адпаведнасці з пунктам 9.5. Правілаў. Выязджаць з займаемага рада можна толькі тады, калі вадзіцель пераканаецца ў тым, што мяркуемы манеўр не створыць перашкоду трамваю сустрэчнага напрамку і іншыя палосы сустрэчнага руху свабодныя для руху.

Калі ж пры павароце налева, развароце неабходна прапусціць сустрэчныя транспартныя сродкі, то ў чаканні іх праезду вадзіцель павінен заставацца ў займаемай паласе, не выязджаючы на трамвайныя пуці.

10.7. На дарогах, праезная частка якіх падзелена на палосы лініямі разметкі, рух транспартных сродкаў павінен ажыццяўляцца строга па палосах. Наязджаць на перарывістыя лініі разметкі дазваляецца толькі пры перастраенні.

10.8. Пры павароце на дарогу з рэверсіўным рухам вадзіцель павінен весці транспартны сродак такім чынам, каб пры выездзе з перасячэння праезных частак транспартны сродак заняў крайнюю правую паласу. Перастраенне можна рабіць толькі пасля таго, як вадзіцель пераканаецца, што рух у дадзеным напрамку дазваляецца і па іншых палосах.

10.9. Забараняецца рух транспартных сродкаў па абочынах, тратуарах і пешаходных дарожках, за выключэннем выпадкаў, агавораных у пунктах 13.1, 25.4, 26.2 Правілаў. Дапускаецца рух машын дарожна-эксплуатацыйнай і камунальнай службаў, а таксама транспартных сродкаў, якія абслугоўваюць гандлёвыя і іншыя прадпрыемствы, размешчаныя непасрэдна ля абочын, тратуараў ці сцяжынак, пры адсутнасці іншых магчымасцей пад'езду. Пры гэтым павінна быць забяспечана бяспека руху.

10.10. Вадзіцель абавязаны захоўваць такую дыстанцыю да транспартнага сродку, што рухаецца наперадзе, якая дазволіла б пазбегнуць сутыкнення ў выпадку яго раптоўнага тармажэння ці спынення, а таксама неабходны бакавы інтэрвал, што забяспечвае бяспеку руху з транспартнымі сродкамі, якія рухаюцца па суседніх радах.

10.11. На дарогах па-за населенымі пунктамі вадзіцелі саставаў транспартных сродкаў даўжынёй больш як 10 метраў, а таксама скорасць якіх не павінна перавышаць 40 км/гадз., абавязаны падтрымліваць паміж сваім транспартным сродкам і тым, што рухаецца наперадзе, такую дыстанцыю, каб транспартныя сродкі, што іх абганяюць, маглі без перашкод перастроіцца на раней займаемую імі паласу.

Гэта правіла не дзейнічае ў тых выпадках, калі самі вадзіцелі робяць абгон або рыхтуюцца да яго, а таксама пры руху ў арганізаванай транспартнай калоне.

### 11. СКОРАСЦЬ РУХУ

11.1. Вадзіцель павінен весці транспартны сродак са скорасцю, якая не перавышае ўстаноўленых абмежаванняў і забяспечвае вадзіцелю магчымасць пастаяннага кантролю за бяспечным рухам транспартнага сродку. Пры гэтым ён павінен улічваць інтэнсіўнасць руху, асаблівасці і стан транспартнага сродку і перавозімага ім грузу, дарожныя і метэаралагічныя ўмовы (у прыватнасці, бачнасць у напрамку руху).

Пры ўзнікненні перашкоды ці небяспекі для руху, які вадзіцель у стане выявіць, ён павінен неадкладна прыняць меры да зніжэння скорасці, аж да спынення транспартнага сродку.

11.2. У населеных пунктах дазваляецца рух транспартных сродкаў са скорасцю не больш як 60 км/гадз., а ў жылых зонах -- не больш як 20 км/гадз.

11.3. Па-за населенымі пунктамі дазваляецца рух:

легкавым і грузавым аўтамабілям з дазволенай максімальнай масай не больш як 3,5 т на аўтамагістралях -- са скорасцю не больш як 110 км/гадз., на астатніх дарогах -- не больш як 90 км/гадз.;

міжгароднім і асабліва малым аўтобусам і матацыклам на ўсіх дарогах -- не больш як 90 км/гадз.;

іншым аўтобусам, легкавым аўтамабілям пры буксіроўцы прычэпа, грузавым аўтамабілям з дазволенай максімальнай масай больш як 3,5 т на аўтамагістралях -- не больш як 90 км/гадз., на астатніх дарогах -- не больш як 70 км/гадз.;

транспартным сродкам, якімі кіруюць вадзіцелі з вадзіцельскім стажам да 2 гадоў, на





7.4. Калі на асноўны зялёны сігнал святлафора нанесена чорная контурная стрэлка (стрэлкі), то яна інфармуе вадзіцеляў аб наяўнасці дадатковай секцыі святлафора і ўказвае іншыя дазволеныя напрамкі руху, чым сігнал дадатковай секцыі.

7.5. Калі сігнал святлафора выкананы ў выглядзе сілуэта пешахода (веласіпеда), то яго дзеянне распаўсюджваецца толькі на пешаходаў (веласіпедыстаў). Пры гэтым зялёны сігнал дазваляе, а чырвоны забараняе рух пешаходаў (веласіпедыстаў).

7.6. Для інфармавання пешаходаў аб магчымасці перасячэння праезнай часткі светлавыя сігналы святлафора могуць быць дапоўнены гукавым сігналам.

7.7. Для рэгулявання руху транспартных сродкаў па палосах праезнай часткі, у прыватнасці па тых, напрамак руху па якіх можа змяняцца на процілеглы, прымяняюцца рэверсіўныя святлафоры з чырвоным Х-падобным сігналам і зялёным сігналам у выглядзе суцэльнай стралы, накіраванай уніз. Гэтыя сігналы адпаведна забараняюць ці дазваляюць рух па паласе, над якой яны размешчаны.

Пры ўключаных сігналах рэверсіўнага святлафора, які размешчаны над паласой, абазначанай з абодвух бакоў разметкай 1.9., уезд на гэтую паласу забаронены.

Асноўныя сігналы рэверсіўнага святлафора могуць быць дапоўнены жоўтым сігналам у выглядзе стралы, нахіленай па дыяганалі ўніз направа ці налева, уключэнне якога інфармуе аб маючай адбыцца змене сігнала і неабходнасці перастроіцца на паласу, на якую ўказвае страла.

7.8. Для рэгулявання руху трамваяў, а таксама іншых маршрутных транспартных сродкаў, якія рухаюцца па выдзеленай для іх паласе, могуць прымяняцца святлафоры аднаколернай сігналізацыі з чатырма круглымі сігналамі бела-месячнага колеру, размешчанымі ў выглядзе літары «Т». Рух дазваляецца толькі пры ўключэнні адначасова ніжняга сігнала і аднаго ці некалькіх верхніх, з якіх левы азначае рух налева, сярэдні -- прама, правы -- направа. Калі ўключаны толькі тры верхнія сігналы, рух забаронены.

7.9. Для рэгулявання руху на чыгуначных пераездах прымяняюцца святлафоры з двума чырвонымі сігналамі або адным бела-месячным і двума чырвонымі, якія маюць наступныя значэнні:

7.9.1. Мігатлівыя чырвоныя сігналы забараняюць рух транспартных сродкаў праз пераезд;

7.9.2. Мігатлівы бела-месячны сігнал паказвае, што сігналізацыя спраўная і не забараняе руху транспартных сродкаў;

7.9.3. Бела-месячны і чырвоны сігналы выключаны азначае, што сігналізацыя не працуе або няспраўная. У гэтым выпадку дазваляецца рух транспартных сродкаў пасля таго, як вадзіцель пераканаецца ў адсутнасці поезда (лакаматыва, дрызіны).

На чыгуначных пераездах адначасова з забараняльным сігналам святлафора павінен быць уключаны гукавы сігнал, які дадаткова інфармуе ўдзельнікаў дарожнага руху аб забароне руху праз пераезд.

7.10. Сігналамі рэгуліроўшчыка з'яўляюцца палажэнні яго корпуса, а таксама жэсты рукамі, якія маюць наступныя значэнні:

7.10.1. РУКІ ВЫЦЯГНУТЫ Ў БАКІ ЦІ АПУШЧАНЫ:

з боку левага ці правага боку дазволена: трамваю рух прама, бязрэйкавым транспартным сродкам -- прама і направа, пешаходам -- пераходзіць праезную частку;

з боку грудзей і спіны: рух усіх транспартных сродкаў і пешаходаў забаронены;

7.10.2. ПРАВАЯ РУКА ВЫЦЯГНУТА НАПЕРАД:

з левага боку дазволена: трамваю рух налева, бязрэйкавым транспартным сродкам -- ва ўсіх напрамках;

з боку грудзей: усім транспартным сродкам дазволены рух толькі направа;

з правага боку і спіны: рух усіх транспартных сродкаў забаронены; пешаходам дазволена пераходзіць праезную частку за спінай рэгуліроўшчыка;

7.10.3. РУКА ЎЗНЯТА ЎВЕРХ:

рух усіх транспартных сродкаў і пешаходаў забаронены ва ўсіх напрамках, акрамя выпадкаў, прадугледжаных пунктам 7.14 Правілаў.

Рэгуліроўшчык можа падаваць жэстамі рук і іншыя сігналы, зразумелыя вадзіцелям і пешаходам.

7.11. Патрабаванне да спынення транспартнага сродку падаецца жэстам рукі, накіраваным на транспартны сродак, або з дапамогай гучнагаворачага прыстасавання. Вадзіцель павінен спыніцца ва ўказаным яму месцы.

7.12. Дадатковы сігнал свістком падаецца для прыцягнення ўвагі ўдзельнікаў руху.

7:13. Пры забараняльным сігнале святлафора (акрамя рэверсіўнага) ці рэгуліроўшчыка вадзіцелі павінны спыніцца перад стоп-лініяй (знакам 5.33), а пры яе адсутнасці:

на перакрыжаванні -- перад перасякаемай праезнай часткай з улікам пункта 14.7. Пра-







1.14. «Круты пад'ём».

1.15. «Слізкая дарога». Участак дарогі з павышанай слізкасцю праезнай часткі.

1.16. «Няроўная дарога». Участак дарогі, які мае няроўнасці на праезнай частцы (хвалістасць, выбоіны, няплаўныя спалучэнні з мастамі і да т. п.).

1.17. «Выкід гравію». Участак дарогі, на якім магчымы выкід гравію, друзу і да т. п. з-пад колаў транспартнага сродку.

1.18.1--1.18.3. «Звужэнне дарогі». Звужэнне з абодвух бакоў -- 1.18.1, справа -- 1.18.2, злева -- 1.18.3.

1.19. «Двухбаковы рух». Пачатак участка дарогі (праезнай часткі) з сустрэчным рухам.

1.20. «Пешаходны пераход». Пешаходны пераход, пазначаны знакамі 5.16.1, 5.16.2 і (ці) разметкай 1.14.1--1.14.3.

1.21. «Дзеці». Участак дарогі паблізу дзіцячай установы (школы, дзіцячага сада, піянерскага лагера і да т. п.), на праезнай частцы якога магчыма з'яўленне дзяцей.

1.22. «Перасячэнне з веласіпеднай дарожкай».

1.23. «Дарожныя работы».

1.24. «Перагон жывёлы».

1.25. «Дзікія жывёлы».

1.26. «Падзенне камянёў». Участак дарогі, на якім магчымы абвалы, апоўзні, падзенне камянёў.

1.27. «Бакавы вецер».

1.28. «Нізкалятаючыя самалёты».

1.29. «Тунэль». Тунэль, у якім адсутнічае штучнае асвятленне, ці тунэль, бачнасць уязднога партала якога абмежавана.

1.30. «Іншая небяспека». Участак дарогі, на якім існуе небяспека, не прадугледжаная іншымі папераджальнымі знакамі.

1.31.1, 1.31.2. «Накірунак павароту». Накірункі руху на закругленні дарогі малага радыуса з абмежаванай бачнасцю. Накірунак аб'езду рамантуемага ўчастка дарогі.

1.31.3. «Накірунак павароту». Накірунак руху на Т-падобным перакрыжаванні ці разгалінаванні дарог. Накірунак аб'езду рамантуемага ўчастка дарогі.

Папераджальныя знакі 1.1, 1.2, 1.5--1.30 па-за населенымі пунктамі ўстанаўліваюцца на адлегласці 150--300 м, а ў населеных пунктах -- на адлегласці 50--100 м да пачатку небяспечнага ўчастка. Пры неабходнасці знакі могуць устанаўлівацца і на іншай адлегласці, якая ў гэтым выпадку ўказваецца на таблічцы знакам 7.1.1.

Знакі 1.13 і 1.14 могуць устанаўлівацца без таблічкі са знакам 7.1.1 непасрэдна перад пачаткам спуску ці пад'ёму, калі спуск ці пад'ём ідуць адзін за адным.

Знак 1.23 пры правядзенні кароткатэрміновых работ на праезнай частцы можа быць устаноўлены (без таблічкі 7.1.1) на адлегласці 10--15 м да месца правядзення работ. Па-за населенымі пунктамі знакі 1.1, 1.2, 1.9, 1.10, 1.21 і 1.23 паўтараюцца. Другі знак устанаўліваецца на адлегласці не менш чым 50 м да пачатку небяспечнага ўчастка.

Знакі 1.3.1 і 1.3.2 устанаўліваюцца непасрэдна перад чыгуначным пераездам.

**ЗНАКІ ПРЫЯРЫТЭТУ**

Знакі прыярытэту ўстанаўліваюць чарговасць праезду перакрыжаванняў, перасячэнняў праезных частак ці вузкіх участкаў дарогі.

2.1. «Галоўная дарога». Дарога, на якой даецца права пераважнага праезду нерэгулюемых перакрыжаванняў.

2.2. «Канец галоўнай дарогі».

2.3.1. «Перасячэнне з другаснай дарогай».

2.3.2, 2.3.3. «Прымыканне другаснай дарогі». Прымыканне справа -- 2.3.2, злева -- 2.3.3.

2.4. «Саступіце дарогу». Вадзіцель павінен саступіць дарогу транспартнаму сродку, які рухаецца па перасякаемай дарозе, а пры наяўнасці таблічкі 7.13 -- па галоўнай.

2.5. «Рух без спынення забаронены». Забараняецца рух без спынення перад стоп-лініяй, а калі яе няма -- перад краем перасякаемай праезнай часткі. Вадзіцель павінен саступіць дарогу транспартным сродкам, якія рухаюцца па перасякаемай, а пры наяўнасці таблічкі 7.13 -- па галоўнай дарозе.

Знак 2.5 можа быць устаноўлены перад чыгуначным пераездам ці каранцінным пастом. У гэтых выпадках вадзіцель павінен спыніцца перад стоп-лініяй, а пры яе адсутнасці -- перад знакам.

2.6. «Перавага сустрэчнага руху». Забараняецца ўезд на вузкі ўчастак дарогі, калі гэта можа ўскладніць сустрэчны рух. Вадзіцель павінен саступіць дарогу сустрэчным транспартным сродкам, якія знаходзяцца на вузкім участку ці процілеглым пад'ездзе да яго.

2.7. «Перавага перад сустрэчным рухам». Вузкі ўчастак дарогі, пры руху па якім вадзіцель карыстаецца перавагай у адносінах да сустрэчнага транспартнага сродку.

**ЗАБАРАНЯЛЬНЫЯ ЗНАКІ**

Забараняльныя знакі ўводзяць ці адмяняюць пэўныя абмежаванні руху.







7.3. Устаноўлены дадатковыя прадметы ці нанесены пакрыцці, якія абмяжоўваюць агляд з месца вадзіцеля, пагаршаюць празрыстасць шкла, цягнуць за сабой небяспеку траўміравання ўдзельнікаў дарожнага руху*.

7.4. Не працуюць прадугледжаныя канструкцыяй замкі дзвярэй кузава ці кабіны, запоры бартоў грузавой платформы, запоры гарлавін цыстэрнаў і негерметычныя коркі паліўных бакаў, не працуе механізм рэгулявання палажэння сядзення вадзіцеля, аварыйныя выхады і прылады прывядзення іх у дзеянне, прывод кіравання дзвярамі, спідометр, тахограф, проціўгонныя прыстасаванні, устройства абаграванне і абвявання шкла.

7.5. Адсутнічаюць прадугледжаныя інструкцыяй задняе ахоўнае устройства, брудаахоўныя фартухі і пырскавікі.

7.6. Няспраўныя цягава-счапное і апорнасчапное ўстройствы цягача і прычапнога звяна, а таксама адсутнічаюць ці няспраўныя прадугледжаныя іх канструкцыяй страховачныя тросы (ланцугі). Існуюць люфты ў злучэннях рамы матацыклаў з рамай бакавога прычэпа.

7.7. Адсутнічаюць:

на аўтобусе, легкавым і грузавым аўтамабілях, колавых трактарах -- медыцынская аптэчка, вогнетушыцель, знак аварыйнага прыпынку (мігатлівы чырвоны ліхтар);

на грузавых аўтамабілях з дазволенай максімальнай масай звыш 3,5 т і аўтобусах з дазволенай максімальнай масай звыш 5 т -- проціадкатныя падпоркі (не менш як дзве);

на матацыклах з бакавым прычэпам -- медыцынская аптэчка, знак аварыйнага прыпынку (мігатлівы чырвоны ліхтар).

7.8. На транспартных сродках, якія не належаць аператыўным ці спецыяльным службам, выкарыстоўваюцца праблісковыя маячкі, гукавыя сігналы з чаргаваннем тонаў і колераграфічныя схемы, прадугледжаныя стандартам для спецыяльных машын.

7.9. Адсутнічаюць рамені бяспекі, калі іх устаноўка прадугледжана канструкцыяй транспартнага сродку.

7.10. Рамені бяспекі непрацаздольныя ці маюць бачныя надрывы на лямцы.

7.11. Рэгістрацыйны знак транспартнага сродку не адпавядае патрабаванням стандарта.

7.12. На матацыкле адсутнічаюць прадугледжаныя інструкцыяй дугі бяспекі.

7.13. На матацыклах і мапедах адсутнічаюць прадугледжаныя канструкцыяй падножкі, папярочныя рукаяткі для пасажыраў на сядле.

7.14. Адсутнічаюць прадугледжаныя канструкцыяй ці ўстаноўлены без узгаднення з прадпрыемствам-вытворцам транспартнага сродку ці іншай упаўнаважанай на тое арганізацыяй -- дадатковыя элементы тармазных сістэм, рулявога кіравання і іншых вузлоў і агрэгатаў, патрабаванні да якіх рэглументуюцца гэтым Пералікам.

* На верхняй частцы ветравога шкла аўтамабіляў і аўтобусаў могуць замацоўвацца празрыстыя каляровыя плёнкі шырынёй не больш за 140 мм. Дазваляецца ўжываць таніраванае шкло (акрамя люстравага), светлапрапусканне якіх адпавядае патрабаванням ДАСТ 5727-83. Дапускаецца ўжываць шторкі на вокнах аўтобусаў, а таксама жалюзі ці шторкі на заднім шкле легкавых аўтамабіляў пры наяўнасці з абодвух бакоў люстэркаў задняга бачання.

***Дадатак 2***
***да Правілаў дарожнага руху,***
***зацверджаных Пастановай Кабінета***
***Міністраў Рэспублікі Беларусь***
***ад 21 сакавіка 1996 г., № 203***

**ДАРОЖНЫЯ ЗНАКІ**
**(па ДАСТ 10807-78 і ДАСТ 23457-86)**

**Папераджальныя знакі**

Папераджальныя знакі інфармуюць вадзіцеляў аб набліжэнні да небяспечнага ўчастка дарогі, рух па якім патрабуе прыняцця адпаведных абстаноўцы мераў.

1.1. «Чыгуначны пераезд са шлагбаумам».

1.2. «Чыгуначны пераезд без шлагбаума».

1.3.1. «Аднапутная чыгунка».

1.3.2. «Шматпутная чыгунка».

Абазначэнне не абсталяванага шлагбаумам пераезда праз чыгунку:

1.3.1. -- з адным пуцём,

1.3.2 -- з двума пуцямі і больш.

1.4.1.--1.4.6. «Набліжэнне да чыгуначнага пераезду». Дадатковае папярэджанне аб набліжэнні да чыгуначнага пераезду па-за населенымі пунктамі.

1.5. «Перасячэнне з трамвайнай лініяй».

1.6. «Перасячэнне раўназначных дарог».

1.7. «Перасячэнне з кругавым рухам».

1.8. «Святлафорнае рэгуляванне». Перакрыжаванне, пешаходны пераход ці ўчастак дарогі, рух на якіх рэгулюецца святлафорам.

1.9. «Разводны мост». Разводны мост ці паромная пераправа.

1.10 «Выезд на набярэжную». Выезд на набярэжную ці бераг.

1.11.1, 1.11.2. «Небяспечны паварот». Закругленне дарогі малога радыуса ці з абмежаванай бачнасцю:

1.11.1 -- направа, 1.11.2 -- налева.

1.12.1, 1.12.2 «Небяспечныя павароты». Участак дарогі з небяспечнымі паваротамі: 1.12.1 -- з першым паваротам направа, 1.12.2 -- з першым паваротам налева.

1.13. «Круты спуск».







вілаў, не ствараючы перашкоды пешаходам;

перад чыгуначным пераездам -- у адпаведнасці з пунктам 16.4 Правілаў;

у іншых месцах -- перад святлафорам ці рэгуліроўшчыкам, не ствараючы перашкод транспартным сродкам і пешаходам, рух якім дазволены.

7.14. Вадзіцелям, якія пры ўключэнні жоўтага сігнала ці ўзняцці рэгуліроўшчыкам рукі ўверх не могуць спыніцца, не звяртаючыся да экстраннага тармажэння, у месцах, вызначаных пунктам 7.13 Правілаў, дазваляецца далейшы рух.

Пешаходы, якія пры падачы сігнала знаходзіліся на праезнай частцы, абавязаны вызваліць яе, а калі гэта немагчыма -- спыніцца на лініі, якая падзяляе транспартныя патокі процілеглых напрамкаў.

7.15. Вадзіцелі і пешаходы павінны выконваць патрабаванні сігналаў і ўказанні рэгуліроўшчыка, нават калі яны супярэчаць сігналам святлафора, патрабаванням дарожных знакаў ці разметкі.

**8. ПРЫМЯНЕННЕ АВАРЫЙНАЙ СІГНАЛІЗАЦЫІ І ЗНАКА АВАРЫЙНАГА СПЫНЕННЯ**

8.1. Аварыйная светлавая сігналізацыя павінна быць уключана:

пры дарожна-транспартным здарэнні;

пры вымушаным спыненні ў месцах, дзе прыпынак забаронены;

пры асляпленні вадзіцеля святлом фар;

пры буксіроўцы (на буксіруемым транспартным сродку);

пры спыненні і стаянцы на неасветленых участках дарог ці ва ўмовах недастатковай бачнасці пры няспраўных габарытных ці прыпыначных агнях;

на транспартным сродку, які рухаецца з тэхнічнымі няспраўнасцямі, калі рух не забаронены Правіламі.

Вадзіцель павінен уключыць аварыйную светлавую сігналізацыю і ў іншых выпадках для папярэджання ўдзельнікаў руху аб небяспецы.

8.2. Пры дарожна-транспартным здарэнні, пры вымушаным спыненні ў месцах, дзе яно забаронена, а таксама ва ўмовах недастатковай бачнасці пасля ўключэння аварыйнай светлавой сігналізацыі (а таксама пры яе няспраўнасці ці адсутнасці) павінен быць неадкладна выстаўлены знак аварыйнага спынення (мігатлівы чырвоны ліхтар).

Гэты знак (ліхтар) устанаўліваецца на адлегласці, якая забяспечвае да канкрэтнага спынення своечасовае папярэджанне іншых вадзіцеляў аб небяспецы. Аднак гэта адлегласць павінна быць не менш як 15 м ад транспартнага сродку ў населеных пунктах і 40 м -- па-за населеным пунктам.

8.3. Пры адсутнасці ці няспраўнасці аварыйнай светлавой сігналізацыі на буксіруемым транспартным сродку на яго задняй частцы злева павінен быць замацаваны знак аварыйнага спынення.

**9. ПАЧАТАК РУХУ, МАНЕЎРАВАННЕ**

9.1. Перад пачаткам руху, перастраеннем, паваротам (развbooротам) і спыненнем вадзіцель абавязаны падаваць сігнал светлавымі паказальнікамі павароту адпаведнага напрамку, а калі яны адсутнічаюць ці няспраўныя, -- рукой. Пры гэтым манеўр павінен быць бяспечным і не ствараць перашкоды іншым удзельнікам руху.

Сігналу левага павароту (развароту) адпавядае выцягнутая ў бок левая рука або правая, выцягнутая ў бок і сагнутая ў локці пад прамым вуглом уверх. Сігналу правага павароту адпавядае выцягнутая ўбок правая рука або левая, выцягнутая ў бок і сагнутая ў локці пад прамым вуглом уверх.

Сігнал тармажэння падаецца ўзнятай уверх левай ці правай рукой.

9.2. Падача сігналу паказальнікамі павароту ці рукой павінна праводзіцца загадзя да пачатку выканання манеўру (перад пад'ездам да месца яго правядзення) -- павароту на перакрыжаванні, з'езду з дарогі і спыняцца адразу пасля яго завяршэння (падача сігналу рукой можа быць закончана непасрэдна перад выкананнем манеўру).

Перад выкананнем манеўру -- перастраеннем у руху з адной паласы ў другую сігнал павінен падавацца загадзя для інфармавання іншых удзельнікаў руху.

Пры гэтым сігнал не павінен уводзіць у зман іншых удзельнікаў руху. Падача сігналу не дае вадзіцелю перавагі і не вызваляе яго ад прыняцця мераў перасцярогі.

9.3. Пры выездзе на дарогу з прылеглай тэрыторыі вадзіцель павінен уступіць дарогу транспартным сродкам і пешаходам, якія рухаюцца па ёй, а пры з'ездзе з дарогі -- пешаходам і веласіпедыстам, шлях руху якіх ён перасякае.

9.4. Пры перастраенні вадзіцель павінен уступіць дарогу транспартным сродкам, якія рухаюцца спадарожна без змянення напрамку. Пры адначасовым перастраенні транспартных сродкаў, якія рухаюцца спадарожна, вадзіцель павінен уступіць дарогу транспартнаму сродку, які знаходзіцца справа.

9.5. Перад паваротам направа, налева ці разваротам вадзіцель абавязаны загадзя за-

ПАВЕДАМЛЯЕМ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# СМЕРЧ ГУЛЯЎ ПА ВУЛІЦЫ ДЗЯРЖЫНСКАГА

Надвячоркам 22 чэрвеня на Лагішын насоўваліся дзве хмары. Адна цёмная — з захаду, а другая, больш светлая, — з поўдня. Відавочна, яны і стварылі ўмовы, якія спрыялі ўзнікненню смерча. Было ўжо позна, хаця і не цёмна. Дзесьці хвілін дваццаць пасля дзесяці за пасёлкам хмары прыйшлі ў кругаварот і ўтварылі светлы слуп, які, набіраючы хуткасць, паімчаў на Лагішын.

Смерч захапіў ускраіну мястэчка, дакладней, вуліцу Дзяржынскага і пранёсся па ёй з канца ў канец. Пры гэтым ён рухаўся не па прамой, а ў нейкім шахматным парадку.

Уражанне такое, што ў нябесных сіл была адна мэта — як мага больш шыферу сарваць з будынкаў. Дзякуючы сваёй гафрыраванасці гэты будаўнічы матэрыял дае магчымасць пранікнуць паветру пад плоскасць, а калі ўлічыць, які каласальны ціск узнікае пры раскручванні гэтай паветранай спіралі, то шыфер узляцеў у неба, як апалае лісце. І самае дзіўнае, што смерч разбураў дахі па нейкай сваёй сістэме, якую цяжка зразумець. З новага цаглянага дома пад трэцім нумарам сарваў дах разам з кроквамі, а драўляную хатку, якая стаіць за пяць метраў ад гэтага дома, не крануў. У адной хаце раскрыў дах з боку вуліцы, а ў другой — з боку двара.

Калі на вуліцы загуло, А. Манько сядзеў на верандзе. Выскачыў на ганак, а даху няма, толькі сцены стаяць ды дрот на слупах іскрыцца. Яго сусед А. Трацэвіч у гэты час ішоў з хлява. Прыгнуўся — і да плота. Расплюшчыў вочы, падняў галаву, а хата, як абшчыпаная курыца, каля ста лістоў шыферу зляцела з будынкаў.

Смерч быў даволі магутным. У аднаго гаспадара ён забраў з двара цяпліцу, але пакінуў капот з трактара, невядома дзе падхоплены.

Той жа А. Манько частку даху знайшоў за дзвесце метраў ад свайго дома. Мясцовыя могілкі знаходзяцца за агародамі, на ўскрайку пасёлка. Але віхар пабываў і там. Тут удар ветру ўзялі на сябе старыя дрэвы, вывернутыя з карэннем бярозы, паваленыя ліпы. Але атрымалася так, што дрэвы амаль не пабілі помнікаў. Толькі дзве нядаўнія магілы парушаны, ды на старадаўнюю ўпала бяроза і разбіла чыгунную агароджу. На могілках ужо наводзілі парадак. Стаяў аўтакран і некалькі мужчын распілоўвалі дрэвы.

Не ведаю, як смерч вярнуўся на вуліцу Дзяржынскага, але прайшоўся ўздоўж яе, па правым, няцотным баку. Ад мясцовай бальніцы завярнуў на калгасную птушкаферму і паставіў апошнюю кропку. Але якую! Патрыбушыў дахі дзевяці будынкаў, а два з іх поўнасцю раскрыў. Па тысячы лістоў шыферу сарваў з кожнага.

Цяпер у калгасе «Беларусь» хвалююцца і за курэй. А раптам ад перанесенага стрэсу перастануць несці яйкі.

Хаця віхар круціў усяго пяць—сем хвілін, але на пару мільярдаў, відаць, накруціў.

У панядзелак радыёстанцыя «Юнацтва» некалькі разоў перадавала, што ў Лагішыне ёсць загінуўшыя, але гэтая інфармацыя не адпавядае ісціне. Ахвяр не было. Многія нават спалохацца не паспелі.

Было ўжо позна і амаль усе людзі знаходзіліся ў хатах. Калі б не гэты фактар, то вынікі разгулу стыхіі маглі б быць іншымі, больш цяжкімі.

Лагішын я наведаў у аўторак. На вуліцы стаялі групкі людзей. Падвозілі шыфер, на хатах пастуквалі малаткамі. Дарэчы, падмогу прыслалі з суседніх калгасаў. І на той час без кроквеў стаяла толькі адна хата.

Трэба адзначыць, што мясцовыя ўлады праявілі аператыўнасць. Фактычна за суткі былі адноўлены пашкоджаныя электралініі, хутка падвезены будматэрыялы. Сёння, калі ліст шыферу каштуе 32 тысячы, можна ўявіць, які цяжар лёг бы на плечы людзей, калі б прыйшлося за ўсё плаціць. Пройдзе яшчэ некалькі дзён, і пра гэты смерч будуць напамінаць толькі паламаныя верхавіны дрэў ды новыя дахі будынкаў.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Новыя правілы паводзінаў у навучальных установах першай ступені, прынятыя ў аргенцінскім горадзе Санта-Роса, прадугледжваюць шырокую гаму пакаранняў для школьнікаў, якія паводзяць сябе неналежным чынам. Першакласнікам, якія дазваляюць сабе пляваццa, прадпісана мыць рот мылам. Школьнікам, якія кідаюць хлеб на падлогу, пагражае іншае пакаранне: іх прымусяць з'есці кінуты кавалак. Спіс пакаранняў выпрацаваны з дапамогай навучэнцаў.

**Рэйтэр**

*Міжнародныя спаборніцтвы афіцыянтаў праведзены ў Парыжы. У іх прынялі ўдзел 364 работнікі харчавання. У рабочым адзенні і звычайных чаравіках, трымаючы ў руках паднос з напоўненай бутэлькай і трыма шклянкамі, яны павінны былі прабегчы па вуліцы французскай сталіцы восем кіламетраў і перасекчы лінію фінішу, пры гэтым нельга было, каб з падноса зляцеў хаця б адзін прадмет. Шкада, што афіцыянты развіваюць добрую хуткасць толькі на спаборніцтвах, а не на працоўных месцах.*

**Асашыэйтэд Прэс**

У Швецыі таксама здараюцца выбухі. Бомба ўзарвалася ў зале суда ў горадзе Эскільстуна, які знаходзіцца за сто кіламетраў ад Стакгольма.

У судзе разглядалася справа аб раздзеле маёмасці паміж былымі мужам і жонкай. Абмеркаванне, мяркуючы па ўсім, было такім бурным, што мужчына вырашыў пайсці на крайнюю меру. Ён выхапіў з сумкі дынаміт і крыкнуў, што разнясе ўсіх на часткі, калі яго патрабаванні не будуць задаволены.

Выбух сапраўды адбыўся, аднак загінуў толькі адзін чалавек — сам былы муж.

**«Известия»**

# АД ПАДКАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

**Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1996 года дапушчаны наступныя работы:**

**У ГАЛІНЕ НАВУКІ**

1. **Вайтовіч А.П., Кавалёў А.А., Машко В.В., Піліповіч У.А., Северыкаў В.М.**

Цыкл работ «З'явы анізатрапіі ў лазерах і прынцыпы палярызацыйнай лазернай спектраскапіі».

*Прадстаўлены Інстытутам малекулярнай і атамнай фізікі АН Беларусі.*

2. **Карзюк В.І., Радына Я.В., Юрчук М.І.**

Цыкл работ «Апаратарныя метады ў дыферэнцыяльных ураўненнях».

*Прадстаўлены Беларускім дзяржаўным універсітэтам.*

3. **Хрыпач У.А., Жабінскі У.М., Альховік В.К., Ліцвіноўская Р.П., Завадская М.І., Лахвіч Ф.А.**

Цыкл работ «Сінтэз, даследаванне і прымяненне брасінастэроідаў — новага класа гармонаў раслін».

*Прадстаўлены Інстытутам біяарганічнай хіміі АН Беларусі.*

4. **Гурын В.М.**

Цыкл работ «Механізмы тэрмарэгуляцыі ў норме і паталогіі».

*Прадстаўлены Інстытутам фізіялогіі АН Беларусі.*

5. **Сярова З.Я., Гесь Дз.К., Падчуфарава Г.М., Спірыдонава Г.Я., Юшка Л.С.**

Цыкл работ «Фітапатафізіялогія. Функцыі макрамалекул у патагенезе і яго рэгуляванне».

*Прадстаўлены Інстытутам эксперыментальнай батанікі імя В.Ф. Купрэвіча АН Беларусі.*

6. **Мураўская Г.У., Круціліна Н.І., Мілеўская Т.Г., Марозкіна Т.С., Сукалінскі У.М., Таруцін І.Г.**

Цыкл работ «Распрацоўка і вынікі ўкаранення ў клінічную практыку новых высокаэфектыўных спосабаў дыстанцыйнай прамянёвай тэрапіі анкалагічных хворых».

*Прадстаўлены Навукова-даследчым інстытутам анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

7. **Сідарэнка Г.І., Паланецкі Л.З., Фралоў А.У., Нікіцін Я.Г., Міронччык У.У., Вараб'ёў А.П.**

Цыкл работ «Стварэнне новых метадаў і апаратуры для дыягностыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў на аснове мікрапрацэсарных і камп'ютэрных тэхналогій».

*Прадстаўлены Беларускім навукова-даследчым інстытутам кардыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

8. **Новікаў Дз.К., Бекіш О.-Я.Л., Бандажэўскі Ю.І., Новікава В.І., Цітоў Л.П., Федаровіч С.У.**

Цыкл работ «Патагенез, імунадыягностыка, тэрапія алергічных і імунадэфіцытных захворванняў і ўтварэнне алергалагічнай і імуналагічнай службы ў Рэспубліцы Беларусь».

*Прадстаўлены Віцебскім медыцынскім інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

9. **Шотт А.У., Трэцьяк С.І., Леанцюк А.С., Астапенка В.В., Абухоўскі А.А.**

Цыкл работ «Выяўленне новых заканамернасцей у транспланталогіі і абгрунтаванне на іх прынцыпах больш дасканалых метадаў перасадкі эндакрынных залоз і клапанаў сэрца».

*Прадстаўлены Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

10. **Высоцкая Н.Ф.**

Цыкл работ «Мастацтва Беларусі XII—XVIII стст.»

*Прадстаўлены Беларускім дзяржаўным універсітэтам.*

11. **Юрчанка Г.Ф.**

Цыкл работ «Слоўнік народнай мовы Мсціслаўшчыны».

*Прадстаўлены Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі.*

12. **Дробаў Л.М., Сахута Я.М., Жук В.І., Карнач П.А., Масленікаў П.В.**

Цыкл работ «Гісторыя беларускага мастацтва».

*Прадстаўлены Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы АН Беларусі.*

**У ГАЛІНЕ ТЭХНІКІ**

1. **Шурынаў В.А., Дубіна А.А., Кузмічэнка П.А., Луцкая І.К., Дарошкін Л.К.**

«Стварэнне канструкцыі і арганізацыя вытворчасці уніфікаванага рада стаматалагічных комплексаў «Белдэнт».

*Прадстаўлена Галоўным спецыялізаваным канструктарскім бюро па комплексу кормаўборачных машын вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш».*

2. **Грыгор'еў А.М., Кляцкоў Я.Л., Кузьмічоў Г.П., Русецкі А.М., Яновіч І.П., Астроўскі Ю.П.**

«Распрацоўка штучных клапанаў сэрца, укараненне ў медыцынскую практыку і арганізацыя серыйнай вытворчасці».

*Прадстаўлена Дзяржаўным навукова-вытворчым канцэрнам дакладнага машынабудавання «Планар» Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь.*

3. **Плескачэўскі Ю.М., Томчын Л.І., Прушак В.Я., Сычэўскі У.А., Багдановіч П.М., Шчэрба У.Я.**

«Распрацоўка і асваенне вытворчасці стужкавых канвеераў для горназдабываючай прамысловасці Рэспублікі Беларусь».

*Прадстаўлена Інстытутам механікі металапалімерных сістэм імя У.А. Белага АН Беларусі.*

4. **Белавус А.І., Гурскі Л.І., Карпаў І.М., Сілін А.В., Смірноў Г.А., Сцепанец У.Я.**

Цыкл работ «Распрацоўка і рэалізацыя метадаў праектавання мікрапрацэсарных вялікіх інтэгральных мікрасхем для прамысловай і бытавой тэхнікі».

*Прадстаўлены Канструктарска-тэхналагічным бюро «Белмікрасістэмы» навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл».*

**ПАДРУЧНІКІ**

1. **Гуськоў В.У., Атаманаў Ю.Я., Байкоў У.П., Богдан М.У., Бялоў С.М., Ксяневіч І.П.**

Цыкл работ «Трактары» — падручнікі для ВНУ.

*Прадстаўлены Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.*

2. **Дастанка А.П., Пікуль М.І., Хмыль А.А.**

Цыкл работ «Тэхналогія вытворчасці ЭВМ, фізіка-хімічныя і тэхналагічныя дысцыпліны радыё- і электронна-вылічальнага профілю» — падручнікі для ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных установ.

*Прадстаўлены Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.*

3. **Емелічаў У.А., Мельнікаў А.І., Сарванаў У.І., Тышкевіч Р.І.**

«Лекцыі па тэорыі графаў» — вучэбны дапаможнік для ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных установ.

*Прадстаўлены Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.*

❑❑❑

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі звяртаецца да кіраўнікоў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, навуковых і навукова-тэхнічных таварыстваў, вытворчых аб'яднанняў, прадпрыемстваў, міністэрстваў і ведамстваў з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне ўказаных работ і аўтарскіх калектываў.

**Водгукі, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарскіх калектывах просьба накіроўваць у Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі да 15 верасня 1996 года па адрасу: 220072, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 66, пакой 317; тэл. 268-54-56, 268-53-43.**



*Віншуем НАВУМАВА Сяргея з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і ўсяго самага добрага.*

***Сястра Іна і яе муж Дзіма.***

***

*Шчыры дзякуй работнікам рэанімацыйнага аддзялення Верхнядзвінскай ЦРБ, а таксама вялікі дзякуй ПРЫМАКОВУ Аляксандру Філімонавічу за выратаванне нашага сына Андрэя. Жадаем ім моцнага здароўя, шчасця і далейшых поспехаў у працы.*

***Ад імя ўсёй сям'і Ганна Міронава.***

## Віншуем!

*Былому супрацоўніку нашай газеты, адказнаму сакратару «Звязды» канца 70-х—пачатку 80-х гадоў Уладзіміру Кузьмянкову — шэсцьдзесят гадоў! Амаль чатыры дзесяцігоддзі шчыруе ён на ніве беларускай журналістыкі. У яговых нарысах, карэспандэнцыях, інтэрв'ю, аналітычных артыкулах — летапіс нашага няпростага, супярэчлівага і неадназначнага жыцця. Пра шчырых і сумленных працаўнікоў-беларусаў ён пісаў і піша натхнёна і праўдзіва. А яшчэ ва Уладзіміра Іванавіча тонкі і памяркоўны, няўрымслівы і пільны пісьменніцкі позірк: ён — член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Зычым калегу, старэйшаму сябру і аднадумцу моцнага здароўя, плёну на ніве творчасці, даўгалецця ў рэдактарскім крэсле «Медыцынскага весніка». Так трымаць, Уладзімір Іванавіч!*

**Звяздоўцы.**

СПОРТ-ЭКСПРЭС

## ГІМНАСТЫ АДБЫВАЮЦЬ У АТЛАНТУ

Сёння Алімпійская зборная Беларусі па гімнастыцы адбывае на перадалімпійскі збор у Атланту, дзе яна і сустрэне Алімпіяду. У саставе каманды Віталь Шчэрба, Іван Іванкоў, Алена Піскун, Святлана Багінская... Гэта, можна меркаваць, надзея беларусаў на XXVII летніх Алімпійскіх гульнях.

Напярэдадні адлёту за акіян усю гімнастычную зборную вітаў міністр спорту і турызму РБ Уладзімір Рыжанкоў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.38 | 21.45 | 17.07 |
| Віцебск — | 4.20 | 21.44 | 17.24 |
| Магілёў — | 4.28 | 21.34 | 17.06 |
| Гомель — | 4.35 | 21.22 | 16.47 |
| Гродна — | 4.56 | 21.59 | 17.03 |
| Брэст — | 5.05 | 21.50 | 16.45 |

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 24 чэрвеня**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Елісея, Мяфодзія, Мсціслава (Георгія)**
**К. Маці Божай Нястомнай Дапамогі, Ёанны, Уладзіслава**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўднёваму ўсходу дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гомелі — 16—18, Мінску, Магілёве, Віцебску — 17—19, Гродне, Брэсце — 18—20 градусаў.

У наступныя двое сутак: 29-га ўначы — па ўсходніх, удзень — па заходніх раёнах дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 6—11, удзень 28-га — 14—19, 29-га — 16—21 градус цяпла.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 27 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца ўначы полем павышанага, а ўдзень — полем паніжанага атмасфернага ціску, што прывядзе да нязначнага паніжэння ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры чакаецца крыху вышэй за сярэднія шматгадовыя даныя. У такіх умовах паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый у большасці метэазалежных хорых малаверагоднае. Аднак асобы, схільныя да паніжэння артэрыяльнага ціску, могуць адчуваць слабасць, санлівасць. Такім хворым рэкамендуецца прымаць лёгкія танізуючыя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# ЛЁСЫ

# «Я — ТЭРАРЫСТ, адзін з многіх, усё жыццё буду гэта адчуваць і размаўляць з тымі, каго забіў. Інакш нельга — за ўсё трэба плаціць»



**МЫ СУСТРЭЛІСЯ з ім у электрычцы, едучы разам у аршанскім напрамку. Разгаварыліся. Ён — былы савецкі, потым беларускі афіцэр, а зараз — беспрацоўны. Падпрацоўвае начным вартаўніком на нейкім складзе, лічыць капейкі. Калі даведаўся, што працую журналістам, расказаў пра падзеі паўгадовай даўнасці...**

### «МЫ ЎСЕ ЖЫВЁМ ПАДМАНАМ І КРЫВЁЮ»

...— Я, ведаеш, паўгода таму вярнуўся з Чачні, — такімі словамі пачаў мой дарожны знаёмец сваю споведзь. — Прабегаў тады пад кулямі амаль шэсць месяцаў і зноў прыехаў у родную Беларусь. Зведаў крыві і выбухаў, а пасля вырашыў вярнуцца. Ты ўжо, мабыць, уяўляеш мяне нейкім героем? А што будзеш думаць, калі я скажу табе, што ваяваў на баку так званых «чачэнскіх сепаратыстаў»? Так, менавіта на баку паўстанцаў, як яны сябе называюць. Пайшоў я на гэта асэнсавана, з поўным разуменнем таго, што мне прыйдзецца рабіць. Карацей кажучы, ішоў на вайну. Маё папярэдняе жыццё (да Чачні) наўрад ці цябе зацікавіць — афіцэр... Аць-два, заняткі на пляцы, паходныя ўмовы жыцця, але ж і грошы тады былі неблагія. Таму і жонка, нягледзячы на ўсе шматлікія блуканні па Саюзу, заставалася побач. А як пагналі мяне з войска, яна і збегла. Пагналі за тое, што стукнуў салдата далонню па твары, не змог стрымацца — так давёў ён мяне, паразіт. Прыйшлося падаваць рапарт аб звальненні. За два гады да пенсіі. Ну як гісторыя, уражвае? Не думай, калі ласка, што хачу выціснуць з цябе кракадзілавы слёзы, не. Я для таго ўсё так падрабязна расказваю, каб ты зразумеў, чаму я сярод чачэнскіх джыгітаў апынуўся.

Пайшла мая жонка да другога, хутка знайшла, да каго пайсці. Развод афармілі, таксама нервы пайшлі і на гэты «працэс». Кватэру ёй пакінуў, сам пайшоў жыць у інтэрнат — старыя сябры па войску дапамаглі. Я ў той час не мог ні з кім нават размаўляць, сядзеў адзін у пустым пакоі і глядзеў у акно, глядзеў і нічога не бачыў. І да таго сябе давёў, што ўжо амаль развучыўся з людзьмі размаўляць. Пачаў і «дах ехаць» — сны нейкія, альбо не сны. Карацей кажучы, апынуўся я тады ў такой бездані, адкуль не бачыў аніякага выйсця. Зараз, аналізуючы тое сваё становішча, магу з упэўненасцю сказаць, што быў на мяжы самагубства. Хадзіў уначы па ўсялякіх завулках, піў без просыпу. І тут падвярнуўся нейкі чалавек, які абяцаў дапамагчы мне і грошы зарабіць, і аднавіць маю вайсковую кар'еру. Я, нават не пытаючы нічога, адразу згадзіўся. На наступны дзень я і яшчэ чалавек пяць на чале з незнаёмцам (пазней я даведаўся, што ён з'яўляецца адным з асноўных вярбоўшчыкаў на Беларусі і на мяне выйшаў выпадкова) выехалі ў Маскву, адкуль потым перабраліся ў Грозны, а потым у месца прызначэння, невялікую вёсачку. Назву я табе казаць не буду, таму што гэта мне чачэнцы забаранілі рабіць, ды і навошта табе ведаць. Лепей пра свае ўражанні раскажу, гэта куды больш цікава.

### «Я НЕ ЖАДАЮ БАЧЫЦЬ БУДУЧАГА. Я СТАРАЮСЯ ЗАБЫЦЬ АБ МІНУЛЫМ. У МЯНЕ НЯМА РАДЗІМЫ, НЯМА ІМЯ, НЯМА СЯМ'І»

— Я ў Чачні. Своеасаблівы пункт размеркавання прыбываючых наёмнікаў. Наша група з пяці чалавек разышлася ў розныя бакі Чачэнскай Рэспублікі, і дзе яны зараз, я не ведаю: трэнер спартшколы, два прапаршчыкі запасу, былы наладчык аднаго з мінскіх заводаў і так званы «чаўнок». Гэты, апошні, усё прыкідваў, колькі ён прывязе з сабою «чачэнскіх» грошай, якія яму будуць плаціць як наёмніку. Цьфу, менавіта вось такія і гатовы прадацца, як Іуда, за трыццаць срэбранікаў. Гэта ты з поўным правам можаш сказаць, вядома, і пра мяне, але, павер, я ехаў не столькі за грашыма (хаця і за імі таксама, каб вярнуцца з поўнымі кішэнямі «зялёных» і запрасіць сваю былую жонку ў самы лепшы круіз), колькі з той мэтай, каб схавацца ад сябе, ад той адзіноты, якая літаральна з'ядала мяне не па днях, а па гадзінах. Калі я прыехаў у Чачню, я ўжо не быў тым жыццярадасным, крыху сіваватым малайцом-афіцэрам. Я стаўся поўнасцю сівым чалавекам з патухлымі вачыма і згорбленай постаццю. Я быў амаль што дэградзіраванай асобай, здольнай выконваць усё, што скажуць. Кантракт (а я заключыў яго на тры месяцы з выплатай грошай толькі пасля заканчэння ўстаноўленага тэрміну) нібыта ў нейкім амарачэнні падпісваў, не разумеючы ні таго, што там напісана, ні таго, што я буду абавязаны рабіць у адпаведнасці з падпісаным. Дакументаў у мяне ніякіх не патрабавалі — маё імя і прозвішча, а таксама ўсё былое жыццё засталося недзе далёка, ва ўспамінах. Будучае мяне не хвалявала — далі аўтамат, патроны, абмундзіраванне. Я стаў на шлях вайны на баку чачэнцаў, зрабіўся наёмнікам, г. зн. за грошы пачаў абараняць далёкія мне ідэалы, змагацца за «вызваленне Чачні ад расійскай поскудзі». Так мне казалі. І я ўжо з'яўляўся не Івановым Іванам Іванавічам, а воінам «свяшчэннай вайны супраць іншаверцаў». Хаця расійскія салдаты не былі для мяне іншаверцамі, веры я з імі адной, толькі знаходзіліся па розныя бакі вайны. Яны — захопнікі, мы — паўстанцы, змагары. Таму іх патрэбна знішчаць.

Ведаеш, калі зараз гляджу на падзеі ў Чачні па тэлевізары, нават усміхаюся, так усё «прылізана». Імкнуцца знайсці нават нейкую «праўду пра чачэнскую вайну». Якая ж тут праўда, калі кроў льецца, нібы падфарбаваная вада, а людзі паміраюць як мухі — тысячамі. Зразумець падзеі, якія адбываюцца зараз там, немагчыма. Бо няма такіх прынцыпаў, дзеля якіх я, прафесіянальны афіцэр, павінен забіваць маладых хлопцаў, не праслужыўшых нават года ў войску, ці дзеля якіх такі ж афіцэр з расійскага боку будзе даваць загад аб знішчэнні мірных жыхароў, якія здаліся яму «нядобранадзейнымі». Рухавік гэтага канфлікту зараз знаходзіцца ў поўнай працоўнай сіле, патрабуючы ўсё новых і новых ахвяр з розных бакоў. І гінуць людзі.

### «КРОЎ МУЧЫЦЬ МЯНЕ»

Першага я забіў са снайперскай вінтоўкі, бо ён вельмі наблізіўся да нашага лагера (пасля падпісання кантракта мяне направілі ў горны лагер чачэнцаў). Малады такі хлопец, зняў пілотку, валасы кучаравыя. Можа, ён і пайшоў бы назад, але ж я па інерцыі цісануў на курок. Потым, калі глянуў у прыцэл, — ён ляжыць нерухома, а пад брывёю — барвовая пляма. Не паверыш, але ж мяне не ўзялі дрыжыкі, я не пачаў енчыць, толькі дзесьці ў глыбіні душы пачала спець думка аб тым, што я — забойца. Калі курыў, то рукі не дрыжалі і не было шкада забітага, але штосьці камяком стаяла ў грудзях. Я і зараз увесь час успамінаю таго, першага. Калі-небудзь бачу яго ў снах, як бы на мяне пырскае яго кроў, цячэ па твары і я прачынаюся ў халодным поце.

Пасля гэтага забіваў, і не раз, адчуваючы сябе заўсёды падонкам, наёмнікам. Але ж забіваў. На вайне не паспяваеш задумвацца аб маральным баку таго, што адбываецца, проста не паспяваеш. Робіш усё як бы машынальна. Раскаянне прыходзіць значна пазней, у мірных, далёкіх ад вайны абставінах, і мучыць страшна. Зараз мне калі-нікалі хочацца выйсці на вялікую плошчу і пакаяцца перад людзьмі ў тым, што зрабіў. Бо няма такога чалавека, які не адчуваў бы свае злачынствы. Таму барані цябе Бог трапіць калі-небудзь на вайну. Усё роўна на якім баку ты будзеш забіваць людзей і дзеля якой ідэі, кроў забітых не адступіць ад цябе ніколі — гэта самае страшэннае пакаранне. Так і я заўсёды адчуваю сябе тэрарыстам, хаця ніколі не быў у Будзёнаўску ці ў Першамайскім. А вось пачуццё адказнасці за гэты вандалізм жыве ў маім сэрцы.

Я ўдзельнічаў толькі ў лакальных канфліктах — спачатку трымалі на горнай базе, потым перакінулі ў распараджэнне адной з мабільных груповак. Яны дзейнічалі вельмі хутка і нечакана для расійскіх войскаў — набягалі і знікалі, наносячы страты. У баі за мной назіралі, бо я ўсё ж славянскага аблічча, хоць і наёмнік. Спачатку ставіліся з недаверам, а потым (я ж быў у Чачні амаль паўгода) неяк да гэтага ці то прывыклі, ці, можа, проста за мной перасталі сачыць.

Мяне, трэба сказаць, і выкарыстоўвалі для патрэбных паездак у расійскія гарады па зброю, таму што быў асобай не ўсходняга тыпу і добра ўсюды прапускалі. Зброя, якую атрымлівалі, была пераважна айчыннай вытворчасці: аўтаматы, кулямёты, агнямёты, ракетныя ўстаноўкі, пісталеты, чаго толькі не было. Сустракаліся і амерыканскія, ізраільскія, нямецкія «ствалы». З гэтых паездак я вынес перакананне, што за грошы можна набыць усё, за плату нас прапускалі нават расійскія ваенныя патрулі. Самі ставілі пад удар мірных жыхароў, ці, можа, не ведалі, на што ідуць? Добра ведалі і прапускалі, таму што добра плацілі.

Будучы наёмнікам нагледзеўся на ўсё — на забойствы, грабяжы, згвалтаванні, неверагодную жорсткасць, прычым з абодвух бакоў. Таму што ўсе гэтыя жудасці з'яўляюцца, скажам так, нязменнымі «спадарожнікамі» ўсялякай вайны. Чамусьці па тэлевізары заўсёды паказваюць сюжэты аб неверагоднай злосці чачэнцаў, зусім абмінаючы падзеі ў так званых расійскіх «фільтрацыйных лагерах». Я там пабыў і магу зазначыць, што, мяркуючы па кнігах Салжаніцына, нешта падобнае было раней, у сталінскія часы. Для ахоўнікаў не існуе нават такога паняцця, як чалавечае жыццё, проста не існуе. Могуць забіць проста так, дзеля забавы. Я, дзякуй Богу, збег адтуль і, праз нейкі час дабраўшыся да «сваіх», атрымаў грошы і вярнуўся ў Беларусь.

Усе тыя, хто думае, што наёмніцтвам можна зарабіць, жорстка памыляюцца, — гэта не тая прыгода, пасля якой весела і радасна на сэрцы. Кроў мучыць, разумееце, мучыць. Усе тыя грошы, што зарабіў, я аддаў у асноўным на дабрачыннасць. Не падумай толькі, быццам былы наёмнік становіцца ў нейкую позу і «распускае пальцы веерам». Так я свой грэх выкупляю, зарабіў на крыві — трачу на дзяцей. Так, на вайне няма вінаватых, але ж хто адкажа той маці, чыё дзіця я забіў. Яго, відаць, запісалі ў графу «страты», родныя атрымалі мізэрную падтрымку і бясплатную труну.

Я — тэрарыст, адзін з многіх, усё жыццё буду гэта адчуваць і размаўляць з тымі, каго забіў. Інакш нельга — за ўсё трэба плаціць...

### «Я НЕ ХАЧУ І НЕ ЎМЕЮ ЛЮБІЦЬ. ПРАКЛЯТЫ СВЕТ І АПУСЦЕЎ ДЛЯ МЯНЕ Ў ТОЙ ЖА ЧАС: УСЁ МАНА І ЎСЁ МІТУСНЯ»

Ён выходзіў раней, амаль адразу за Барысавам. Мы кіўнулі адзін аднаму, і былы наёмнік, а зараз начны вартаўнік, пайшоў да выхаду. Пайшоў у сваё беспрасветнае жыццё, жыццё без родных, без сяброў, без жонкі і дзяцей. У сваю бярлогу. Ён адгарадзіўся ад свету людзей, ад кахання і разумення. Мне стала боязна ад думкі, што ён, мабыць, страціў на той вайне сваю душу, прадаў яе за «зялёныя». І яшчэ страшней ад таго, што і зараз там ваююць такія вось наёмнікі, якія калечаць сябе і духоўна, і фізічна. Майму суразмоўцу яшчэ пашчасціла — ён вярнуўся дамоў, а для многіх падобны «ваяж» стаў апошнім у жыцці.

Гора таму народу, які не памятае свайго мінулага, і без таго насычанага войнамі. Жудасна, калі, як пісаў знакаміты тэрарыст і пісьменнік Барыс Савінкаў (цытаты з твораў якога я выкарыстоўваў у назвах раздзелаў): «Няма мяжы, няма канца і пачатку. Вадэвіль ці драма? Журавінавы сок ці кроў? Балаган ці жыццё? Я не ведаю. Хто ведае?»

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ТЭСТ

### ПРАВЕРЦЕ ВАШУ РЭАКЦЫЮ

Наўрад ці трэба тлумачыць, як важна для кожнага вадзіцеля мець добрую рэакцыю, умець хутка арыентавацца і імгненна прымаць правільнае рашэнне ў крытычнай сітуацыі. У многіх краінах, каб праверыць рэакцыю вадзіцеляў, існуюць розныя тэсты. Адзін з іх мы прапануем вам. Праверце сябе самі. Гэты тэст распрацаваны амерыканскім псіхолагам Блокам.

Ваша задача — па парадку адшукаць у табліцы лічбы ад 10 да 59, называючы іх услых. Вазьміце секундамер. Сутнасць тэста ў наступным. Калі вы выявіце, што на пошук кожнага наступнага ліку патрабуецца да 10 секунд — у вас добрая рэакцыя, ад 10 да 30 — рэакцыя вышэй за сярэднюю, больш за хвіліну — рэакцыя слабая, што гаворыць аб рассеянасці, недастатковай уважлівасці. Пры добрай рэакцыі вы павінны адшукаць і назваць ўсе чыслы па парадку не больш чым за 8 хвілін.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 34 | 19 | 42 | 54 | 45 |
| 26 | 16 | 39 | 28 | 57 |
| 40 | 35 | 14 | 56 | 30 |
| 12 | 29 | 44 | 51 | 23 |
| 50 | 43 | 36 | 24 | 11 |
| 37 | 20 | 55 | 32 | 47 |
| 25 | 41 | 17 | 53 | 38 |
| 13 | 22 | 48 | 10 | 58 |
| 52 | 18 | 21 | 31 | 46 |
| 27 | 49 | 33 | 15 | 59 |

## ПРАДАЕЦЦА

❑ інструкцыя прыгатавання піва і квасу дома па атрыманні п/пераводу на 15.000 руб. Звяртацца: 211412, Віцебская вобл., Полацкі раён, п/а Фарынава, дом 20, кв. 25.

❑ дом 10х13 з усімі выгодамі, ёсць тэлефон, гаспадарчыя пабудовы, 15 км ад Смаргоні, на рэчцы Ашмянка.

Тэл. у Стоўбцах 5-31-34.

❑ жылы дом у добрым стане ў в. Мялешкі (12 км ад г. Слуцка).

Даведкі: у Слуцку (8-01795) 7-72-36; у Тураве (8-253) 5-11-50.

❑ цагляны дом з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Новая Гусявіца Гомельскай вобл. Звяртацца: г. Барысаў-15, вул. Чыгуначная, 24б, Баньковай.

❑ дом у г. Кобрыне, ёсць сад, агарод.

Тэл. у Кобрыне (8-242) 2-14-10.

Тэл. у Мінску 265-74-61.

❑ дом драўляны, 49 кв. м, з надворнымі пабудовамі, участак 40 сотак, сад у в. Прудок Светлагорскага раёна.

Тэл. (8-023-42) 9-66-88.

❑ дачны домік і зруб 5х8 на знос. Цана дагаворная. Адрас: 223110, г. Лагойск, в. Зялёны Луг-28, Навіцкая.



## ТЭЛЕБАЧАННЕ на 27 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**9.00** «Камісар Рэкс». 2-я серыя.
**9.55** Радавод. Трэці фестываль беларускай полькі. Перадача з Гомеля.
**10.35** Каралеўскае паляванне.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** Студыя «Існасць». «Свята-Еўфрасіннеўскія чытанні».
**16.40** «Куды пайсці вучыцца?»
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Роднае слова. Тэленарыс.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Камісар Рэкс». 3-я серыя.
**20.05** «Оскар». Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** «Каралева Марго». Маст. фільм. 8-я серыя.
**23.05** «Крок». Праграма для моладзі.
**23.35** Па старонках I Нацыянальнага фестывалю «Музыка і тэатр». 2-я частка.
**0.20** Навіны.

**ГРТ**

**9.05** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян.
**9.30** «Клуб падарожнікаў».
**10.15** «Дракон». Мультфільм.
**10.40** Смак.
**11.10** Тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету».
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.45** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** Рок-урок.
**16.30** «Сем дзён спорту».
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато-Мільён.
**19.00** «Сам-насам».
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Праграма перадач.
**20.45** Прыгодніцкая камедыя «Банзай!»
**22.40** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.
**23.45** «Футбольны клуб зорак расійскай эстрады прадстаўляе».
**0.15** «Гардэмарыны, наперад!. 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

**16.00, 19.00, 22.00, 23.10** Весткі.
**16.50** Кліпантракт.
**16.55** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял для падлеткаў.
**17.20** Ваш партнёр. «Дыямір».
**17.30** Працей простага.
**17.55** Шостае пачуццё.
**18.25** Нічога, акрамя...
**18.40** «Цёмная» для Г.Толчыка.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Эх, дарогі.
**21.00** Надвор'е.
**21.05** «Востраў Паскалі». Маст. фільм.
**22.55** Дзённік чэмпіянату Еўропы па футболу.
**23.25** Валейбол. Сусветная ліга. Фінал. Перадача з Ратэрдама.

**НТБ**

**17.00** Тэніс. Уімблдон-96.
**18.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Сюзан Сэрандон, Кевін Костнер і Цім Робінс у камедыі «Дарэмскі бык» (ЗША).
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Дэтэктывы Д. Х. Чэйза. «Рэквіем для голаса і фартэпіяна». 1-я серыя (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00**. «Сёння» Начны выпуск.
**23.20** Тэніс. Уімблдон-96.
**0.15** Маст. фільм «Дзень свінні» (Фантастычны свет Іераніма Босха), (Італія).

**Санкт-Пецярбург**

**16.05** «Фудзіяма». Дак. фільм (Японія).
**16.30** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** Толькі без панікі.
**17.30, 18.00** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.35** Вялікі фестываль.
**19.05** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** Выбіраем прэзідэнта.
**21.00** Спорт.
**21.05** «Рэкет». 4-я серыя.
**22.10** «На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.
**22.25** «Пекла, ці Дасье на самога сябе». Маст. фільм. 2-я частка.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 3189.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.